# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

7

1936



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА СЁМАЯ*





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1936

# ПІСЬМО БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ

## ДАРАГІ ІОСІФ ВІСАРЫЁНАВІЧ!

З-пад пушчаў Палесся, з-пад Нёмана, Сожа,
З-пад Пцічы, Дняпра і Заходняй Дзвіны,
З-пад стыку са светам чужым і варожым
Прышлі мы, Совецкай краіны сыны.

Раскажам табе мы праўдзіва быліны
Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым,
Як мы разагнулі прыгнутыя спіны
Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.

Нам новыя далі раскрыты сягоння,
Вялікія сілы сабраны табой,
І самыя мудрыя ў свеце законы
Напісаны смела тваёю рукой.

Твая Канстытуцыя—гордасць Советаў,
Твая Канстытуцыя—ленінскі гімн,
Як здань комунізма—над выцвіўшым светам,
Як сцяг комунізма—совецкіх краін.

Сям'ёю народаў шчаслівага краю
Табой узгадованых у барацьбе —
Свайго вызвалення мы дзень услаўляем,
І песню пра шчасце прыносім табе.

А там, за Сулою, па той бок граніцы,
Дзе звесілі дзюбы панура арлы,
Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы
У панстве фашызма, крывавай імглы.

І сёння там ходзіць галеча ў лахмоцці
Пад звон набажэнства, пад голас маны,
І сёння там слёзы, нуда, безработце,
Ды горкія песні ды скаргі адны.

Загнаны ў падполле там лепшыя людзі,
На „крэсах усходніх" лютуе жандар.
За вольнае слова катуюць і судзяць,
Астрогі там поўны нявінных ахвяр.

Сялянскія гоні адзеты ў кайданы,
У вузкія межы ўвагнаны палі.
Гаруе там брат наш, гібее пад панам,—
Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі...

А ў нас стаў квітнеючым край беларускі,
Змяніліся людзі, аблічча зямлі—
Заместа палосак, убогіх і вузкіх,
Калгасныя нівы, як мора, ляглі.

Заместа праклёнаў і песень тужлівых,
Што поўнілі сэрца, як горкі палын,
Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых,
Як гімн перамогі совецкіх жанчын.

Няма больш забітай нядоляй рабыні,
Заместа прыбітых балесных жанок,
Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне,
Іх ведае поле, рабочы станок.

Яны—трактарысткі, яны—брыгадзіры.
З іх многа у нашых советах старшынь.
Іх тысячы стала, адданых і шчырых
На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.

А глянеш на поле, на лес, на даліны,
Паслухаеш гоман і шум гарадоў,
Ты стала нам роднаю, наша краіна,
Як родная партыя бальшэвікоў.

А нашы балоты! Клялі іх калісьці,
Сягоння—наш скарб яны, спраўджаны сон.
Сягоння там жыта, з якога не выйсці,
Мурожныя травы, каноплі і лён.

А нашы дарогі! Праз немарач, нетры
На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.
Гудуць правады над шляхамі ў паветры,
Што жыць стала добра на нашай зямлі.

Маўчаць урачыста лясы і курганы,
Хаваючы былі пад шатамі хвой.
Хадзілі калісьці сюды партызаны,
На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой.

І многа палегла адважных герояў
У бітвах з панамі па выспах балот.
Шумяць аб іх долі кашлатыя хвоі,
Ды верас ружовы іх славіць паход.

Загоены раны, сляды ліхалеццяя,
Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.
Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце—
Калгасы, соўгасы і гарады.

А нашы граніцы бетонам заліты,
Мы чуйна вартуем совецкі фарпост,
Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты,
Касцямі палягуць яны на пагост!

У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку,
Як дні, так і ночы наш слаўны дазор
Не зводзіць з граніцы арлінага вока,
Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.

І мірныя людзі—іх сотні іменаў—
Вартуюць нядрэмна свае рубяжы.
А ў часе трывогі паўстануць мільёны,
І вораг не пройдзе совецкай мяжы.

Мы ўсе згуртаваны адзінаю воляй,
Адзіным пачуццем, жаданнем адным.
Не верне былога ніхто і ніколі,
У прах яно пала і знікла, як дым.

* * *

А было нядаўна, а было калісьці,
Калі мы з зямелькі не мелі карысці,—

На абед была нам лебеда з мякінай,
А далей—магіла пад сухой асінай.

На палетках—межы, між народаў—межы,
Па ўсёй Беларусі—глушыні мядзвежай,

Папалам дзялілі, пад адным прымусам,
Гора і галечу яўрэй з беларусам.

Яшчэ сёння глянеш—курганы, магілы
Сведкі даўніх боек варожае сілы.

Біўся кароль шведскі на нашых загонах,
Біўся з рускім царам за троны, кароны.

Тут палі таптала войска Бонапарта,
Тут жыццё людское ставілі на карту.

Ішоў год за годам, ішоў век за векам,
А мы пад няволяй, пад вячыстым здзекам.

Паны і жандары, ды ксяндзы з папамі
На шыях народных селі груганамі,

А яны заўсёды катаваць умелі
Ад святой нядзелі да святой нядзелі.

Бізуны і розгі жудка секлі плечы,
І нагайка секла і ланцуг калечыў.

Яснага прасвету ад радзін да смерці
У жыцці не зналі ні бацькі, ні дзеці.

Не раз бунтаваўся народ супроць катаў,
Паўставаў і нішчыў палацы магнатаў.

Нам-жа знішчыць катаў не хапала сілы,
Зноў паны-магнаты гналі у магілу.

Сіроты і ўдовы пралівалі слёзы
На лясы сухія, на ніцыя лозы.

Гэтак вёсны, леты, восені і зімы
Гора песні пела на зямлі радзімай.

Гора песні пела, пела, не сціхала,
Ды як-бы нядолі было людзям мала.

Грымнулі гарматы у нядобрым часе,
І дымам-пажарам зямля абвілася.

Пашло спусташэнне, пашло зніштажэнне,
Беларусь загразла ў крыві па калені.

Бежанцамі людзі пабрылі па свеце
Шукаць па дарозе голаду і смерці.

І гінулі марна без хаты, без хлеба,
І думалі людзі, што гэтак і трэба.

А вакол агнішчы, а вакол атрута,
Брат страляе брата, звяр'ё вые люта.

Бліндажы, акопы зрэзалі краіну,
Валяюцца трупы побач бацькі з сынам,

Груганы на полі падбіраюць косці,
Груган заклікае гругана у госці.

Канаюць салдаты у разні крывавай
Паны-генералы падбіраюць славу.

Вырастае сіла гневу над сусветам
Ї прышоў Кастрычнік і прышлі Советы.

Але на Советы рынуліся зграяй,
Зноў нядоля вісне над гаротным краем.

Ї паны нацдэмы з „высокае рады“
Рады, што германцы захапілі ўладу.

Пішуць лісты, пішуць нямецкаму цару:
Заставайся, цару, у нас гаспадарыць.

Народ беларускі аддаем да скону
У раздроб і оптам пад тваю карону.

Потым Бела-Польшча жаўнераў нагнала,
Князі і магнаты ды графы навалай

Рынуліся ў бітву, на нашае гора,
Ваяваць за Польшчу „ад мора да мора“.

Зноў загаласілі мястэчкі і сёлы,
Гарады замёрлі, жудасць, смерць вакола,

Вісельні скіголяць, грухацяць расстрэлы,
Пагром за пагромам, свет у дыме белы.

Кіеў у пажары, і Менск у пажары,
Чыняць суд, расправу польскія жандары.

Ой вы, пушчы нашы, ой ты, наша поле,
Вы яшчэ не зналі гэткай горкай долі!

Але банду белых панскіх легіёнаў
Выгнала адвага арміі Чырвонай.

Сцяг чырвоны ўзвіўся над Менскам-сталіцай,—
Годзе табе, пане, у нас весяліцца!

Ї ўцякала зграя паноў да Варшавы,
У нас збаляваўшы свой банкет крывавы.

Ї ўздыхнуў свабодна край наш яснай доляй,
Подлым акупантам не вярнуцца болей!

* * *

Цяпер прыгадаеш былую навалу,
Дык сам застанешся ўспамінам не рад:
У вёсцы маленькая кузня стаяла,
Ў мястэчку стаяў саматужны варштат.

Быў бровар у пана, была сыраварня,
На беразе рэчкі кулацкі быў млын.
Чарнелі ў лясах адзінока смалярні,
Ў слабодках гібелі майстэрні аўчын.

Былі ў нас руіны, як помнікі часу,
Бядняцкая шыя была для ярма.
Была ў нас індустрыяй—фабрыка квасу,
А фабрыкай гневу—была ў нас турма!

Прайшлі беззаконня крывавыя годы,
Мы гордыя славай сваіх перамог.
І рокатны гул новых фабрык, заводаў
Зліваецца з песнямі новых дарог.

Пад Оршай на чорных балотных прасторах
Збудован БелДРЭС і, заместа лучын,
Ён ходзіць па хатах—святло сваё дорыць,
Ён сіла матораў, ён сэрца машын!

Пад Гомелем высіцца гмах Шклозавода,
У Гомелі вырас магутны Сельмаш.
Работа руплівая двух пяцігодак—
І ордэнам Леніна край зззяе наш.

Лясоў у нас многа, і робім мы з дрэва
Цудоўны, вясёлкавых колераў, шоўк.
Здабыты працоўнымі скарб Магілева
У нашу індустрыю горда ўвайшоў.

Лясоў у нас многа, і мы збудавалі
Ў Бабруйску сусветны лясны камбінат:
І там, дзе курныя, бедныя хаты стаялі—
Паставіў ён тысячы сонечных хат.

Лясоў у нас многа, і стала, як звычай,
Што горад Барысаў, за якасць работ,
За скрынкі сваіх першакласных сярнічак—
Сцяг славы здабытай нясе з года ў год.

У Рэчыцы, Віцебску, Менску—усюды
Дзесяткі заводаў уведзены ў строй.
Як дзіўнаю казкай, як сталінскім цудам—
Валодаем тэхнікай перадавой.

У Крычаве горамі крэйда ляжала,
Там намі збудован цэментны завод.
А ў нетрах зямлі беларускай не мала
Яшчэ неразведаных новых парод!

Наш торф—гэта буйных багаццяў скарбніца:
І спірт, і апал, і ўгнаенне, і газ;
Наш торф—энергетыкі нашай крыніца,
І торф—матар'ял будаўніцтва у нас.

Квартал за кварталам растуць камяніцы,
Былое правінцыі гінуць сляды.
Наш Менск стаў сапраўднай культурнай сталіцай,
Растуць у рэспубліцы ўсе гарады.

Старога мястэчка даўно не спаткаеш,
Дзе гора брыло ад варот да варот.
Мы спадчыну ўпартаю працай змяняем:
Дзе кузня чарнела—сягоння завод.

За прасніцай болей не слепяцца вочы,
Як гэта заўсёды было на вяку.
Адзеты калгаснік, адзеты рабочы,
Дзяўчатам на свята хапае шаўку.

Шавец, і кравец, і ліцейшчык, і столяр,
І слесар, каваль, і друкар, і гарбар—
Іх цэх, як святліца, там сонца даволі,
Там кветкі, там болей не знаюць ахвяр.

Прамову тваю, правадыр наш, мы помнім
Пра ўзняты вялікі стаханаўскі рух,
Мы кожнае слова прачулі і сёння—
Адзін вырабляе, што некалі ўдвух.

Рушко, і Гунько, і Арэстаў, і Зубаў.
І Гладышаў, Мельнікава і Харнас—
І многа іх лепшых, настаўнік наш любы,
Твае гэта вучні—героі між нас.

Таварыш Вілетнікава і Слесарова,
Еўсюцїна, Розенберг, Туфар, Скабло—
Паэты ім дораць гарачае слова,
Ім славаю яснае сонца ўзышло.

Стаханаўскім стала жыццё маладое.
Стаханаўцы дочкі твае і сыны.
Растуць з комсамольскага племя героі,
Растуць з піонерскіх атрадаў яны.

Растуць нашы сілы за працаю плённай,
Не вырве ў нас вораг наш сталінскі руль.
І неба ў нас крэпасць сваёй абароны
І ў небе ў нас ходзіць крылаты патруль.

Адважны і пільны ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае што дня—
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока:
Якое раздолле, прастор, шырыня!

* * *

... Разліліся ляны ў полі возерам сінім,
Ячменямі красуюць, шумяць балаты.
Каласамі густымі наўсцяж па краіне
Ўзрастаюць пшаніцы, аўсы і жыты.

Спеюць поўныя соку купчастыя грэчкі,
Па садах палымнее вішнёвы пажар.
Як далёка яны—дні тугі і галечы,
Пра якія спяваў не адзін наш гусляр.

Беларускі мужык чалавекам стаў звацца,
Ён пазбыўся навечна нядолі шнуроў.
Мы за год ад зямлі маем столькі багацця,
Колькі мелі раней за дзесяткі гадоў.

Бо прышлі на палі трактары, як асілкі,
Здзірванелыя нівы плугамі падняць.
За сабою жняяркі вядуць і касілкі
І машыны, што бульбу садзіць і капаць.

А машыны працуюць і спорна, і дбайна,
Досыць сіл над сахою паклаў чалавек.
Горда полем шырокім праходзяць камбайны,
Ручаіны зернят паплылі у засек.

Людзі нашых калгасаў растуць з кожным годам,
Многіх ведае сёння Савецкі Саюз,
Атрымалі з іх семдзесят тры нагароду—
Ордэны за выдатную працу сваю.

Пра іх новыя склалі быліны і песні.
Наша гордасць сягоння яны і краса.
Вось Клішэвіч Васіль, брыгадзір на Палессі,
Трыццаць цэнтнераў даў нам з гектара аўса.

І не мала такіх па брыгадах і звеннях
Працавітых майстроў пладавітых зямель.
Засявае за змену таварыш Рудзеня
Адным трактарам семдзесят га канапель.

Спорна праца ідзе у калгасным парадку,
Узаралі апошняй вясной, як адзін—
Трактарыст Ахрамовіч, Пятровіч, Аладка
Па трынаццаць гектараў за дзесяць гадзін.

Сэрца наша жаданнем такім апавіта:
Працаваць, каб пазнаць усю радасць жыцця,
Так працуе таварыш Батоўкін Мікіта,
Спрактыкованы конюх з калгаса „Окцябр“.

У сваёй гаспадарцы, не знаючы страты,
Ён наладзіў такі клапатлівы дагляд—
Сорак шэсць у калгасе яго конематак,
Сорак шэсць ён гадуе ад іх жарабят.

А Ражкоў... Аб ім гоман ідзе па краіне
За сто трыццаць гадзін, як хвіліна адна,
На трапальнай электраматорнай машыне
Даў шэсць тысяч семсот кілограм валакна.

Стаў вясёлы той кут, дзе раней галасілі,
Дзе палын з крапівой мог спакойна расці.
Толькі частку вялікай мы працы зрабілі,
Але вёскі забітай нідзе не знайсці.

Вёскі той, што была нам пакутай вякамі,
Дзе жылі заадно—і святы, і вядзьмак,
У якой мы былі жабракамі, рабамі,
У якой панаваў-гаспадарыў кулак.

Адыходзіў ён з боем пад націскам нашым,
Нападаў спадцішка, і паліў, і страляў.
Мы зламалі яго сваім ладам калгасным,
Нам навечна аддадзена наша зямля.

Мы багатыя хлебам, і мясам, і рыбай,
І па трубах да хат прыбягае вада.
Зашумелі сады каля новых сядзібаў,
Пчолы рояцца спорна па нашых садах.

Многа новых раслін мы ў рэспубліцы маем,
Цвет мічурынскіх яблынь над краем павіс,
Вінаградныя лозы з паўднёвага краю,
А з усходняга краю прышоў кок-сагыз.

Ходзяць нашы каровы, авечкі гуртамі,
І што год усё большы прырост маладых.
Коні сытыя горача б'юць капытамі,
Першы маршал нам скажа, мы сядзем на іх.

Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць.

У часы адпачынку ў запале нястрымным
Маладосць весяліцца, аж хата звініць.
Ад душы табе скажам, наш Сталін любімы,
Як добра, як весела сёння нам жыць.

Стала светлай, пісьменнай наша краіна,
Забабонаў і прымхаў мы скінулі груз,
І не крыжык—адзнаку пакуты і кпінаў,—
А пісьмо табе піша цяпер беларус.

Сёння сотні сярэдніх, дзесяткі вышэйшых
Навучальных, даследчых у нас устаноў.
Маладосці на свеце няма шчаслівейшай,
Як у нашых шчаслівых дачок і сыноў.

У прасторныя, чыстыя, новыя школы
Яны кожную раніцу дружна ідуць.
Многа іх—белакурых, чарнявых, вясёлых,
Тваё светлае імя у сэрцах нясуць.

Галасы іх гучаць match рознастайнаю мовай:
Тут яўрэі, палякі і латышы,
Тут жыве беларускае, рускае слова,
А пачуцці адзіныя ў кожнай душы.

Беларускую мову трымалі ў загоне,
Каб народ не пазбыў нематы і бяды...
З намі гэтаю мовай гаворыць сягоння
Маркс, і Энгельс, і Ленін, і ты, правадыр.

Мы расцілі яе клапатліва, надзейна,
За яе правялі мы з нацдэмамі бой.
І даступнымі сталі нам Пушкін і Гейне,
Руставелі і Горкі, Бальзак і Талстой.

Гэтай мовай друкуюцца кнігі, газеты,
У мільёнах ідуць у сяло, ў гарады.
Гэтай мовай пісьменнікі нашы, паэты
Табе славу пяюць, дарагі правадыр.

Мы скарбніцы народнай культуры збіраем,
Мы багацце даўнейшых легенд беражэм.
Пра сучаснае новыя казкі складаем,
Пра жыццё наша новыя песні пяем.

У народаў рэспублікі—клубы, тэатры,
Велізарнейшы лік самадзейных гурткоў,
Кінофабрыка, паркі і здольныя кадры
Песняроў, кампазітараў і мастакоў.

Узрасло дзесяць тысяч работнікаў плённых:
Інжынеры і тэхнікі—фабрык майстры.
Трыццаць тысяч настаўнікаў, сотні вучоных,
Аграномы, асветнікі і дактары.

На вышыні навукі, з кайданаў раскутай,
Узняліся народы краіны цяпер,
Навуковыя маюць свае інстытуты
На чале з Акадэміяй БССР.

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі.
Да радасці партыя нас прывяла.
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог,
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню расцвіла, як дзяржава,
Ад шчырага сэрца удзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ.

Тут вучні твае нам яе узрасцілі,
Тут Фрунзе змаганне за партыю вёў,
Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Ежоў.

А гэтая партыя воляй адзінай
Здзейсняла нязменна указы твае,
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

І нашай, з народамі братнімі, дружбы,
Што гора былое змяла ў нябыццё,
Клянёмся: ніколі, ніхто не парушыць:
Яна—наша сіла і наша жыццё.

Калісьці яшчэ у падполлі глыбокім,
І Ленін і ты гэту дружбу каваў,
Праз цемру гадоў тых празорлівым вокам
Савецкіх рэспублік саюз аглядаў.

Народы сумесна прайшлі праз віхуры,
Сумесна сустрэлі свой радасны час.
І ад Негарэлага аж да Амура
Злучыла радзіма вялікая нас.

За гэту радзіму Кацельнікаў згінуў...
Яшчэ нават стрэл над зямлёй не заціх—
З Заходняй граніцы совецкай краіны
На ўсход ад'язджае Георгій Чэрных.

Радзіме байцы нашы шчыра адданы,
І ворагі моц іх паспелі адчуць.
Чырвонаармейцу—любоў і пашану
І песню адвагі народы нясуць.

Ні пядзі нікому зямлі не дадзім мы,
Ад ворагаў кожны вяршок адстаім:
Усім нам насустрач выходзіць радзіма
З вялікім і шчодрым багаццем сваім.

Яна надзяляе нас працай і славай,
Яна—гэта мужны, адважны народ,
Яна беражэ чалавечае права
На працу, на радасць, на творчы палёт.

Агні большэвіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі,
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.

Ты мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх у золак адзін.
Твая Канстытуцыя—сцяг пакаленняў,
Узнімае народы нявольных краін.

Усё, аб чым марылі людзі і снілі,
Прыбітыя гнётам, прakляццем старым,
У Совецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.

Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас—пра цябе.

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла,
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц—дарагі правадыр.

Праз тры рэволюцыі, бойкі, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр.

Табе—наша радасць, любоў і адданасць.
Табе—пяе славу сусветная шыр.
Вядзі, наш любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё—дарагі правадыр.

Ураду вялікай краіны Советаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвета
Падзяку прымі—дарагі правадыр.

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ!

**Пісьмо падпісалі два мільёны працоўных Совецкай Беларус.**

*Пісьмо беларускага народу вялікаму Сталіну ў вершах пераказалі паэты БССР:*

*Янка Купала,*
*Якуб Колас,*
*Андрэй Александровіч,*
*Пятрусь Броўка,*
*Пятро Глебка,*
*Ізі Харык.*

*Эдуард Самуйлёнак*

# ІЛІКО*)

Пад вечар аднаго дню аднекуль з гор прыйшоў моцны і гарачы вецер. Гэта было,—як памятае Іліко,—на другі тыдзень пасля смерці бабулі Анны. Іліко сядзеў пры вакне і бачыў, як шугануў вецер па балоце, як хвалямі закалыхаліся парослі чорнае вольхі, як прыгнулася трысцё на ўскраі вялікага багна, што было тут-жа каля вёскі, недалёка ад хаты, адзіным гаспадаром якой застаўся цяпер Іліко. Далей бачыў Іліко слупы жоўтага пылу, што віхрылі на вуліцы, бачыў, як сарваў вецер дах з суседскае павеці, у якой звычайна стаяў добры прыяцель Іліко, буйвал Уча. Вецер лёгка разнёс у паветры таўстыя сцяблы кукурузнае саломы, а стары Уча, устрывожаны нечаканаю бядой, лёгка разламаў сваю загарадку, сплеценую з хмызняка, і павольна выйшаў на вуліцу.

— Уча! Уча!—закрычаў Іліко—ідзі назад! Ты куды!

Іліко хацеў ужо саскочыць з лаўкі і бегчы на вуліцу, але з дому выйшаў сусед Коркія з кіем і Уча адразу павярнуў назад. Коркія загнаў буйвала ў загарадку і ўзяўся там нешта майстраваць, а Іліко захапілі іншыя падзеі. Па вуліцы прамчала свіння, акружаная вісклівым стадам парасят. Гэтую свінню Іліко ненавідзеў. У дзень пахавання бабулі Анны ён не здолеў як след наглядаць за агародам і свіння з усім патомствам добрых пару гадзін пасвілася ў градках фасолі. Мала таго, гэтыя брыдкія жывёлы ўвабраліся ў агуркі, і каб заплаканы, змарнелы ад гора Іліко нарэшце іх не заўважыў, усё было-б скончана з маленькім агародам Іліко Жванія. І ўсё з-за гэтага таўстога Сімона, які гандлюе віном у Поці, а тут трымае гаспадарку. Па ўсім пасёлку свінні і парасяты носяць на карку варотцы і гэты дзераўляны каўнер перашкаджае ім прабіваць лычом плятні і пралязаць у агароды, а Сімон—не хоча. Ён кажа, што гэта шкодна для свінні і нічога яму не зробіш, бо ён багаты і ўсе яго слухаюць.

— Праклятая свіння!—крыкнуў Іліко праз вакно.—Ты падобна да свайго гаспадара, тоўстага Сімона!—Гэтую лаянку ён чуў ад суседа Коркія, якому, відаць, таксама дакучыла нахабная жывёліна.

Вецер узмацняўся. Над хатамі хісталіся гнуткія высокія топалі і на іх запыленых вяршалінах быў развітальны водбліск сонца, што зніжалася недзе далёка, там, дзе ведаў Іліко—за балотамі пачыналася мора. Жоўтавы туман то ўсплываў над балотамі, то

---

*) Частка з рамана „Будучыня".

знікаў, разганяемы ветрам. Была душная прыпараная цеплыня. Усё больш цямнела і раптам убачыў Іліко вялікую хмару. Яна шырока раскінула грузныя чорныя крыллі, павольна пасоўваючыся на балоты, дзе бушаваў вецер, хісталася хуткае трысцё і шумеў узбунтаваны гушчар хмызнякоў. Уздыбленае шэрае лісцё серабрыстымі хвалямі калыхалася скрозь, як вокам глянуць і на гэта, на ўсё паўзла грозная, чорная цень. Іліко здзівіла, што хмара ішла як бы супроць ветру. Вецер дзьмуў з гор, а хмара рухалася наўскасяк, з мора і вось, нарэшце, яе чорнае крыло загасіла апошні цмяны прамень затуманенага сонца, запанаваў шэры змрок і раптам знік вецер. Стала так ціха, што чуваць было, як шапоча лісцё таполяў на вуліцы, як шуміць на балоце трысцё і ўзбунтаваны гушчар. Нарэшце, сціхла і гэта. Толькі паскрыпвала адчыненая фортка ў вакне Іліко і чуцен быў нейкі далёкі, глухі гул.

— Будзе дождж,—падумаў Іліко. Будзе вялікі дождж і грымоты.

Трывога сціснула яго маленькае сэрца, ён адчуў сябе адзінокім і бяспомачным, яму раптам стала страшна ў прывычнае цішы роднае хаціны. Ён прыўзняўся, каб закрыць фортку і раптам узарвалася цішыня, успыхнула ўсё навокал, і асеплены, аглушаны Іліко саскочыў з лаўкі. Асляпляючы бляск зноў разарваў змрок і ўдарыла гулка і суха два разы ўзапар.

— Авай-вава!—закрычаў Іліко, як гэта часта рабіла бабуля.

— Авай-вава!!! *)

Ён кінуўся ў цёмны кут, дзе ляжала яго посцілка. Іліко, які лічыўся адважным хлапчуком, страціў сваю смеласць у адзіноцтве і з галавой накрыўся коўдрай. Цяпер ён не бачыў маланкі, што паліла бурную муць неба, і толькі ўздрыгваў ад гулкіх пяруновых выбухаў. Аднастайны, звычайна заспакойваючы, шум дажджу, нерваваў і страшыў яго.

— Бабуля!—паціху енчыў Іліко,—бабуля, генацвале!**)

І раптам яму здалося, што нехта адкрыў дзверы. Іліко асцярожна сцягнуў з галавы коўдру і выглянуў на хату. Было цёмна зусім, нельга было нічога ўбачыць, але Іліко зразумеў, што дзверы сапраўды адкрыты, бо дагэтуль заглушаны шум дажджу быў выразным і ад парогу цягнула свежае, вільготнае паветра. Шырока адкрытымі вачыма Іліко глядзеў у цемру.

— Іліко!—ціха паклікаў жаночы голас,—Іліко!

Ён пазнаў голас Кето, сваячкі суседа Коркія, але быў настрашаны так, што замест адказу застагнаў як хворы.

— Што з табой, сіротка?—пяшчотна гаварыла Кето,—ты спудзіўся? Хадзі сюды, пойдзем да нас. Чаго ты сядзіш тут адзін...

Іліко ўзняўся, вобмацкам паправіў коўдру і рушыў да дзвярэй. Ён сустрэў прасцёртую руку Кето і ўхапіўся за яе.

— Я тут, цётка Кето...—сказаў ён, чапляючыся за яе мокры рукаў.—Я не баюся зусім. Ого! Раз я праз цэлую ноч начаваў на кургане Наохваму разам са старым Тапурыя. Туды ўсе баяцца хадзіць, а я не баюся...

*) Гора мне.
**) Літаральна: „хай замяню я цябе ў няшчасці".

Гаворачы гэта, ён калаціўся і ляскаў зубамі. Кето ціха засмяялася і вывела яго за рукаў з хаты. Яны крыху пастаялі пад саломенай паветкай, што была прыстроена над парогам. Дождж ужо не шумеў, як шуміць звычайны дождж. Паветра гуло і дрыжэла. Прабіваемае стромымі патокамі вады, яноператваралася ў густы і вязкі туман. Сіняватыя далёкія маланкі ўспыхвалі раз-па-разу і з шыпеннем і слабым трэскам, як запалкі, загасалі ў вадзяністай муці гэтых бурных прастораў. З-за гулу дажджу не чуваць было грымотаў.

Кето пацягнула Іліко за руку. Яны перабеглі вузкую вуліцу, перайшлі масток праз канаву, якая ўжо стала ручаём, і апынуліся на ганку дома Коркія. Кето ўзялася атрасаць вопратку. Іліко ўжо асмялеў і стаў гаваркім. Акрамя таго яму хацелася яшчэ раз упэўніць Кето, што ён не баяўся адзін у цёмнай хаце.

— На кургане Наохваму,—гаварыў Іліко,—вяпры! Ого, якія вяпры! У аднаго вяпра мы са старым Тапурыя стралялі са стрэльбы. Яго нельга забіць са стрэльбы, яго можна забіць толькі з гарматы,— так сказаў Тапурыя. Ён у дзесяць разоў большы за свінню таўстога Сімона... Мы са старым Тапурыя стрэлілі са стрэльбы, а вепр хацеў кінуцца на нас, а мы не спудзіліся...

Раптам сіняя маланка ўзрэзала дажджавую муць.

— Цётка Кето! —закрычаў Іліко.—Кето! У маю хату нехта пайшоў!!!

Кето схапіла яго за руку ізноў.

— Ніхто не пайшоў,—паспешна сказала яна.—Нікога там няма. Хадзем.

— Чалавек увайшоў у мой дом! Я сам бачыў...—крычаў Іліко.

Кето моцна пацягнула яго за руку ў сені і моўчкі адкрыла дзверы ў пакой. За сталом сядзеў сусед Коркія і Міха—аднарукі, яго старэйшы сын. Старуха Коркія рыхтавала вячэру. Убачыўшы дарослых, Іліко сціх.

— Прывяла?—усміхнуўся Коркія ў пасівелы вус.—Што-ж ты не вітаешся са старэйшымі? Гэта непрыгожа, бічо!

— Гоумарджос!*)—сказаў Іліко, знімаючы круглую войлачную шапку.—Да мяне ў дом пайшоў нейкі чалавек. Пойдзем, паглядзім.

Коркія кінуў быстры погляд на Кето, потым на Іліко.

— Калі пайшоў, то лепш мы паглядзім. Ты заставайся тут.

З другога меншага пакою выйшаў малодшы сын Коркія, дзевяцігадовы Вано, аднагодак Іліко. Убачыўшы прыяцеля, Вано ўсміхнуўся і падышоў да яго.

— Да нас?—сказаў ён ветліва.—Якраз добра. Мы заўтра пойдзем лавіць сазаноў... Яны на нач выйдуць з канавы на балота і мы іх наловім...

Ён перарваў гутарку, бо заўважыў, што бацька і Міха ідуць да дзвярэй.

— Куды яны?—спытаў Вано.

— У мой дом пайшоў злодзей,—важна адказаў Іліко.—Я хацеў ісці і злавіць яго, але мяне аднаго не пусціла цётка Кето.

---

*) Прывітанне. Азначае: „жадаю табе перамогі".

— Пойдзем разам,—ажывіўся Вано.—Іліко!

— Заставайцеся тут!—сурова спыніў яго Коркія.—Кето, выйдзі з намі.

— Вано, Іліко!—паклікала хлапцоў маці Вано.—Я вам дам сыру.

Гэта было неменш цікава чым затрыманне злодзея. Старая прынесла патэльню з падсмажаным сырам у бакоўку, і хлапцы спешна паследвалі за ёй. У той-жа момант адкрыліся дзверы, і Кето зноў увайшла ў хату.

— ... якая ты неасцярожная, Кето!—учулі хлапцы адрывак фразы.

Іліко выскачыў з бакоўкі. Ён здзівіўся, што вярнуліся гэтак хутка. Яму здавалася, што яны і з сяней не выходзілі.

— Ну? Што там, дзядзька Арцём? Злавілі?

Коркія прытрымаў яго за рукаў.

— Не заступай старэйшым дарогу, Іліко. Ты ўжо не малы і павінен ведаць, як сябе паводзіць... У доме нікога няма, бо цётка Кето замкнула дзверы і туды ніхто не мог трапіць. І калі ты заўтра будзеш расказваць другім, што нехта там быў у тваім доме, то ўсе падумаюць, што ты баязлівец і будуць смяяцца з цябе... Ідзі да Вано, вячэрайце і кладзіцеся спаць.

Мужчыны паселі за стол. Збянтэжаны Іліко хутка знік у бакоўцы, дзе Вано стараўся над патэльняй. Старая падавала вячэру. Кето прынесла на стол віно, што некалі Коркія прывёз з кірмашу, і мужчыны выпілі за нейчае здароўе. У Коркія свайго віна амаль ніколі не было. Маленькі вінаграднік звёўся яшчэ ў часы вайны, а завесці новы не ўдавалася, бо мала было зямлі і шмат едакоў. Сеялі кукурузу, фасоль, гародніну і так жылі.

Дарослыя вялі ціхую гутарку і хлапчукі да яе не прыслухоўваліся. Пакончыўшы з вячэрай, яны ляглі спаць побач. Некалькі часу абодвы маўчалі прыслухоўваючыся да роўнага і моцнага шуму дажджу. Потым Іліко ўпэўнена сказаў:

— Я-б злавіў яго.

— Каго?

— Злодзея.

— А калі ён дужы?

— І я не слабы. Я не баюся. А злодзей баіцца зірнуць гаспадару ў твар. Я-б злавіў яго, звязаў-бы яму рукі і прывёў-бы да старэйшых на сход.

— Ты-б не злавіў...—падумаўшы сказаў Вано.—У яго магла быць зброя. А вось бацька і Міха—злавілі-б...

— У Міха няма рукі,—заўважыў Іліко.

— Затое ён быў на вайне. Хто быў на вайне, той можа адной левай рукой перамагчы дзесяць самых адчайных марджа*), а правай яшчэ больш. У Міха няма левай рукі, а ёсць правая... Пры тым—ён герой. Яму самы старшы цар даў на вайне крыж... Ого!

Памаўчалі.

— Іліко! А ты-б хацеў, каб табе на вайне адарвалі руку?

— Навошта?

---

*) Малайцоў. (Абхазскае).

— Каб быць героем.

— Крыж лепш,—разважна адказаў Іліко.

— Дык калі табе руку не адарвуць, то не дадуць крыжа!.. Я-б хацеў. Я-бы прышпіліў крыж да грудзей, а рукаў, каторы пусты, заклаў-бы за пояс, як гэта робіць Міха... Тады я паехаў-бы на кірмаш у Сенакі і ўсе на мяне глядзелі-б... Вунь, сказалі-б: Вано Коркія пайшоў, герой, марджа...

— Спеце, сырныя чарвякі!—пачуўся голас Коркія.

Хлапцы сціхлі. Роўнамерны гул вялікага дажджу панаваў над усім. Паступова прыходзіў сон. Іліко пакінуў думаць аб злодзеях. Прыемная млявасць сну разбірала яго. Потым нехта (здаецца Арцём Коркія) нахіліўся над ім і, разгладжваючы вусы, сказаў:

— ... Нічога... Дзеці спяць... Я кажу, што калі не сціхне сёння дождж, нам за два дні не прабрацца балотамі...

Голас аддаліўся і сціх. Іліко спаў. Дождж шумеў над маленькім сяленнем. Над хатамі ў начной цемры хісталіся гнуткія таполі. Дождж грымеў над неабсяжнымі прасторамі дрыгвяное калхідскае нізіны. Тысячы тон вады нізрынуліся ў гэтую ноч на зямлю і магутная рака Рыон вынесла з берагоў свае мутныя, бурныя воды. На возеры Палеостом хадзілі пеністыя высокія хвалі, артылерыйскімі залпамі біў у берагі морскі прыбой, разліліся Інгур і Капарча, напоўніліся і выйшлі на нізіну шматлікія прытокі Рыона і нават здрадніцкая і страшная Кораці, рака без плыні, праўдзівей плывучая пагібельная дрыгва, зашумела ў гэтую ноч.

Па вуліцы маленькага сялення імчалі шумныя ручаі. Над хатамі хісталіся ў цёплай вадзяністай цемрадзі стройныя таполі.

Усюды спалі. Толькі ў вакне Арцёма Коркія мігцеў агеньчык.

Назаўтра раніцою дождж сціх. Стала душна, як толькі ўзышло сонца. Туман не разыходзіўся, бо не было ветру, а гусцеў, бо сонца грэла ўсё мацней. Балотныя абшары дыхалі туманам, ён узнімаўся ўсё вышэй і вяршаліны таполяў зануралісяў ім. Скрозь па ўзгорку сялення звінелі мутныя ручаі.

Іліко і Вано прачнуліся рана, на ўсходзе сонца. Першая думка Іліко была аб сваім доме, аб учарайшых падзеях. У пакоі нікога не было акрамя старой, якая перамывала начынне і нешта гаварыла пра сябе, відаць, нездаволеная.

— Пойдзем у мой дом, Вано,—сказаў Іліко. Трэба агледзець гаспадарку. Куды пашоў дзядзька Арцём, бабуля Коркія?

Старая нічога не адказала на пытанне Іліко і не спыніла хлапцоў, калі яны выходзілі.

— Ого!—весела закрычаў Вано, калі яны вышлі на ганак.— Паспрабуй пераскочыць без разбегу. Ну?

Ён скочыў і апынуўся на тым баку канавы. Іліко скочыў гэтак-жа, хаця можна было перайсці і праз масток. Кето, якая карміла курэй каля хаты, моўчкі глянула на хлапцоў і адвярнулася ў другі бок. На дзверах дома Іліко вісеў замок.

— Гэта не мой замок,—сказаў Іліко, націскаючы на слова „мой“,—мой замок меншы.

— Гэта наш замок,—адказаў Вано. Ён не мог сказаць „мой“ і зайздросціў Іліко, самастойнаму гаспадару. Яны зазірнулі ў вакно.

Усё было ў парадку, толькі Іліко здалося, што на стале павінен быў яшчэ ляжаць ладны кавалак пірага, які заставаўся пасля памінак. Але з рэштай, Іліко добра не памятаў, ці ляжаў там хлеб учора ўвечары. Магчыма ён і сам яго з'еў. Хлапцы пакруціліся каля вакна, потым Іліко крыкнуў да Кето:

— Гэта вы, цётка Кето, замкнулі на замок дзверы майго дому?

Кето нездаволена махнула рукой і нічога не адказала.

— У мяне там на стале кавалак хлеба ляжаў...—няўпэўнена сказаў Іліко.

— Сціхні!—крыкнула Кето.—Ідзі да нас, будзе табе чаго есці... Бяда з гэтымі малымі! Вано! Да хаты!

Стройная Кето пераскочыла канаву яшчэ больш спрытна, чым хлапцы і злавіла абодвых, перш чым яны паспелі перабрацца праз пляцень у агарод. Яна азірнулася. Нікога не было на вуліцы, ды калі хто і быў, нельга было ўбачыць за туманам.

— Мы хочам ісці ў балота на рыбу...—апраўдваючыся сказаў Іліко.—Там быў яшчэ кавалак „мчадзі"... Мы-б яго ўзялі з сабой.

Вано маўчаў, стараючыся вырвацца з рук цёткі. Такім чынам абодвы апынуліся ў хаце.

* * *

Па ўсёй нізіне Калхіды ад Кабулета да Сухума, на ўсіх гэтых неабсяжных прасторах балот, ляжаць старадаўнія курганы. Усяго іх налічваюць да чатырохсот. Яны ўзвышаюцца над зараслямі трысця і ольхі вялізнымі буграмі. Амаль кожны курган пакрыты раслінасцю: шыпшыннікам, крушынай і ольхай, за якія ахвотна чапляюцца жывучыя парасткі ліан. На самай вяршыні кургана—буйнейшыя пароды дрэў, пераважна букаў. Бук добра расце ў парнай цяплыні Калхіды, яго карэнні глыбока ўвайшлі ў старадаўную глебу курганоў і сям'я магутных дрэў высока ўзнімае свае вершаліны над балотамі і цёмная яркая зеляніна вабіць вока таго, хто заблукаўся ў небяспечных зараслях трысця, у багністым гушчары спавітых ліанамі хмызнякоў. Але дайсці да кургана не менш небяспечна, чым пераскокваць праз багны ці перабірацца праз іх па гнуткай тонкай жэрдцы. Курган акружаны ровам, іншыя з іх, нават, двума. Ірвы гэтыя шырокія, глыбіня іх мераецца сажнямі і замаскоўвае гэтую глыбіню тонкі пласт прэлага імху, на якім зыбаецца кволае трысцё. І чалавек, што пасля многіх гадзін небяспечнага падарожжа, ахоплены нястрыманым жаданнем хоць мінуту адчуваць пад сваёй нагою цвёрды грунт, можа лёгка загінуць у глыбокім ірве, варта яму толькі на момант згубіць асцярожнасць. Ён можа загінуць у двух кроках ад кургана, ад цвёрдае зямлі, ад гасціннае зялёнае засені, што абяцала адпачынак. І ніхто не прыдзе яму на дапамогу ў гэтых жудкіх дрыгвяных абшарах, дзе на сотні вёрст хмызняк, трысцё, атрутны туман, здрадная дрыгва, нязмераныя багны, хмары камароў над стаячымі рэчкамі і цвілымі канавамі, жоўты сон адвечных балот і над усім—палаючае сонца. Ён загіне, усплыве мох над ім, заплыве дрыгва і зноў будзе шапацець трысцё, гой-

даючыся ў засені высокіх букаў, што ўзраслі на вяршыні вялізнага кургана.

... хто насыпаў гэтыя курганы, што ляжаць па ўсёй туманнай нізіне Калхіды? Якія народы жылі тут, дзе цяпер не можа ступіць нага чалавека, дзе няма і жмені цвёрдай зямлі, акрамя гэтых-жа курганоў?

„У народаў, што жывуць на Фазісе, краіна балоцістая, гарачая лясістая і поўная вільгаці“.

Так запісаў старадаўні вучоны Гіпакрат. Ён вандраваў па гэтай краіне, ён прайшоў па топкіх берагах Рыона, калі яшчэ гэтую бурную раку звалі—Фазіс, і ад тае пары, прайшлі тысячагоддзі. Ці настолькі балацістай была гэтая краіна ў часы Гіпакрата? Мусіць не, бо адкуль-жа маглі ўзяць зямлю будаўнікі гэтых курганоў, калі над цвёрдым грунтам многасажнёвы пласт торфу і плывучае дрыгвы! Не, пры такіх умовах, тут не можа існаваць ні адзін народ і тут на сотні кілометраў нікога і няма. Толькі на ўзбярэжжы балот ляжаць рэдкія, закінутыя на маленькія астраўкі сяленні цярплівых і працавітых мінгрэлаў. Гэтая мёртвая прастрань—агромны рассаднік малярыі, тэрыторыя заразы і смерці. Тут няма нікога акрамя шакалаў і дробных вывадкаў вяпроў, што гняздзяцца на курганах. Не, мусіць не так было тут, у далёкія часы Гіпакрата! „... краіна балоцістая, гарачая, лясістая і поўная вільгаці“.

Гарачая... Поўная вільгаці... Які дзівосны сад квітнеў бы тут, каб рука чалавека адвяла воды горных рэк, што затапляюць нізіну, каб адступіла вада і зніклі балоты і ў тлустую цёплую глебу, што адпачывала тысячагоддзі, пяшчотная рука чалавека ўкапала маладыя парасткі новых раслін! Тагды-б ты ўстаў, Гіпакрат, з попелу вякоў, і прайшоў-бы праз краіну гарачую і поўную вільгаці, праз цудоўны сад, паўз берагі старадаўняга Фазіса! Што-б напісаў ты, Гіпакрат, на пажоўклых аркушах сваіх манускрыптаў?!!

Так думаў чалавек, прабіраючыся праз зараслі хмызнякоў. Калючыя шыпы ліан ранілі яго рукі і ірвалі вопратку. Ногі, абутыя ў высокія цяжкія боты, коўзаліся па карэннях і вязлі ў дрыгве. Чалавек, па выгляду, быў сярэдняга веку, яго сухі твар меў энергічны выгляд, дзякуючы двум рэзкім маршчынам, што ляглі ад носу да кутоў падціснутых вуснаў. Гарбаты тонкі нос падкрэсліваў рашучасць характару гэтага чалавека і толькі ў шэрых вачах яго жыло мяккае святло лятуцення і змякчала зімныя рысы яго твару. Апрануты ён быў у скураную, пашарпаную куртку, падпаясаны патранташам, за плячыма была вялікая паходная сумка, на рэмні вісела стрэльба і ў руцэ трымаў ён даўгі, арыгінальнай формы курдскі ятаган. Ім ён працярэбліваў дарогу ў гушчары сшытых калючымі ліанамі хмызнякоў.

Не гледзячы на такія цяжкасці падарожжа, чалавек не аддаваў увагі навакольнаму занураны ў свае думкі. Ён зручна перабіраўся з купіны на купіну, пераскокваў праз багны, у пару хапаўся вольнай рукой за галлё кустоў і, выбраўшыся з небяспекі, ішоў далей. Дамаская сталь ятагана блішчэла ў зараслях, распадаліся спляценні ліан і чалавек паглыбляўся ў гушчар, ступаючы размерана і цвёрда, інстынктыўна ўгадваючы небяспеку і механічна ўнікаючы яе.

Следам за ім ішоў пажылы мінгрэл у шырокім войлачным капялюшы. Ён быў невялікага росту і першае, што кідалася ў вочы—гэта яго шырокі чорны капялюш з абвіслымі палямі. З-пад гэтага капялюша выглядала клінаватая сівая бародка і канцы сівых вусаў. Ён нёс за плячыма жоўтую паліраваную скрынку, з боку ў яго была сумка і ў руках стрэльба. Ён ледзь паспяшаў за першым, які расчышчаў дарогу і здаганяў яго толькі тагды, калі яны траплялі ў асабліва густыя зарасні і больш работы было ятагану.

І цяпер здарылася тое самае. Белыя дробныя кветкі ліан суцэльным дыванам звісалі з кустоў, спадаючы да самае зямлі. Можна было здалёку падумаць, што нехта знарок прынёс гэты, свежа вытканы ў кветкі, пахучы дыван і паслаў яго па кустах нізкарослае ольхі, шыпшынніку і крушыны, каб хаця крыху аздобіць мёртвую жаўцізну балота, на якім—толькі пыльныя кісці трысця і сумная шэрань гінучых параснікоў. Але, пад гэтым дыванам былі шыпы і цвёрдае, як крэмень, дрэва ліан і гэты дыван загараджваў шлях людзям, што ішлі да сэрца вялікіх балот...

—... Што б напісаў ты, Гіпакрат на пажоўклых аркушах сваіх манускрыптаў!

Распаліся апошнія вузлы калючых сплячэнняў, яшчэ раз бліснула сталь і калючая перашкода была прарвана. Наперадзе ляжала роўная пространь жоўтае травы і воддалі гэткія-ж зараслі трысця. Направа ўзнімалася зялёнае ўзгор'е вялікага кургана. Гэта быў оазіс у пагібельнай пустэльні балот.

—... штб-б ты напісаў, Гіпократ...

— Батоно! *)—учуў чалавек голас.—Батоно, вы загадалі тут спыніцца.

— Я цябе прасіў, Топурыя,—нездаволена сказаў чалавек, адварачваючыся да старога.—Я колькі разоў прасіў цябе, не зваць мяне „батоно". Я такі самы батоно, як і ты, калі хочаш ведаць. Мяне завуць Андрэй Міхайлавіч.

Топурыя ўсміхнуўся.

— Я стары чалавек і гэта ўжо такая прывычка. Я не магу добра сказаць ваша імя і блытаюся. Дазвольце мне зваць вас „батоно". Я буду казаць „батоно", а думаць буду пра вас інакш, бо вы добры чалавек. Для мае старое галавы інакшыя словы цяжкія... Дык вось, батоно, направа бачыце курган. Вы тут загадалі спыніцца. А далей, крыху ўлева—ёсць другі.

Андрэй Міхайлавіч глядзеў на вялікі курган. Над ім панавала вершаліна высокага дрэва, што выбілася ўгару раней за другіх і шырока раскінула магутнае галлё, пакрываючы іншых.

— Добра! Адтуль можна шмат што ўбачыць,—са здавальненнем заўважыў пра сябе Андрэй Міхайлавіч і спытаў у Топурыя, ці лёгка прайсці да кургана.

— Проста ісці нельга!—адказаў Топурыя.—Трэба ісці паўз гэтыя кусты, яны ўвесь час будуць набліжацца да кургана і за малым не даходзячы іх пойдуць у бок. Паміж кустамі і курганам ёсць такая невялічкая канава, там ёсць даўнейшыя кладкі, мы іх

*) Батоно—пан.

адшукаем і пройдзем на курган. Гэтая канава, кажуць, даўнейшы раўчак вакол кургана для яго абароны. Гэта зрабілі даўнейшыя людзі.

Андрэй Міхайлавіч ацёр пот з твару і зняў сумку з плеч.

— Вось, што,—сказаў ён падаючы сумку Топурыя,—на курган пайду я адзін. А ты бяры наш правіянт, ідзі на левы курган, раскладзі там агонь, адпачні і рыхтуй абед. Я прыду да цябе праз дзве гадзіны, найбольш. Давай інструмант.

Топурыя заспрачаўся, але Андрэй Міхайлавіч амаль сілком адабраў ад яго скрынку з інструмантам.

— Небяспечна, батоно,—угаварваў Топурыя.—Аднаму ісці туды небяспечна. Пасля дажджу ў канаве шмат вады і вы не знойдзеце кладку. Я пайду з вамі і так будзе больш спакойна. Калі вы хочаце ісці, я зраблю вам абед раней, чым вы скончыце работу.

— Топурыя,—сказаў Андрэй Міхайлавіч.—Мы дарэмна трацім час і калі будзем спрачацца далей, альбо рассядацца за абедамі на першым прывале, то не зробім і паловы таго, што патрэбна. Мы змарнавалі палову дня, а прайшлі ад берагу ўсяго тры вярсты.

— Таму, батоно, што вы не захацелі ісці бліжэйшай дарогай, а загадалі ісці праз зараслі, па канаве. А ў ёй толькі адны жабы.

— Для цябе гэта канава з жабамі, а для мяне іншае. Я, напрыклад, думаю, што гэта старадаўны канал. Я хачу паглядзець на яго з кургана. Не будзем спрачацца, Топурыя... Не ўпершыню мне хадзіць па балоце. Ідзі на левы курган і чакай на мяне. Калі я стрэлю, зараз-жа адказвай і мы сыйдземся, калі я стрэлю два разы, спяшайся да мяне. А то будзем адзін аднаму на пяты ступаць,—мала выйдзе карысці.

Паказваючы, што размова скончана, ён закінуў за плечы скрынку, узяў стрэльбу і ступіў наперад. Топурыя ўздыхнуў, пазіраючы яму ўслед.

— Стары я стаў,—паківаў галавою Топурыя.—Я за маладымі не паспяшаю, таму ён і не хоча ісці са мной. Топурыя, кацо *) сорак гадоў па гэтых балотах ходзіць... Топурыя ведае, якія могуць быць з балотамі жарты.

Андрэй Міхайлавіч азірнуўся і памахаў яму рукой.

— Добра сцежкі пільнуйцеся, батоно!—крыкнуў Топурыя.—Не памыліцеся кладкай!

Андрэй Міхайлавіч хутка ішоў і неўзабаве знік у зарослях.

Топурыя ўздыхнуў і падаўся ў свой бок. Ішоў ён не так хутка, як Андрэй Міхайлавіч, але гэта была своеасаблівая лёгкая хада. Здавалася, што, ідучы такім спосабам, чалавек не толькі вдолее перайсці самую зыбкую дрыгву, але ўтрымаецца і на вадзе. Гэта набыў Топурыя практыкай за сорак гадоў і гэта называў Андрэй Міхайлавіч „балетным ходам“.

Андрэй Міхайлавіч хутка дабраўся да кургана. Ён стаяў за некалькі крокаў ад канавы і аглядаў курган. Ён вырашыў, што найлепш было-б перайсці там, дзе спад кургана не такі круты, дзе ён

*) Кацо—ад слова „кацi“—чалавек.

найбольш апоўз у балота. Па меркаваннях Андрэя Міхайлавіча там быў тонкі пласт торфу. На гэта паказвала і тое, што замест лёгкага трысця, там густа расла цёмна-зялёная, балотная трава з шырокім лісцем. Гэтая трава мае моцныя карэнні і патрабуе моцнае глебы. Але дзе кладка? І Андрэй Міхайлавіч не без падставы вырашыў, што іменна там павінна быць і кладка. Ён прайшоў некалькі крокаў, ступаючы вельмі асцярожна па зыбкае паверхні. Навокал хісталася рэдкае трысцё. Вада ў канаве была чорнай і па таму, як калышыцца на яе паверхні лісцё нейкіх вадзяных траў, Андрэй Міхайлавіч згадаў, што канава мае ўласную плынь і гэта шмат чаго сказала яму. Тут-жа ён убачыў і кладку, сярэдняе таўшчыні жэрдзь. Андрэй Міхайлавіч цяпер ішоў ужо так асцярожна, што яму самому здавалася нібы найбольшы цяжар яго цела апіраецца на паветра. Перад тым, як ступіць на кладку, ён яшчэ раз глянуў на курган, мераючы адлегласць. І тагды...

І тагды бераг, на якім стаяў чалавек, адарваўся разам з трысцём, усё паплыло ў бок, уздрыгнулі водарасьлі, хліпнула гразь і чорная вада канавы і ўсё жоўтае балота кінулася на чалавека, устала дыбам, недзе мільгнуў кавалак блакітнага неба і лёгкае белае воблака слізгнула па ім і знікла...

То-пу-у-ры-я-а-а-а! То-пу-ры!..

... што-б напісаў ты, Гіпократ...

* * *

Вано стаяў на купіне так, што можна было-б сказаць: зрабіў „стойку“. Ён стаяў на аднэй назе, нахіліўшыся тулавам наперад, у правай руцэ трымаў маленькія восці, левай злёгку балансаваў у паветры і чорныя вочы яго з выразам незвычайнай увагі упёрліся ў адну кропку. У гэтай позе нечалавечага напружання, Вано стаяў ужо добрую хвіліну. Зусім недалёка ад яго варушылася чырвона-залацістае пяро і сіні хрыбет сазана. Рыба была настолькі вялікай, што не магла схавацца у вадзе ўсё свае адкормленае тулава. Зрэдку пашлёпваючы хвастом, сазан раскашаваў у цяплыні, сярод балотных траў і не пасоўваўся наперад ні на кроплю, як бы разумеючы, што нічога добрага з гэтага не атрымаецца.

Іліко таксама стаяў на адной назе, хаця ў гэтым не было ніякай патрэбы, бо ён быў за дзесяць крокаў ад Вано і яшчэ далей ад сазана. Але ён не мог больш цярпець і чакаць. І так яму было лягчэй. Раптам Іліко азірнуўся і паляўнічая поза яго змянілася на звычайную. Толькі насцярожанасць і ўвага не пакінула яго твару.

— Вано!

Вано не адказваў. Ён не чуў. Уся яго ўвага была накіравана на чырвона-залацістае пяро, што нарэшце зрушылася з месца.

— Вано! Нехта крычыць на балоце!

Але ў гэты-ж момант Вано ўдарыў восцямі, згубіў роўнавагу і пляснуў з купіны ў ваду. Вада закіпела і забурліла, Іліко ўбачыў задраныя ногі Вано, потым цераз яго перакінуўся вялікі сазан, а Вано ў сваю чаргу перакуліўся цераз сазана. Нельга было зразумець, хто каго злавіў. Іліко, не разважаючы далей, кінуўся на дапамогу Вано.

Ён рынуў на сазана гэтак-жа, як і Вано, жыватом і параніў руку аб восці. Тузаніна пачалася з новай сілай. Дужая рыбіна кідалася ўва ўсе бакі, натапырыўшы свае шырокія пер'і. Зноў кіпела вада і то адзін, то другі з хлапцоў, бліскаючы пяткамі, куляўся цераз галаву. Нарэшце сазан, у якога ў хрыбце сядзелі маленькія, вострыя восці Вано, знямогся і тады Іліко, спрытна ўскочыўшы на ногі, схапіў свае восці і ўдарам пад жабры дакончыў рыбіну.

— Папаўся, чорнагубы!

Рыбіна, паблісквуючы буйнай лускою, ляжала на купіне. Яе хвост і галава былі ў вадзе, цела было нерухомым і толькі залацістачырвоныя плаўнікі сударажна ўздрыгвалі. Пераможцы аціралі гразь са сваіх шчаслівых твараў.

— Папаўся, чорнагубы!—паўтарыў Іліко.

— Я забіў добрага сазана,—сплёўваючы сказаў Вано.—Ён будзе важыць пяць пудоў.

— Як гэта ты забіў!—наёжыўся Іліко.—А я? Я ўдарыў яго пад жабры!

— А я першы ўдарыў яго ў хрыбет. Я яго забіў, бо ўдарыць па хрыбце горш, чым пад жабры. Ты мне мог і не дапамагаць.

— Ты мяне клікаў!

— Гэта я так. Я мог і без цябе яго забіць. Раз я першы ўдарыў у хрыбет, то ўсе скажуць, што я забіў сазана. Нават Топурыя скажа...

Тут Іліко ўспомніў, што нехта крычаў на балоце і клікаў, як здалося, Топурыя. Але цяпер было не да таго.

— Калі ты будзеш хваліцца, што забіў сазана,—сказаў Іліко, сціскаючы кулакі,—то я ўсім скажу, што ты маніш! І тут не будзе пяць пудоў! Ты маніш! І я скажу яшчэ, што ты лазіў красці гуркі...

Але ён пахіснуўся і не дакончыў. Яго штурхануў плячом Вано.

— А я скажу ўсім,—крыкнуў Вано.—А я скажу, што ты баяўся злодзея, што ты баязлівец, а ў хаце нікога не было!

Вялікая крыўда ахапіла сэрца Іліко. Раптам ён успомніў пра бабулю і адчуў сябе зусім адзінокім. Ён усхліпнуў і слёзы паліліся з вачэй. Іліко нахіліўся, узяў свае восці і пабрыў прэч па балоце. Ён брыў па калена ў вадзе. Вано пастаяў, аглядаючы сазана і ён яму здаўся ўжо не такім прывабным, як раней і Вано падумаў аб тым, што не так ужо будзе і шкада, калі ён скажа, што злавілі рыбіну ўдвух. Вано стала ніякавата.

— Іліко!—крыкнуў ён услед таварышу, але змоўк на поўслове.

Іліко стаяў на купіне зусім недалёка ад яго ў той-жа позе, у якой быў ён сам, калі цэліў у сазана. Вано замёр. Чакаць на гэты раз прышлося нядоўга. Іліко адвёў руку з восцямі і рынуў у ваду. Вано памчаў на дапамогу.

Праз некалькі часу хлапцы сядзелі побач на купіне.

— Мой будзе важыць пяць пудоў,—сказаў Вано.

— А мой шэсць!—стаяў на сваім Іліко.—Мой большы за твайго.

Я глядзеў сваімі дзіцячымі вачыма на вялікі пажар. Запалены горад, полымя, дым, іскры, струмені вады, беганіна людзей,—які грандыёзны малюнак! Скруткі агня ўкручваюцца адзін у другі і раскручваюцца, скачуць агнёвыя ільвы, драконы, тыгры, з агнёвымі грывамі, паказваецца вялікі дым, пазалочаны безліччу іскраў, як у сне, як конфецї на багатым вяселлі маёй цёткі. Але ў маленькай галаве працуе ўжо маленечкая сумленнасць. От выцягвае пажарнік спаленае дзіцё: ад гэтага балюча шчыміць маё сэрца.

Я стаю з адкрытым ротам.

А людзі крычаць. Жанчыны галосяць з такім веданнем гэтай справы, што здаецца, яны доўга рыхталіся да гэтага. У манатонны плач урываюцца нечаканыя, патрасаючыя сэрца таны. Пасля таго, як крык пакрысе сціхае, можна бачыць колькі сілы яны маюць да жыцця, а жыццё гарыць перад іх вачыма! А мужчынскія галасы вельмі ахрыплі! Гарыць пажар у іх вачах. Нешта здаецца мне, што зараз пачнуць сыпацца іскры з іх вачэй, і дым паваліць з ратоў.

Але от крычыць і мая маці.

Заходзіць сонца—а я не бачу. Маці вядзе мяне дахаты. Але я бачу агні і агні, а ўначы гарыць пад маёй галавой падушка, нібы ў падушцы ляжыць не пер'е, а гарачыя вуголлі.

На пажарным пляцы мы кідаемся каменнямі. Гэта поле бойкі. Тут змагаецца „атрад“ Кацана з „атрадам“ Нёні. Кацан і Нёня едуць на ўласных конях. Коней тады можна было застаць задарма, па горадзе блудзілі коні. Мне таксама хацелася мець каня. Але маці не хацела. Каня не будзеш даіць і ён не нясе яек.

На пажар выйшлі і жанчыны. Знаходкі. Месца пажара зрабілася месцам знаходак. Як саранча высыпалі жанчыны на месца пажара. Як чорнае вараннё рые дзюбамі, так жанчыны рыліся на папажарышчы. Я сам знайшоў ляльку з абсмаленымі валасамі і некалькі прыгожых фарфуркаў. Але рыжуха Нэха знайшла гадзіннік з залатымі стрэлкамі. А каваль Завал знайшоў жывога індыка. З усіх бакоў палаў агонь, а індык некуды зашыўся і застаўся жыць. н дыку таксама хочацца жыць.

Пагарэлыя гаспадыні сыпалі праклянцці на чым свет стаіць, а пасля ў многіх жанчын засталося ў памяці, што *праклянцце ёсць праклянцце, асабліва калі трапляе ў паскудны рот.* Некалькі жанчын за гэты дзень упалі ў прыбіральні, закіданыя пасля пажара галавешкамі і цэглай. Яны ўпалі ў іх як у воўчыя ямы.

У прыбіральню трапіла і суседка Менуха. Усіх астатніх жанчын выцягнулі. А суседка Менуха сапраўды захлынулася. Тая самая суседка Менуха, якая па майму ўяўленню павінна была-бы жыць вечна, якая сваімі чорнымі пазногцямі так моцна ўчапілася за жыццё,—памерла саромнай смерцю. Так недалікатна, такой смерцю, што, успамінаючы пра яе, я не мог есці.

А яе сын—яе карона, праз месяц памёр. Ад жудасці і ад сухотаў. Яна яго замучыла ў ямах.

На двары суседзі гаварылі аб тым, што палякі забілі майго стрэчнага брата Беню. Цэлую роту маладых комуністаў палякі выразалі, і сярод іх павінен быць Беня.

Але праз некалькі дзён на замыленым кані прыскакаў Беня. Ад яго пахла, як заўсёды, порахам і махоркай. Шлём быў у некалькі мясцах прастрэлены і шынель прадзіраўлены. Але ён сам быў цэлы—усё было ў ім на месцы. І на кані ён сядзеў высока, здатна, строга.

Я на яго глядзеў шырока адкрытымі вачыма. Гэты непастаянны чалавек—жыве, а Мефусаіліха,—вечна жывучая,—памерла.

Перш-на-перш ён у мяне спытаўся, дзе суседка Менуха. Суседка Менуха,—сказаў я яму,—утапілася ў агіднай рэчы на пажарышчы. Ён плюнуў.

Хоць ён не меў вялікай павагі да памяці суседкі Менухі,—памятаю, што ён мабілізаваў усіх суседзяў—буржуяў на „прынудзілаўку“. Ён ім даў заданне ачысціць прыбіральні, якія знаходзіліся на месцы пажара.

Усе тыя, якія не хацелі даць пятака, пустога яечка за яго жыццё, якім здавалася, што Беня—праходзячы цень, часовае жыццё, якое трымаецца на нітачцы,—усе яны толькі цяпер адчулі жывую руку гэтага чалавека, які прымушае іх чысціць прыбіральні. Яны сыпалі на яго праклянцці з іх атручаных ратоў. І толькі цяпер жанчыны зразумелі,—што не толькі куля яго не бярэ,—нічога яго не возьме.

Для жыцця—відаць гэты чалавек, з яго шлёмам, шынелем і канём.

Праз некалькі дзён ён паехаў з бронепоездам, і перадаў мне свайго каня, каб я яго адвёў у „трамот“. Ён мяне пасадзіў на каня.

З хаты даносіцца да мяне бацькаў голас. Ён заве мяне маліцца. Але-ж я сяджу на кані.

Ён выходзіць на вуліцу, каб пазваць мяне яшчэ раз, але я не слухаюся.

Бацька баіцца падыйсці да мяне. Першы раз у жыцці баіцца ён падыйсці да мяне.

Ірвануўшы каня, я раптам адчуваю сябе так свабодна, нібы я вызваліўся ад нечага.

Я адчуваю сябе хлапчуком.

Я сяджу на кані і да мяне шугаюць з усіх бакоў і дзьмуць у твар—вятры.

Вятры жыцця.

*З яўрэйскай мовы пераклаў С. ЛЕВІН.*

*Александр Пушкін*

# ЯУГЕНІ ОНЕГІН

## ГЛАВА ТРЭЦЯЯ

Elle ètait fille, alle ètait amoureuse.

Malfilâtre

I

„Куды? Ну-ж гэтыя паэты!“
— Час развітацца мне з табой.—
„Я не трымаю; але дзе ты
Праводзіш кожны вечар твой?“
— У Ларыных.—„Вось гэта дзіўна.
Даруй! Ды хіба не праціўна
Табе што вечар там сядзець?“
— Ані.—„Мне цяжка зразумець.
Адсюль відаць, што за мясціна:
Найперш скажы, ці правы я?—
Зазвычай руская сям‘я,
Прыём старанны і гасцінны—
Варэнне, гутарка заўжды
Пра лён, пра стайню, пра дажджы...“

II.

— Не бачу тут вялікай шкоды—
„Ды нудна-ж, вось бяда, мой друг“.
— Я ненавіджу свет ваш модны;
Мілейшы шмат мне хатні круг,
Дзе я магу... „Ізноў эклога!
Даволі, мілы, дзеля бога.
Шкада, што едзеш ад мяне.
Ах, слухай Ленскі, як-бы мне
Зірнуць хоць на Філіду гэту,
Прадмет і думак і пяра
І слёз, і рыфм et caetera
Прадстаў мне“. — Жартуеш. — „Дзе
там!“
— Я рад.—„Калі-ж?“ Хоць гэты-ж
час
Яны з ахвотай прымуць нас.

III.

Паедзем.—
        Паскакалі другі,
З'явіліся; чакаюць іх
Цяжкія іншы раз паслугі
Гасцінных звычаяў старых.
Абрад вядомы пачастунку:
Нясуць на сподачках ласункі,
На столік ставіцца тады
Збанок брусьнічнае вады.
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .

IV.

Яны дамоў што духу гоняць
Дарогай самаю прамой.
Падслухаем, пра што гамоняць
Героі нашы між сабой.
— Ну што-ж, Онегін? Пазяхаеш.
„Прывычка, Ленскі. Выгляд маеш
Маркотнейшы".—„Не, як раней.
Аднак у полі ўсё цямней;
Хутчэй! Андрушка, паспяшаем!
Вось нейкая дурная цьма!
Дарэчы: Ларына сама
Так проста, міла выглядае;
Вось каб з брусьнічнае вады
Мне не нажыць якой бяды.

V

„Скажы: каторая Тацяна!"
— Тацяна? Сумная яна,
маўклівая, нібы Святлана,
Зайшоўшы села ля вакна.—
„Няўжо ты меншую кахаеш?"
— А што? „Мне лепш была-б другая,
Калі-б паэтам мог быць я.
Пазбаўлен Вольгін твар жыцця,
Нібы ў Вандыкавай мадонны:
Чырвоны, круглы твар яе,
Як дурань месяц, што ўстае
На небасхіл дурны і сонны"—
Владзімір суха адказаў
І ўсю дарогу скрозь маўчаў.

VI

Між тым Онегіна з'яўленне
У Ларыных для ўсіх было
Падзеяй, поўнаю значэння,
Ї ўсіх суседзяў заняло.
Пайшла дагадка за дагадкай.
Усе сталі гаманіць украдкай,
Судзіць і кпіць не без граха,
Тацяне ладзіць жаніха;
А іншыя і так казалі,
Што шлюб наладжаны зусім,
Але адкладзены затым,
Што модных кольцаў не дасталі.
Вяселле-ж Ленскага, яно
У іх рашылася даўно.

VII

Тацяна прыкрасць адчувала
Ад плётак; але прад усім
Яна з уцехай небывалай
Міжвольна думала аб тым;
Запала ў сэрца думка цьмяна;
Пара прышла, прышло каханне.
Так зерне, што ў зямлю лягло,
Цяпло весновае ўзняло.
У ёй даўно ўжо ўяўленне
Чакала з негай і тугой
Пажывы неадхільнай той;
Даўно сардэчнае тамленне
Распальвала ў грудзях агонь;
Душа чакала... хоць каго.

VIII

Ї прычакала. Свет адкрыўся;
Яна сказала: гэта ён!
Увы! Цяпер ўсе ночы, дні ўсе,
Ї жаркі і самотны сон,
Ўсё поўна ім, ўсё дзеве мілай
Нязмоўчнай чарадзейнай сілай
Пяе аб ім. Дакучны ёй
Ї словы гутаркі жывой,
Ї зірк прыслужнікаў ласкавы.
Яна у засмучэнні злым
Гасцей не слухае зусім
Ї праклінае іх забавы,
Ї нечаканы іх прыезд
Ї без канца даўгі прысест.

IX

Цяпер з якім яна стараннем
Чытае мілы свой раман,
З якім жывым ачараваннем
Прывабны п'е яна абман!
Шчаслівай сілай лятуцення
Адухаўлёныя стварэнні,
Каханак Юліі Вальмар,
Малек-Адэль і дэ-Лінар
І Вертэр, мучанік бунтоўны,
і незраўнаны Грандысон,
Які на нас наводзіць сон,
Для лятуценніцы чароўнай
Зліліся вобразам жывым.
Усе ў Онегіне адным.

X

Сябе зрабіўшы гераіняй
Сваіх любімейшых тварцоў,
Кларысай, Юліяй, Дэльфінай,
Таццяна ў цішыні лясоў
Адна са здраднай кніжкай ходзіць,
У ёй шукае і знаходзіць
І мары і жар тайны свой,
Узняты сэрца паўнатой,
Ўздыхае, думкі і настрої
Другіх прысвоіўшы сабе,
Напамяць шэпча пра сябе
Ліст да любімага героя...
Герой-жа, хто-б ні быў там ён,
Напэўна быў не Грандысон.

XI

Высокім складам, важным строем,
Тварэц натхнёны ў даўны час
Паказваў нам свайго героя
Як дасканаласці абраз.
Меў у яго прадмет абраны,
Заўжды загнаны беспадстаўна,
Высокі розум, сэрца жар
І надзвычайна гожы твар.
Ў пачуццях чыстаты выключнай,
Заўжды захоплены герой
Быў рад ахвяраваць сабой,
І пры канцы главы заключнай
Заўсёды несла кару зло,
Дабро-ж услаўлена было.

XII

А сёння думкі ўсе ў тумане,
Мараль даводзіць нас да сна,
Няцнота славіцца ў рамане,
Перамагае там яна.
І музы англійскай навіны
Трывожаць мірны сон дзяўчыны,
І стаў цяпер яе кумір
Або замыслены Вампір,
Або Мельмот бадзяка спрытны,
Ці вечны жыд, або Сбогар,
Або загадкавы карсар.
Лорд Байрон прымхаю дасціпнай
Схаваў у змрочны рамантызм
І безнадзейны эгаізм.

XIII

Браточкі, што-ж за сэнс у гэтым.
Магчыма, судзіць неба мне,
Што я пакіну быць паэтам,
Чорт новы ўселіцца ў мяне,
І, супроць Фебавай пагрозы,
Я зніжуся да сціплай прозы:
Раман на лад даўнейшых год
Вясёлы зойме мой заход.
Не боль якіх злачынстваў тайных
У ім я грозна пакажу,
А проста вам перакажу
Сям'і расійскае паданні,
Кахання радасныя сны
Ды звычай нашай старыны.

XIV

Перакажу апавяданні
Ці бацькі, ці каго з дзядзькоў,
Дзяцей наўмысныя спатканні
Пад ліпамі, ля ручайкоў;
Няшчаснай зайздрасці пакуты,
Мір са слязамі, смутак люты.
Зноў пасвару, і пад канец
Я павяду іх пад вянец...
Я помню словы негі палкай
Маркотнага кахання сказ,
Які калісьці, у даўны час,
Ля ног прыгожае каханкі,
Прыходзіў часта на язык—
Ад гэткіх словаў я адвык.

XV

Тацяна, мілая Тацяна!
З табой цяпер я слёзы лью;
Ты ў рукі моднага тырана
Ўжо долю аддала сваю.
Загінеш ты; але да часу
Ты у сваёй надзеі яснай
Уцеху цёмную завеш,
Жыцця ты негу пазнаеш,
П'еш дзіўнае пітво жаданняў,
І мары ўсюды за табой:
Усюды бачыць погляд твой
Прытулкі радасных спатканняў;
Усюды, ўсюды прад табой
Спакуснік вызначаны твой.

XVI

Тацяну гоніць сум кахання,
У сад ідзе яна тужыць,
Схіляе вочы нечакана,
І ўжо ёй лень далей ступіць:
Ўзняліся грудзі, і ланіты
Раптоўным полымем пакрыты.
І подых заняло ў грудзях,
І ў вочах бляск, і шум ў вушах...
Ноч прыдзе, месяц абыходзіць
Высь неба вартаю начной
І салавей у цьме глухой
Напевы гучныя заводзіць.
Не ведае Тацяна сна,
Гамоніць з няняю яна.

XVII

„Не спіцца, няня: дух займае!
Адкрый акно, ды сядзь сюды".
— Ды што з табой?—„Нуда такая,
Скажы пра даўныя гады".
— Пра што-ж бы Таня? Я бывала,
Хавала ў памяці нямала
І небыліц і быляў шмат
Пра духаў злых і пра дзяўчат;
А зараз цёмна мне ўсё, Таня.
Забылася, што знала. Час
Паганы надыйшоў для нас!
Зашыбла...—„Раскажы мне, няня,
Пра юныя свае гады:
Кахала ты каго тады?"

XVIII

— Ды што ты, Таня! Нашым светам
Мы і не чулі пра любоў;
Бо душу-б выгнала за гэта
З мяне нябожчыца свякроў.
„Ды як-жа шлюб ты брала, няня?“
— Так, мусіць, бог судзіў. Мой Ваня
Быў маладзейшы за мяне,
А ўжо было трынаццаць мне.
Два тыдні сваццця вандравала
У нашу хату і такі
Благаславілі нас бацькі.
Ад страху горка я рыдала;
Касу мне з плачам расплялі
Ды з песняй у царкву звялі.

XIX

І завялі ў сям‘ю чужую...
Ды ты не чуеш, бачу я...—
„Ах, няня, няня, я сумую,
Мне цяжка, мілая мая:
Я плакаць, я рыдаць гатова!..“
— Дзіця маё, ты нездарова;
Памілуй, божа, і ратуй!
Прасі, што хочаш, не шкадуй...
Дай, акраплю святой вадою...
„Не трэба, мілая мая;
Я... знаеш... закахана я“.
— Маё дзіцятка, бог з табою!—
І няня дзеўчыну з мальбой
Хрысціла зморшчанай рукой.

XX

„Я закахана“,—зноў шаптала
З тугою дзеўчына мая.
— Мой друг, ды што з табою стала!—
„Пакінь мяне, кахаю я“.
А месяц плыў у небе чыстым
І асвятляў святлом срабрыстым
Таццяны бледныя красы,
Распушчаныя валасы,
І кроплі слёз, і на услоне
Прад гераіняй маладой
З пакрытай хусткай галавой
Старую ў цёплым балахоне;
І ўсё драмала ў ціхай мгле
У натхнёным месяца святле.

XXI

Высока сэрцам узлятала,
На месяц гледзячы, яна...
Раптоўна думка ў ёй паўстала...
„Ідзі, пабуду я адна.
Падсунь мне стол, паперы дай мне,
Пяро; я хутка лягу, няня;
Бывай“. І вось яна адна.
Зіяе месяц ёй з акна.
Схіліўшыся, Тацяна піша,
І ўсё Еўгеній у вачах
І ў неабдуманых радках
Каханне мілай дзевы дыша.
Ліст скончан, складзен як найлепш...
Каму-ж яго, Тацяна, шлеш?

XXII

Красунь я ведаў недаступных,
Халодных, чыстых як зіма;
Неублаганых, непадкупных,
Якіх уцяміць сіл няма;
Дзівіўся цноце іх прыроднай
І фанабэрыі іх моднай,
Ад іх, прызнацца, я ўцякаў,
І з нейкім жахам я чытаў
Над іх брывямі сказ пякельны:
Пакінь надзею назаўжды.
У каханні ім найбольш бяды,
Пужаць людзей—для іх вяселле.
Магчыма, дзе каля Нявы
Дам гэткіх бачылі і вы.

XXIII

Сярод паклоннікаў слухмяных
Дзівачак бачыў я другіх,
Самалюбівых і нядбайных
Да ўздохаў, да пахвал жывых
І што-ж убачыў я, цікава?
Яны, суроваю паставай
Спужаўшы лёгкую любоў,
Яе ўзбудзіць умелі зноў.
Спагадаю, па меншай меры,
Па меншай меры, іншы сказ
Гучэў ласкавей іншы раз,
І ў засляплёным лёгкаверʼі
Каханак малады ізноў
За мілай лухтаю ішоў.

XXIV

Ды чым-жа горш за іх Тацяна?
Ці тым, што ў прастаце сваёй
Яна не ведае абмана
І верыць мары дарагой?
Ці тым, што любіць невытворна,
Што толькі пачуццю пакорна,
Што ў ёй даверлівасць жыве,
Што лёс ўзнагарадзіў яе
І ўяўленнем несціханым,
Развагай, воляю жывой
І непакорнай галавой,
І сэрцам палкім і адданым?
Ці-ж не даруеце вы ёй
Пачуццяў лёгкасці жывой?

XXV

Какетка судзіць хладнакроўна,
Тацяна любіць ўсёй душой
І аддаецца безумоўна
Каханню, як дзіцёнак той.
Яна не думае: разлічым,
Надзейней ў сетку завядзём;
Перш пустаслаўе закранём
Надзеяй, потым недаўменнем,
Намучым сэрца, а затым
Агнём зайздросным ажывім;
А то, як знікне захапленне,
Нявольнік хітры з ланцугоў
Заўсёды вырвацца гатоў.

XXVI

Яшчэ тут перашкода стане:
Каб родны край не зганьбаваць,
Без разважанняў ліст Тацяны
Павінен я перакладаць.
Яна па-руску кепска знала,
Журналаў нашых не чытала,
І мовай роднаю сваёй
Выказывацца цяжка ёй,
І так пісала па-французску...
Што зробіш! паўтараю зноў:
Дагэтуль дамская любоў
Не выкладалася па-руску,
І горды голас рускіх слоў
На пошце ходу не знайшоў.

XXVII

Ад дам, я знаю, патрабуюць
Чытаць па-руску, проста страх!
Іх і прадставіць ці магу я
З „Благонамеренным“ ў руках?
На вас спашлюся я, паэты,
Ці праўда: мілыя прадметы,
Якім за грэх даўнейшы свой
Складалі вершы вы парой,
Якім вы сэрца прысвячалі,
Хіба-ж не ўсе з такой бядой
Ўладаўшы моваю сваёй,
Яе так міла выкрыўлялі,
І ў вуснах іх замежны сказ
Хіба не стаў сваім для нас?

XXVIII

Крый бог, каб стрэўся мне на бале,
Ці пры раз'ездзе на двары,
Семінарыст у жоўтым шалі,
Ці акадэмік ў каптуры!
Як без усмешкі губ румяных,
Без хібаў у правапісанні
Я рускай мовы не люблю.
Магчыма, на бяду маю,
Красуняў нашых род навейшы,
Паслухаўшы журналаў сказ,
Граматыцы навучыць нас
І ў абыход уставіць вершы:
Ды я... якая справа мне?
Я верны буду старыне.

XXIX

Няроўны, неахайны лепет,
Другое вымаўленне слоў,
Як некалі, сардэчны трэпет,
Абудзяць у грудзях ізноў.
Я каяцца не маю сілы,
Мне галіцызмы будуць мілы,
Як даўняй юнасці грашкі,
Як Багдановіча радкі.
Ды годзе, час за ліст узяцца,
Што піша дзеўчына ў цішы;
Я слова даў, хоць, да душы,
Не хочацца цяпер і брацца,
Я знаю: нежнага Парні
Пяро не ў модзе ў нашы дні.

XXX

Пясняр Піроў, маркоты томнай
Калі-б яшчэ ты быў са мной
Я стаў-бы просьбаю няскромнай
Цябе трывожыць, мілы мой:
Каб у чароўнейшым напеве
Пералажыў ты палкай дзевы
Чужую мову на сваю.
Дзе ты? Прыдзі: я аддаю
Свае правы табе з паклонам...
Ды пасярод журботных скал,
Адвыкшы сэрцам ад пахвал,
Адзін пад фінскім небам сонным
Ён ходзіць і душой сваёй
Не чуе ён журбы маёй.

XXXI

Вось ліст Тацяны прада мною:
Яго я свята берагу,
Чытаю з тайнаю тугою
І начытацца не магу.
Адкуль тут гэткая пяшчотнасць,
Слоў маладая бестурботнасць?
Хто мілай лухце навучаў,
Хто жар у мову сэрца ўклаў,
Што гэтак шкодзіць і чаруе?
Не знаю. Але даць я рад
Няпоўны, бледны пераклад,
Малюнка копію слабую,
Нібы разыграны Фрэйшыц
Рукамі юных вучаніц.

Ліст Тацяны да Онегіна

Я вам пішу—чаго вам болей?
Што я магу яшчэ сказаць?
Цяпер, я знаю, у вашай волі
Мяне пагардай пакараць.
Але да горкай маёй долі
Калі вас жаль крыху кране,
Вы не пакінеце мяне.
Спачатку я маўчаць хацела;
Паверце, з сорамам маім
Вы-б не пазналіся зусім,
Калі-б я хоць надзею мела
Хоць рэдка, хоць на тыдзень раз
У вёсцы нашай бачыць вас,
Каб толькі вашы чуць размовы,
Сказаць вам слова, а затым

Ўсё думаць, думаць аб адным
І ўсё чакаць сустрэчы новай.
Аднак, вы, кажуць, нелюдзім;
У вёсцы вы ў маркоце вечнай,
А мы... нічым мы не блішчым,
Хаця і рады вам сардэчна.
Навошта вы прышлі да нас?
Ў зацішшы нашым заняпалым
Ніколі-б я не знала вас
І болю горкага-б не знала.
Суняць душы маёй навалу
Пара магчыма-б надыйшла,
Па сэрцу друга-б я спаткала,
І жонкай-бы адданай стала
І цнотнай маткаю была.
Другі!.. О не, нікому болей
Не адчыніла-б сэрца я!
То суджана вышэйшай воляй,
То суд нябесны: я твая;
Жыццё маё было залогам
Спаткання пэўнага з табой;
Я знаю, ты пасланы богам,
Да смерці ты ахоўнік мой...
Ты ў снах чароўных мне з'яўляўся,
Нябачаны, быў мілы мне,
Твой дзіўны зірк таміў мяне,
Ў душы твой голас адгукаўся
Даўно... не, гэта быў не сон!
Ты ледзь зайшоў, я ўраз пазнала,
Уся самлела, запалала,
Сказала ў думках: гэта ён!
Ці праўда? я цябе ўжо знала.
Ты размаўляў са мной ў цішы,
Як бедным я дапамагала,
Або малітвай суцішала
Тугу ўсхвалёванай душы?
І ў гэту самую хвіліну
Хіба-ж не ты, як прывід дзіўны,
Ў празрыстай цемры мільгануў,
Прынік ціхутка да ўзгалоўя?
Хіба-ж не ты з жывой любоўю
Надзеі словы мне шапнуў?
Хто ты: ці ангел мне спагадны
Ці мо' спакуснік злы і здрадны?
Мае сумненні развяжы.
Магчыма, гэта ўсё пустое,
Абман нязнаючай душы,
І суджана зусім другое...
Ды так і быць! Лось лёс я свой
Табе адгэтуль даручаю,

Я слёзы лью перад табой,
Твайго ратунку я чакаю...
Прадстаў: ў маёй самоце злой
Мяне ніхто не разумее.
Развага ўся мая марнее,
Я згіну у тузе нямой.
Чакаю: сэрца спадзяванні
Адзіным зіркам ажыві,
Ці сон цяжкі мой перарві
Ўвы, належным нараканнем!
Канчаю! Страшна яшчэ раз
Чытаць... Я сорам адчуваю...
Ды веру, гонар ёсць у вас,
Яму сябе я даручаю.

XXXII

Таццяна то ўздыхне, то охне:
Калоціць ліст яе руку;
Ружовая аблатка сохне
На высмажаным языку.
Галоўку да пляча схіляе.
Сарочка лёгкая спаўзае
З яе прыгожага пляча.
Ды вось бляск месяца пачаў
Патроху гаснуць. Там даліна
Скрозь пар яснее. Ручаёк
Пачаў срэбрыцца. Там ражок
Пастушы будзіць селяніна.
Вось ранне; ўсталі ўсе даўно:
Маёй Таццяне ўсё адно.

XXXIII

Яна зары не заўважае,
З пахіленаю галавой
На ліст яна не націскае
Сваёй пячаткі выразной.
Ды ўжо Філіп'еўна сівая
Ціхутка дзверы адчыняе,
Прыносіць на падносе чай.
„Пара, дзіця маё, ўставай!
Ды ты красуня, ўжо гатова!
О, птушка ранняя мая!
А як трывожылася я!
Ды, дзякуй богу, ты здарова!
Тугі начной прапаў і след,
Твой тварык, быццам макаў цвет".

XXXIV

— Ах! няня, споўні даручэнне...—
„Што-ж, родненькая, загадай".—

— Не думай толькі... Падазрэнне...
Ды бачыш... Ах! не адмаўляй.—
„Мой друг, вось бог табе зарука“.
— Дык вось пашлі цішком ты ўнука
Вось тут запіска... О... таму...
Суседу... ды сказаць яму—
Каб ён не гаварыў ні слова,
Не называў маё імя...—
„Каму-ж бы, мілая мая?
Я нешта стала бесталковай.
Іх шмат у нашай старане—
Іх палічыць куды ўжо мне“.

XXXV

— Ты нездагадлівая, няня!—
„Мой друг, пара ўжо надыйшла;
Стары тупее розум, Таня;
Даўней я вострая была:
Бывала, слова панскай волі...“
— Ах, няня, няня! ўжо даволі!
Што тут пра розум развражаць,
Ты бачыш трэба ліст аддаць
Онегіну.—„Так, зразумела.
Не гневайся, душа мая,
Ты ведаеш, не цямлю я...
Ды што-ж ізноў ты пабялела?“
— Ды проста так, ні ад чаго.
Пашлі-ж унука ты свайго.

XXXVI

Але няма адказу зрання.
Няма яго й другога дня.
Бялей за цень, ўвесь дзень прыбрана,
Чакае водгуку яна.
Вось Вольгін ухажор прымчаўся.
„Куды-ж прыяцель ваш схаваўся?“
Пытае маці прад усім:
„Забыўся ён пра нас зусім“.
Таццяна ўся аж запалала.
— Сягоння быць ён абяцаў.—
Так матцы Ленскі адказаў:
— Ды, мусіць, пошта затрымала.—
Таццяна зірк схавала свой,
Нібы дакор пачуўся ёй.

XXXVII

Змяркала; на стале бліскучы
Вячэрні самавар кіпеў,

І пар гарачы і лятучы
Пад чайнікам кітайскім пеў.
Рукою Вольгінай разліты
Па філіжанках стромай спрытнай
Пахучы чай ужо цурчаў
І сліўкі хлопчык падаваў;
Тацяна прад вакном стаяла,
І, хукнуўшы на шкло вакна,
Уся думак поўная, яна
Прыгожым пальчыкам пісала
На потным і халодным шкле
Заветны вензель: О ды Е.

XXXVIII

Між тым, уся душа ў ёй ныла,
І зрок слязамі заплываў.
І раптам топат!.. Кроў застыла.
Усё бліжай!.. І на двор прымчаў
Еўгеній! „Ах"—і лёгкім ценем
Тацяна скок ў другія сені,
Праз ганак ў двор, і проста ў сад;
Ляціць, ляціць, зірнуць назад
Баіцца, вось пааббягала
Курціны, мосцікі, лужок,
Праход да возера, лясок,
Бэз, бягучы, пераламала,
У знямозе каля ручая
На лаўку дзеўчына мая

XXXIX

Упала...
„Тут ён! Тут Еўгеній!
О, божа! што падумаў ён!"
У ёй сэрца у тузе нязменнай
Надзеі песціць цёмны сон;
Яна дрыжыць, ў ёй жар страшэнны;
Чакае: ці не йдзе? дарэмна.
Служанкі ў садзе на градах
Збіралі ягады ў кустах
І хорам па наказу пелі
(Угрунтаваны тым закон,
Каб панскай ягады цішком
Іх вусны ласыя не елі,
А пелі песні ў поўны тон:
Дасціпнасці вясковай плён!)

Песня дзяўчат

Любыя, дзяўчатачкі,
Душанькі, падружанькі,

Пагуляйце, дзеванькі
Загуляйце, мілыя!
Зацягніце песеньку,
Песеньку заветную,
Ды прывабце хлопчыка
У карагоды нашыя.
Як завабім хлопчыка,
Як здалёку выглядзім,
Разбяжымся, мілыя,
Закідаем вішаннем,
Вішаннем, малінаю,
Яснаю парэчкаю.
Не хадзі падслухіваць
Песенькі заветныя,
Не хадзі паглядываць
Гулейкі дзявочыя.

XL

Яны спяваюць і нядбала
Спеў звонкі слухаючы іх
Таццяна з прагнасцю чакала,
Каб трэпет сэрца ў ёй заціх,
І каб прайшло ланіт паланне.
Ды ў персях тое-ж трапятанне
Ланіт не супыніўся жар—
Яшчэ жарчэй палае твар:
Так матылёк пужлівы б'ецца
І ззяе трэпетным крылом,
Спайманы жвавым шкаляром.
Так зайчык у жытах трасецца,
Як з'явіцца ў яго вачах
Стралец, засеўшы у кустах.

XLI

Ды пад канец яна ўздыхнула,
Устала з лавачкі сваёй;
Пашла, ды толькі завярнула
У прысады,—проста перад ёй,
Вачыма ззяючы, Еўгеній
З'явіўся нейкім грозным ценем,
І як ад подыху агня
Ураз спынілася яна.
Пра плён сустрэчы нечаканай
Сягоння, просьба даравацъ,
Не ў сілах я пераказаць.
Вось ад даўгіх апавяданняў
Я адпачну і пахаджу:
Пасля як-небудзь раскажу.

*Пераклаў з рускае Ал. ДУДАР.*

*Янка Казека*

# НАСТАЎНІЦА

Раніцай прышоў хлопчык. Дзверы былі расчынены насцеж і ніхто з хатніх не бачыў, як ён ціха і нясмела падышоў да лавы, сарамліва стуліўся, быццам жадаў і далей быць непрымечаным; моўчкі стаяў і азіраўся навакол. Я першы заўважыў яго. Гэта быў хлопчык год васьмі-дзевяці. З-пад шапкі ў яго высоўваліся гладка прычэсаныя валасы ільнянага колеру. Сінія задуменныя вочы надавалі яго загарэламу тварыку недзіцячую сталасць.

— Чый ты будзеш, хлопчык?—ласкава звярнуўся я да яго.

Ён як быццам яшчэ больш засаромеўся, што яго заўважылі, апусціў погляд уніз, а потым, нібы штосьці прыпомніўшы, раптам ступіў некалькі крокаў наперад і імпэтным рухам рукі сарваў з галавы шапку. Невялікая, клапатліва згорнутая паперка выпала з шапкі на падлогу. Ён падняў яе і загаварыў:

— Гэта цёця мяне паслала, каб я занёс.

Ён працягнуў мне паперку.

— Якая цёця?

— А вучыцелька наша. Хіба вы яе не ведаеце?—здзіўлена запытаў ён.—Яна ў нас ужо даўно жыве. Яе ўсе ведаюць.

Я заўважыў, што хлопчык не зводзіў з мяне вачэй, калі я чытаў, нібы жадаў паводле выразу майго твару разгадаць, што пісала яго настаўніца.

— Цёця вельмі хоча, каб вы таксама напісалі ёй. Хоць адно слова, прасіла цёця...

Я падышоў да стала, каб напісаць адказ. Але доўга не знаходзіў трапных слоў. Адна праз адну мітусіліся ўзварушаныя думкі, а перад вачыма неадступна стаяў і вабіў вобраз зграбнай, тонкай і смуглявай дзяўчыны. Хацелася ў сціплай запісцы выказаць многае, напісаць такое, каб яна адчула ўсё маё нутро, усю радасць, якой яна мяне надарыла. Яшчэ тады, упершыню ўбачыўшы яе, з шчымлівай узнятасцю затрапятала маё сэрца. І я пайшоў тады з невыразнай трывогай і затоенымі надзеямі. Ужо некалькі дзён пешчу, як замілаваную песню, да болю палаючыя думкі аб смуглявай дзяўчыне. А цяпер... Такі слаўны пасланец ад яе... Толькі як выказаць ёй маё захапленне? І я, парваўшы на кавалачкі некалькі пачатых запісак, нарэшце напісаў:

„Прыду, Дора. Абавязкова прыду. Нават раней, чым чакаць будзе“.

І яшчэ прыпісаў перад тым, як аддаць хлопчыку:

„А ў тваёй гаспадыні вельмі слаўны сынок. Можа не праўда, скажаш?“

З маленькім пасланцом я гаварыў доўга. Ён пасмялеў і ахвотна апавядаў пра школу, пра сваю „вучыцельку“—цёцю Дору, пра гульні і экскурсіі. Я заўважыў, з якім дзіцячым замілаваннем ён апавядаў пра „цёцю“. А калі ён пайшоў, захаваўшы ў шапку і маю запіску, калі ён панёс настаўніцы часцінку маіх хваляванняў, я ў раздум'і хадзіў па хаце. Мае пальцы гарэлі ад настаўнічынай запіскі, перачытваў яе. Было напісана дробна і густа:

„Павел!

Прабач, што наважылася непакоіць цябе і пішу вось гэта.

Ты, пэўна, памятаеш, як было ў той вечар, калі мы ўбачыліся першы раз. Ты ішоў па вуліцы, а я сядзела каля акна. Можа бачыў, як я са сполахам і радасцю праводзіла цябе вачыма па вуліцы. Я не ведаю, што са мною сталася. Я ўвесь вечар тады не адыходзіла ад акна з надзеяй, што ўбачу яшчэ, і ўсё думала, думала. Пасля ўсе дні я не знаходзіла спакою. Да мяне вярнулася мінулае. Ажыло яно тады раптоўна, з новай сілай захапіла мяне. Мне балюча стала і ў той-жа час добра і лёгка. Балюча, бо адабралі яго чужыя людзі, гідкія, дзікія. І добра, добра. Гэта-ж і ў мяне было такое шчасце!

А ведаеш, Паўлік, мне хочацца бачыцца з табою і пагутарыць ад усяго сэрца. Мы сустракаліся ўжо не раз. Бывае так, што да болю хочацца гаварыць другому пра свае радасць і смутак. Прыдзі сёння ўвечары. Удзень пайду з дзяцьмі ў лес.

Ледзь не запамятавала. Ты не ўяўляеш, як я ўчора радавалася дажджу. Ён так патрэбен. Сёння раненька выбегла ў школьны гарод і надзівіцца не магла: за ноч паднялася прыметна і бульба, і буракі, і травінкі на мяжы растуць, як малюткі ўсёроўна. А капусты мы пасадзілі, як ты сказаў. Прыдзі, паглядзіш. Чакаю цябе.

Дора Карасік“.

Я ўспамінаю першы вечар.

Я праходзіў па вёсцы. Пачынала змяркацца. Майскі адвячорак быў свежы і ціхі. Я ішоў павольна і думаў, што вось праз некалькі дзён ужо расцвіце бэз і тады адвячоркамі будзе вісець над вёскаю густы яго пах.

А потым яна—Дора. Акно расчынена насцеж і ветрык злёгку калыхаў белую фіранку. Яна, задумённая, пазірала на вуліцу, засланіўшы грудзі крайком фіранкі. „Пэўна настаўніца, пра якую мне казалі“,—успомніў я і чамусьці абрадаваўся сваей здагадцы. Чорныя-чорныя валасы абрамлялі яе твар дробнымі кудзерцамі, кладучы на смуглявыя шчокі ледзь прыметныя цені, чорныя глыбокія вочы. А над імі густыя бровы, нібы ластаўчыны крыллі на ўзлёце. Яна сядзела нерухома, глядзела кудысьці ўдалеч. Раптам заўважыла мяне. Уздрыгнулі яе бровы. І як праводзіла поглядам, знікла з яе твара ранейшая строгасць. Здзіўленне ўспыхнула ў яе вачах. Шчокі загарэліся. Яна ўтаропілася ў мяне, як у блізкага знаёмага, якога праз доўгі час неспадзявана сустрэла. Яна

памкнулася праз акно ў маю старану, урывіста адкінулася назад, пацерла кончыкам фіранкі вочы, нібы толькі што прачнулася, і са страхам і радасцю яшчэ раз упілася ў мяне вачыма. Нервова ўшчаміла пальцамі кончык фіранкі, якая надзьмулася, як парус. Я пайшоў разгублены і доўга яшчэ адчуваў яе позірк, праніклівы і здзіўлены. Я сіліўся разгадаць, што ўсё гэта азначае. Здаецца раней не сустракаўся з ёю. Зусім незнаёмая дзяўчына. Безліч рознастайных здагадак узварухнулася ў маёй галаве. Я неадступна жадаў новай сустрэчы з гэтай дзіўнай дзяўчынай. Было цікаўна. Я вельмі хваляваўся. З зрокавай памяці не знікала надзьмутая, нібы парус, белая фіранка. Мне здавалася, што дзяўчына плыве па бурлівым моры ў чаўнаку, яе во-во захлынуць хвалі, а яна просіць у мяне паратунку.

Сустрэча выпала сама. На другі дзень на школьным гародзе садзілі капусту. Я пайшоў даць некаторыя парады. Дора з групкай дзяцей працавала на крайняй градцы. Дзеці выбіралі рукамі невялікія ямачкі. А яна, з закасанымі рукавамі блакітнай блузкі, дбайна брала з кошыка па аднаму каліўцу расады, саджала ў ямачкі і абгортвала свежай зямлёй. Дзеці ўслед палівалі. Люба было глядзець на гэту суладную працу. Мяне доўга ніхто не прымячаў. Я, не адрываючыся, глядзеў на лёгкія рухі, на кучаравую галаву і смуглую загарэлую шыю стройнай, чарнавокай настаўніцы. З правага боку ў яе мітусілася бялявая дзяўчынка. Маленькая працавала так спрытна і старанна, што ўся расчырванелася, а на твары высыпалі гарошыны поту. З матчынай заклапочанасцю Дора выцерла хустачкай твар дзяўчынкі, прыгарнула яе галоўку да сябе. І я чуў, як пыталася занепакоеным голасам:

— А ты ўжо стамілася, мая работнічка?

— Не яшчэ,—адказвала дзяўчынка.

— Вось скончым зараз, а тады ўсе адпачываць будзем,—суцяшала яе Дора.

Заўважыў мяне самы маленькі хлопчык з віхраватай галоўкай:

— Цёця, да нас прышоў нехта,—прашаптаў ён Доры, але так, што і я пачуў.

Яна аглянулася. Выраз нечаканасці і мімалётнае замяшанне надавалі яе смугламу твару асаблівую прываблівасць.

— Вось не чакала... Сам аграном да нас...

Я вельмі збянтэжыўся.

— Дапамагаць вам прыйшоў.

У нас утаропіліся пытлівыя твары дзяцей.

— А гэта мая сямейка такая,—схамянулася Дора, акінуўшы ласкавым поглядам дзяцей:—Ладная? Ах, ты не знаеш, як я люблю гэтых усіх малышоў. Нейкае асаблівае святло агортвае цябе, калі ты з імі... Вялікае шчасце...

Мы потым доўга хадзілі па вытаптаных разорах між град, агледалі маладыя ўсходы гуркоў, фасолі, буракоў. Усюды бачыў я дбайныя клопаты настаўніцы Доры. Яна пыталася, калі лепш пачынаць першую праполку, як паліваць расліны. Шчырая і простая гутарка цягнулася доўга.

Праз усе дні я не раставаўся ў думках з Дорай. Уночы я доўга не мог заснуць. Смаглыя вусны нячутна шапталі: „Люблю...люблю...“ Мне здавалася, што крычу гэта на ўвесь голас. А водсветы яркага месяца на сцяне нагадвалі мне белую фіранку на яе акне, надзьмутую як парус... А яе смуглявы твар у чорных кудзерцах я ў сваім уяўленні дамалёўваў на гэтым ясным фоне...

... І вось мы разам на захадзе сонца.

Невялікі, але ўтульны настаўнічын пакойчык напаўняўся сінявымі змрокамі. Плылі яны з саду і ўжо тут, у пакойчыку, мякка і лагодна хаваліся ў кутк. Урачыста набліжаўся вечар.

Мы стаялі каля акна, што выходзіла ў сад, дзе цвілі ўсе дрэвы, затапіўшы ў бялявай наквеці зеляніну маладых лістоў. Хмялістае паветра струменілася ў пакойчык. Мядовы подых яблыневага цвіцення кружыў галаву. Ледзь прыметна гаркаваты прысмак маладога чартапалоху і бур‘яну, што забуялі каля платоў, казытаў нос. Недзе далёка за садам палыхала і трапяталася вячэрняя зара. Бледнаружовая ручаіна цягнулася праз усё заходняе неба, то там, то сям запальваліся ў апошніх сонечных стрэлах барашкавыя воблачкі. Малінавы колер прасочваўся паміж галінак дрэў, і на сцяне пераліваліся яркія водблескі. Дора дастала праз акно галінку грушы, прыцягнула да сябе і па аднаму абшчыпвала белыя пялёсткі, кідаючы іх, як белае лебядзінае пер‘е, на падаконнік. І гаварыла таропка, я дзівіўся, як гэта ў яе паспявалі думкі так хутка і стройна вязацца ў гутарку. Пры гэтым часта, парыўкім рухам галавы адкідала з вачэй назойлівыя кудры.

— Паўлік, а я вось успомніла, як сюды прыехала,—гаварыла і глыбока пазірала мне ў вочы:—Ты толькі падумай: мне тады споўнілася ўсяго шаснаццаць гадоў. Зусім яшчэ дзіця, з дому не хацелі пускаць. А тут усе незнаёмыя. Страх агарнуў мяне, аж плакаць хацелася. Здавалася, гэтыя людзі ніколі не зразумеюць мяне і я буду адна-адзінюсенькая, як тая дзічка ў полі. Шкада стала сяброўак з настаўніцкіх курсаў. Але вярнуцца назад і ў думках не мела. Парывалася хутчэй узяцца за работу. Але справа пайшла інакш. Ты яшчэ не ведаеш, Паўлік, якія тут добрыя людзі. Не ўсе, праўда. У першы-ж вечар прышлі дзяўчаты-калгасніцы і запрасілі ісці з імі гуляць. Мне і цікава было гэта. Памятаю, у той вечар моладзь сабралася за вёскай ля ракі. Танцавалі пад гармонік, песні спявалі. Вясёлая тут моладзь. І я хутка падружылася з дзяўчатамі. Сама з імі спяваю.

Яна на хвілінку змоўкла, нібы забылася, што далей казаць, а пасля звярнулася да мяне.

— Ты ўжо быў каля лесу? Не? Так нельга. Там вельмі прыгожая мясціна: лес, луг, рака. Хочаш, мы зараз пойдзем?

— Добра.

— Наогул,— сказала яна, зачыняючы акно,—як можна цяпер сядзець у хаце?

Яна ўскінула на плечы лёгкую хустку і мы вышлі. Уверсе, у сіняпапяліным небе, запальваліся зоркі, закрасавалі яны, як спелыя суніцы. За вёскай спявалі дзяўчаты. Песня хмяліла, нібы

водыр цвітучага саду. Ніто з аддаленых берагоў лугу, ніто з глыбінь цёмнага бору яна імчалася нам насустрач.

— Мы пойдзем да іх?—запытаўся я.

— Пойдзем.

І па дарозе Дора не пераставала гаварыць пра дзяцей.

— Іду раніцай у школу, а яны збяруцца ўжо і выбегуць сустракаць. Абкружаць цесна, шчабечуць, як вераб'і. Кожны хоча ісці са мною побач. Мне з імі так лёгка і весела...

Мы ішлі блізка-блізка. „Слаўная яна, настаўніца Дора,—думаў я:—Колькі ў яе жыцця, дабраты і шчырасці!"

У канцы вёскі рака рабіла круты паварот і адыходзіла да лесу. У гладкім празрыстым шкле ракі любаваліся сабою стройныя прыбярэжныя алешыны і ракіты. Глыбока пад вадою было апракінута другое неба. Я не мог вачэй адарваць ад падводных зорак...

— Любуешся? Давай лепш сядзем на бервяно,—сказала, а голас стаў цішэйшы, больш блізкі.

— Раса сёння буйная,— і я правёў пальцамі па траве. Яна ціха прашуршала і на маю далонь пасыпаліся цяжкія халодныя кроплі.

Дора глядзела на раку ўважліва і строга. Можа і не глядзела, а толькі аддалася сваім думкам. „Якраз, як тады ля акна",—успомніў я. Нельга было зразумець гэту раптоўную перамену.

— Дора, чаго ты так?

Яна ўстрапянулася.

— Ды нічога... Я... успомніла вось...

— Раскажы мне, Дора.

Яе чыстыя чорныя вочы засвяціліся цяплынёю.

— Памятаеш, я збіралася сказаць табе штосьці, як пісала?—уздыхнула глыбока.—Дык вось паслухай...

Пасля маленькага перапынку яна загаварыла роўным голасам.

— Тры вясны ўжо прайшло... А было ўсё—нібы сёння, помню так. Вясна тады ішла хутка, напорна. За тыдзень увесь снег, як рукою зняло. Памятаю: стаяў сонечны дзень. Мы пайшлі на мост паглядзець, як плылі апошнія крыгі. А там і хлопцы былі. Барыс таксама. Ён працаваў брыгадзірам у калгасе. Я яго і раней бачыла некалькі разоў, але размаўляць не даводзілася. Не ведаю як, але ў нас завязалася гутарка. Смяяліся, жартавалі. Пасля пайшлі. Я і не заўважыла нават. Прайшлі ўжо шмат, калі я ўбачыла, што мы ўдваіх толькі. З гэтага і пачалося. Мы сустракаліся кожны дзень, сюды прыходзілі ўвечары. Ён такі харошы, харошы быў! А я любіла першы раз. Першы раз...—Памаўчала з хвіліну.—А ты ведаеш, навошта я кажу ўсё гэта? Ён быў вельмі падобны да цябе. Як дзве каплі вады. І росту такога. Ну, да чаго толькі можа быць падабенства ў людзей! І вочы шэрыя, як у цябе, і бровы такімі дужкамі ўзляталі над вачамі, і лоб такі чысты і высокі, а валасы кучаравыя і светлыя з пшанічным адценнем, і нос з невялікай гарбінкай, як у цябе. Бывала, сядзім вось на гэтым бервяне, ён што-небудзь гаворыць, а я слухаю і перабіраю пальцамі валасы яго. Ці бегаем па траве, як дзеці малыя.

І калі я тады ўбачыла цябе,—аж спалохалася, Барыс, дый годзе! Якраз і ён так праходзіў каля майго акна. Толькі характарам ён

быў больш гарачы за цябе, больш рупатлівы. Калгас яго на ногі паставіў. Ён меў тут шмат прыяцеляў, але былі і ворагі...

— А дзе ён цяпер?

— Гэта цяжка гаварыць, Паўлік,—голас прыцішыла, ён стаў надорваны, прыглушаны.—Цяжка... Барыс!.. Я-ж яго люблю...любіла... а яны... Гэта зверства, гэта... Ён не прыдзе болей, нічога не скажа болей,— і сама не магла гаварыць далей. Пакаціліся з вачэй нястрыманыя слёзы.

Я суцяшаў яе. Хутка перамагла нахлынуўшую роспач.

— Ён актывістам быў у вёсцы, комсамольцам, дык яго кулакі ненавідзелі, злосць мелі... Тады быў такі, як сёння, вечар. Я апошні раз з ім была тут. А назаўтра ён у горад паехаў. Падсцераглі ў лесе... Назад не вярнуўся ўжо, мёртвага прывезлі...

Яна апусціла галаву мне на плячо, і я адчуваў, як цяжка ўздрыгвалі яе плечы. Я прыхіліў яе галаву да сябе, усхвалявана гладзіў падатлівыя кудры.

— Дора!.. Ну, хопіць... я ведаю, што гэта цяжка... Але не трэба болей... Перастань, любая..!—І цалаваў яе смуглявы лоб, бровы. Яна не пярэчыла. І толькі шаптала:

— Яны звяры, дзікія звяры...

А калі супакоілася крыху, падняла вочы на мяне. На чорных расніцах зіхаціліся слёзы, нібы кроплі расы.

— Паўлік... родны... ты так да яго падобны з выгляду. Абяцаешся быць падобным да Барыса і ўсім нутром сваім?—У яе голасе адчувалася лёгкае замяшанне, няўпэўненасць.

— Абяцаюся!..—адказаў я з усёй глыбіні сваіх пачуццяў. Мае слова гучэла, як прысяга.

На чорных расніцах настаўніцы высахлі слёзы. Яе зрэнкі праменіліся новым знойдзеным шчасцем. Яна апавядала мне розныя драбніцы з жыцця загінуўшага комсамольца. Ён стаяў перад маімі вачыма, як жывы... Яе словы наскрозь пранізвалі маю істоту, натхнялі мяне на смелыя ўчынкі і з кожнай хвілінай у мяне расла ўпэўненасць, што выканаю сваё абяцанне. Яе голас—буркатлівы, грудны, усцешаны—веяў на мяне нязнанай пяшчотай.

Яна шчыльней тулілася да мяне.

Тут-жа, у глыбіні ракі, мігаціліся зоркі з апракінутага неба...

1935 г. Менск.

*Ефім Садоўскі*

# НЯЎМІРУЧАСЦЬ

Талька з'явілася ў пакоі нечакана і шумна... Падбегшы да люстэрка і какетліва агледзеўшы сябе, яна засыпала Нату таропкімі словамі:

— Ты не ўяўляеш сабе які хлопец! Мастак. Сінія вочы. І ведаеш, яму спадабаліся... Што-б ты магла падумаць?—Мае вушы.— Пры гэтым Талька скасавурыла вочы на люстэрка, каб у тысячны раз палюбавацца імі.—Высокі... Зусім на твой густ... Да столі. І тонкі...

Ната прывыкла да бурных выбухаў пачуццяў у сваёй сяброўкі і паставілася да яе слоў з звычайнай абыякавасцю.

— Так... Ты пойдзеш?

— Куды— са здзіўленнем спытала Ната.

— А хіба я табе не сказала!?

— Не,—і Ната, пацікаючы плячыма, паглядзела на сяброўку.

— Якая-ж я бязуважлівая... Забегла да цябе, каб запрасіць вечарам на выстаўку яго карцін, у клубе металістаў, ён да вышэйшых мастацкіх курсаў працаваў на заводзе,—самага асноўнага так і не сказала... Пойдзем, Натачка... Я яму ўжо гаварыла пра цябе... Ну, пойдзем, пойдзем,—яна падбегла да сяброўкі і пачала яе трэсці...

— Талька, пакінь!—і Ната ледзь вырвалася з яе рук.

— Абяцай мне, або зусім задушу... Ну, не з-за яго, карціны-ж паглядзець можна... Як ты думаеш, можна?—і Талька перайшла на сур'ёзны тон.

Ната ўсміхнулася...

— Таля, ты дыпламат, чэснае слова ў цябе праяўляюцца новыя здольнасці.

— Значыцца, пойдзем. Нашто ў такім выпадку пішуць карціны. Ты да мяне зойдзеш, ці я да цябе... Годзе, годзе раздумваць... Я да цябе, а не, дык ты яшчэ ўцячэш.—І Талька шумна схавалася за дзвярыма.

Цяжка было адшукаць хоць-бы адну рысачку падобнасці ў характары гэтых дзяўчат, а вось сяброўства іх не разальеш і вадой. Сяброўства перайшло да іх па спадчыне—ад Сцяпана Васільевіча—інжынера машынабудаўніка—бацькі Наты і інжынерахіміка—Нікіты Канстанцінавіча—бацькі Талі... І яны калісьці, як пасля Ната і Таля, разам за адной школьнай партай атрымлівалі

сярэднюю адукацыю, а потым і ў інстытут адзін пашлі,—шляхі разыйшліся толькі ў выбары аддзяленняў: Сцяпан Васільевіч пашоў на машынабудаўнічае, а Нікіта Канстанцінавіч на хімічнае.

Тое-ж здарылася з Натай і Талей.

Ната пайшла бацькавай дарогай і гэтым летам ужо практыкавалася на тым заводзе, дзе бацька ўстанаўляў новыя катлы.

Талька-ж, якая заўсёды ішла па шляхах сваёй сяброўкі, раптам змяніла прынятае ёю рашэнне і аднесла паперы на педфак...

— Будзе Натка ў цябе сын балбес-балбесам і трапіць ён да мяне на выхаванне...

— Уяўляю,—перабівае Ната сяброўку.—Між іншым табе лепш відаць, добрыя педагогі таксама патрэбны.

Дзяўчаты сябравалі...

Мастак быў зусім не такім высокім, як аб ім гаварыла Таля, але вочы ў яго былі сапраўды сінія, і Наце, у першую хвіліну, здалося, што яны нават нафарбаваныя. Між іншым, гэта было зусім не істотным. Галоўнае, вядома, карціны. Ната спынялася каля кожнага палатна, доўга разглядала іх, то набліжаючыся да карціны, то адыходзячы ў бок, далей, і ніяк не магла разабрацца ў сваіх уражаннях.

У карцінах відаць былі адзнакі вучнёўства, адчувалася, што пэндзлем мастак уладае не зусім смела і ўсё-ж карціны падкупалі сваёй шчырасцю. Наце асабліва спадабалася адна карціна, простая па сюжэту, але неяк па асабліваму свежая і радасная „Катанне з гары“.

Ната ў трэці раз спынілася каля карціны.

— Глядзіце, як нашыя густы сыходзяцца. Мне самому гэтая карціна падабаецца больш за іншыя... А мой прафесар лічыць яе дрэннай...

Ната ўздрыганулася...

— Таля кажа, што вы вельмі сур‘ёзны крытык. Вы самі рысуеце?

— Ну і рысую ўжо, проста, як Рэпін. Хатка садочак з трыма дрэвамі... Не, цяпер я не рысую. Калісьці ў школе, у першых класах...

Ната сама здзівілася сваёй раптоўнай шчырасці.

— Хочаце са мной яшчэ раз абыйсці выстаўку? Магчыма, вы адчуваеце сябе нялоўка ад таго, што мы незнаёмы.

Валодзя Звякін працягнуў ёй руку... Ната згадзілася і яны пачалі хадзіць па залі, спыняючыся каля кожнай карціны.

* * *

Сем месяцаў, не менш Сцяпан Васільевіч знаходзіўся ў камандыроўцы. Вандроўнае жыццё інжынера Мажэйкі пачалося нядаўна—прыкладна гадоў пяць назад, у той час, калі яму пераваліла за пяцьдзесят гадоў. Як ні супрацiўлялася Ната, адзіная дачка—нічога не вышла, Сцяпан Васільевіч паставіў на сваім і ад спакойнай габінетнай работы ў трэсце перайшоў у мантажны аддзел, а гэта

было звязана з доўгім знаходжаннем то на адной, то на другой новапабудове.

Ната рана засталася без маці, ёй не было яшчэ і двух гадоў, і з таго часу Сцяпан Васільевіч замяніў ёй і маці і сябра...

Ён вучыў яе хадзіць, аслабелая ад хваробы, яна і ў два гады з цяжкасцю рабіла першыя крокі. Пасля сам рыхтаваў яе ў школу, замяняў ёй сяброўак і Ната, якая першыя дзіцячыя гады расла дзікаркай, адчувала сябе з ім не як з бацькам, а аднагодкам-таварышам... Да 13 год Ната не памятае дня, каб яны разлучыліся і раптам,—бацькі Сцяпана няма... Цётка Наты, якая ўзяла на сябе пасля смерці маці ўсе клопаты па гаспадарцы, пісала катэгарычныя лісты заклапочанаму інжынеру:—„Калі вы зараз-жа не прыедзеце, маёй нагі не будзе ў гэтай хаце. Вы губіце дзіця, разумееце яно слабее“.

У такіх выпадках Сцяпан Васільевіч на дзень або на два прыязджаў дахаты, каб супакоіць Нату.

Потым зноў выязджаў, Ната ізноў пачынала сумаваць,—капрызнічала, цэлымі днямі ляжала ў пасцелі, вельмі палохаючы гэтым і без таго нервовую цётку.

Калі атрымлівалі ліст ад бацькі, Ната замыкалася ў сваім пакойчыку, па дваццаць разоў перачытвала яго і тады ёй здавалася, што яна гутарыць з бацькам. Так пасту̃пова адсутнасць яго стала не так балюча перажывацца, а лісты замянялі ёй яго прысутнасць тут...

У яе жыцці гэтыя лісты займалі асаблівае і вялікае месца. Адчувалася, што і сам Сцяпан Васільевіч, скарачаючы свой сон, аддаваў гэтым паштовым, акуратна разлінаваным лістам паперы, велізарную ўвагу... Прыкладна, праз кожныя чатыры-пяць дзён цётка сустракала Нату каля дзвярэй з радасным, светлым тварам і тады не цяжка было здагадацца, што атрыман ліст ад бацькі... Тое, аб чым пісалі яны адзін аднаму, выходзіла за рамкі звычайнага разумення ліста. Сцяпан Васільевіч, нібы ўводзіў яе ў круг інтарэсаў сваёй работы, збліжаў яе з тымі людзьмі, з якімі яму самому прыходзілася сустракацца,—з дзяўчатамі ў шырокіх шаравах, якія ўзбіраліся на высокія рыштаванні рабіць апошнія заклёпкі ў новым катле, з манцёрамі—маладымі хлапцамі, што толькі што пасканчалі школы фабрычна-заводскага вучнёўства, з такарамі, пакрытымі сівізной ад доўгай працы, з інжынерамі-таварышамі па прафесіі.

Калі Сцяпан Васільевіч яшчэ жыў тут, ён быў для Наты самым дарагім, клапатлівым бацькам. Цяпер-жа, на адлегласці, яна ўбачыла ў ім новыя рысы. Ён многа апавядаў у лістах аб сваіх дзіцячых гадах, але апавяданне ішло ў цеснай сувязі з яго цяперашнімі поглядамі і гэта як-бы стрымлівала Нату ад памылак, якія яна магла зрабіць...

„Прашу ўдумацца,—пісаў аднаго разу Мажэйка сваёй дачцы, пачынаючы ліст улюбёным сказам...— Многа гадоў назад быў такі гімназісцік Сцёпа. Шэрае, звычайнае імя, а ён быў чэсталюбівы. Між іншым, Натачка, кожны чалавек у той або іншай ступені, да пэўнага ўзросту, мае імкненне да славы і нават бессмяротнасці...

Не ведаю, чым тлумачаць гэтае пачуццё вучоныя, можа быць яно з'яўляецца законамернай ступенню ў развіцці чалавека, так сказаць, прыродным пачуццём... Хутчэй за ўсё, так... Між іншым, Натачка, прашу ўдумацца, я ўзяў сур'ёзны тон, а мне хочацца напісаць табе проста, так-жа, як я гэта апавядаў-бы. І вось мне, гімназісціку Сцёпе, а ты відаць ведаеш, што выхоўваўся я ў сям'і далёка не багатай... Дзед твой, ты ўжо не пабачыла яго жывым, пачаў службу з разноскі тэлеграм, а скончыў яе тым, што на поўслове абарваў прыём нейкай тэлеграмы,—памёр ад разрыва сэрца, а быў ён самым радавым, на 15 рублёвым месячным акладзе, паштовым чыноўнікам... Ці гэта асяроддзе такое, ці, здаецца, усе паштовыя чыноўнікі, у тым ліку і іх патомства вядомыя, як лятуценнікі...

Гімназісцік Сцёпа, а ён ужо быў у апошнім класе, з пушком бледных вусікаў, з ускалмачанымі валасамі, якія ў беспарадку рассыпаліся на бакі, таксама належыў да ліку вялікіх лятуценнікаў... Ён запоем, прашу ўдумацца, чытаў кнігі аб жыцці праслаўленых людзей, нібы адшукваючы ў гэтым рэцэпт для сваёй славы. Я не памылюся, Натачка, калі скажу, што погляды яго—гэта былі, за рэдкім выключэннем, погляды цэлага пакалення... Набыць славу можна толькі ў адной галіне—мастацтва, толькі яно абяцае бессмяротнасць... Прагнасць да ваеннай славы нам была чужая, бо і ў гімназію я трапіў з цяжкасцю, дык што-ж ужо казаць аб недасяжным ваенным мундзіры. Нам ён быў не па плячы...

... Прашу ўдумацца, вяртаюся да ранейшых думак... Мастацтва... Але па якой дарозе пайсці? Спевы?.. Хоць я аўтабіяграфічныя запіскі Шаляпіна прачытаў не адрываючыся, за адзін раз, але голасам мяне прырода не надарыла... Ітак, значыцца, адпадае. Мяркуючы па тапорнаму стылю гэтага ліста, ты сама адчуваеш, што аб пісьменніцкай кар'еры таксама не магло быць і гутаркі. Тое-ж самае і музыка, і гэта, не гледзячы на тое, што я вельмі люблю яе... Заставаўся пэндзаль мастака. Мае здольнасці ў гэтай галіне не выходзілі за рамкі пасрэдных, але прагнасць да славы была такая вялікая ў гэтага юнака з простым імем, што, прашу ўдумацца, ён у сваім уяўленні вельмі павялічыў іх. Зразумела, усё было зроблена для таго, каб нават з знешняга боку быць падобным на мастака... Аксамітная блуза, купленая за грошы, з цяжкасцю зробленыя прыватнымі лекцыямі, густыя, калматыя валасы, пра якія я ўжо пісаў вышэй, той-жа пушок вусікаў...

Натачка, табе не сумна?.. Пацярпі, дзетка, можа і дайду да думкі, якую хачу прышчапіць табе... Ітак, прашу ўдумацца... Карціны мае былі вельмі пасрэднымі, але гэта я зразумеў пазней. У той-жа час у мяне выявіліся надзвычайныя арганізатарскія здольнасці, а сказаць праўду, гэта ўсё яна—чартоўка—слава, штурхала мяне на розныя справы... Я сам наладжваў выстаўкі сваіх карцін, з прычыны і без усякіх прычын, тэматычныя і без усякай тэмы... Адшукаў сабе сябра ў рэдакцыі нашага мясцовага лістка... Мой новы сябра быў з ліку тых пісьменнікаў, якія займаліся дробнымі хранікерскімі нататкамі. Мне было няцяжка ўгаварыць яго, каб ён часцей папулярызаваў мае карціны на старонках газеты, бо ў выпадку ўдачы, а яна несумненна павінна была прыйсці, адкрыццё

талента прыпішуць яму, і калі няма сваёй біяграфіі, дык чаму не трапіць у чужую... Натачка, я табе не паказваў, але ў мяне доўга захоўваліся вырэзкі з нашага гарадскога лістка, дзе мой практычны сябра з гнілаватым пафасам, які ўласцівы практычным людзям, пісаў аб адкрыцці новага таленту, аб яркіх выстаўках яго карцін, аб тым, над чым ён цяпер працуе, што задумаў і мяркуе калі-небудзь нарысаваць...

Млосна, Натачка... Нават прыгадваць млосна... Калі-б гэта ўсё было сур'ёзна, калі-б былі чаго-небудзь вартыя задаткі, а так, прашу ўнікнуць, нічога, апрача чэсталюбія, пагоні за славай, далёкай сіняй птушкай...

Не хутка, але ўсё-ж з гадамі, я выйшаў з гэтай паласы блуканняў... Але адгалоскі, адгалоскі—яны яшчэ доўга жылі ў ва мне. Натуля! Памятаеш, з якой упартасцю я імкнуўся прышчапіць табе гэтыя-ж самыя пачуцці, калі аднойчы ўбачыў тваю школьную работу па рысаванню... Твой яшчэ далёка нясмелы дзіцячы рысунак быў больш таленавітым, чым усе мае мастацкія патугі... Але як лёгка збіцца з дарогі... Прашу ўдумацца, Натачка".

Аўтабіяграфічныя радкі займалі не мала месца ў лістах Сцяпана Васільевіча. Яму рабілася лёгка пасля такіх лістоў, нібы ён скідаў цяжар з сэрца і канчаткова парваў з мінулым.

* * *

Месяцы праз тры, пасля наведвання выстаўкі, аднойчы вечарам Наце прынеслі тэлеграму... Яна раскрыла яе дрыглівымі рукамі і спачатку не зразумела. Потым хваляванне замянілася радасным... спакоем...

„Дваццаць восьмага дзевяць гадзін вечара моцна пацалую
Монтажнік".

Складаючы тэлеграму, здаволеная, падумала: „Мой мілы старык, нават у тэлеграме не мірыцца з звычайным, абавязкова што-небудзь сваё выдумае... 28 га ў 9 гадзін! Нешта ў мяне прызначана на гэты час... Ага... абяцаў прыйсці Валодзя, а можа пазваніць яму, каб не прыходзіў?.. Не, няхай сустрэнуцца...

Сцяпан Васільевіч не любіў, калі яго чакалі на вакзале. Звычайна ён прыязджаў раптоўна і папярэджваючыя тэлеграмы ад яго былі вялікай рэдкасцю... Ната не пайшла на вакзал.

У 9 гадзін з'явіўся мастак, а яшчэ праз 15 хвілін атрасаючы снег у калідоры зайшоў інжынер Мажэйка... Ната сустрэла яго каля дзвярэй...

— А ну, аддавай пацалунак, аддавай, аддавай... І не пагаліўся... Татачка, ты змізарнеў... Пакінь тут чамадан... Валодзя, ідзіце знаёміцца з маім філосафам... Маю гонар...

Ната ўсміхалася, штурхаючы наперад збянтэжанага хлапца:

— Пачынаючае свяціла, а гэта таксама мастак... Татачка, я чытала аб табе ў газеце, божа мой, як хваляць...

Сцяпан Васільевіч паставіў чамадан і, прыемна ўсміхаючыся, рушыў насустрач Звякіну. У гэтую хвіліну мастака ўразіла незвычайнае падабенства бацькі і дачкі. У абодвых, калі яны ўсміхаліся,

на ілбе высокай лесвіцай уздымаліся зморшчынкі. Толькі ў інжынера іх было болей.

Падобнасць наблізіла Звякіна да Сцяпана Васільевіча і яго засмучонасць адразу прайшла...

— Натачка, ды дайце-ж бацьку аддыхацца... Добра яшчэ, што тут няма Талькі. Зусім замучылі-б чалавека...

— Нічога, нічога, дачка. Гэта яна, прашу ўнікнуць, ад доўгай разлукі разбалбаталася, а так, дык у яе кляшчамі слова не вырвеш... Значыцца, дачушка, у газетах пішуць, хваляць, а я, праўду сказаць, і не чытаў. Няма калі, паверыш: устаю ў 6 гадзін раніцы і потым на ўвесь дзень да позняга вечара такой віхурай падхопіць, што і азірнуцца няма часу... Натачка, не будзеш натацый чытаць? Будзеш. Ну, усёроўна скажу, часамі так закруцішся, што і паесці не паспееш... Велізарны кацёл устанаўляем... 23 гады практыкі, а паверыце, нават у тэарэтычных працах аб такой магутнасці не марылі.

— Татачка Сцяпан—ты надоўга?—спытала Ната, кладучы свае рукі на бацькаву шыю.

— А наколькі-б ты хацела?..

— Я нават не ведаю, што табе адказаць, калі ўлічыць, што такі цікавы кацёл...

Сцяпан Васільевіч і мастак засмяяліся...

Было ўжо пасля поўначы, але Звякін заставаўся яшчэ тут... Хоць Ната нічога не пісала Сцяпану Васільевічу пра свайго новага знаёмага, ён адразу зразумеў, што паміж імі была дружба, якая перарастала ў нешта большае.

За сталом Сцяпан Васільевіч гаварыў пра завод. Ната і Валодзя слухалі яго, не адводзячы вачэй. Іх здзіўляла незвычайная юнацкая бадзёрасць у гэтым чалавеку, які, нібы забыўшыся на свае гады, апавядаў аб тым, з якой спрытнасцю, амаль гадзінамі ён лазіць па рыштаванні...

Апавядаючы, ён непрыметна паглядаў на мастака, нібы імкнучыся вызначыць,—ці не належыць ён да ліку тых людзей-лятуценнікаў, якім раней, у юнацкія гады быў ён сам... Але мастак больш маўчаў, а Ната, прыгадаўшы бацькаў ліст, катэгарычна заявіла, што заўтра нікуды не пойдзе, ні ў кіно, ні ў тэатр і тату трэба паказаць выстаўку карцін Валодзі.

— Вы даўно рысуеце?—спытаў інжынер, прапануючы Звякіну папяросу...

— Пяты год...

— І ўжо выстаўка карцін?..

— Гэта заўкомаўцы зрабілі. Я фрэзероўшчыкам на кацельным заводзе працаваў... Аднойчы чарцёж выконваў... Чарчу, а рука просіцца зарысоўку зрабіць... Рэдактар шматтыражкі ўбачыў, прычапіўся—дай у газету... А я да гэтага часу і не ведаў, што здольнасці маю... Праўда, часамі практыкаваўся, але больш дробязі рысаваў і ўсё для сябе... Фадзееў, рэдактар нашай шматтыражкі пабег у заўком, і яны да мяне на кватэру... Пакажы рысункі. Потым прафесара дасталі... Вучаць... І выстаўка, гэта іх работа... Натачка вось бачыла і паказваць пакуль што няма чаго.

— Валодзя, не будзь такім скромным. Я вам зусім не тое гаварыла...

Скромнасць, а яна была шчырай, спадабалася інжынеру...

— І ў газетах пра вас не пішуць, і вы нават блузы аксамітнай не маеце?

Ната засмяялася.

— Тата, што ты так строга экзаменуеш таварыша. Ён зараз пабяжыць адсюль...

Звякін пачырванеў...

— Ну, не буду, не буду. Не крыўдуйце... Я калісьці сам рысаваў. Праўда паршывенька, а насіўся з думкай, што я вялікі мастак, якому засталося зрабіць поўкрока, каб забяспечыць сабе няўміручасць. Гатоў быў думаць, што пры жыцці Фуражырскую вуліцу, на якой я жыву, зменяць на Мажэйскую, над домам мемарыяльная дошка... Юнацтва... Юнацтва...

— Сцяпан Васільевіч, вы зусім пакінулі рысаваць?—спытаў Звякін, адчуваючы незвычайную цягу да гэтага, яшчэ некалькі гадзін назад незнаёмага чалавека.

— Зусім,— адказаў інжынер, скідаючы попел з папяросы...

— І вас не цягне?..

— Не ведаю, што вам і адказаць... Надоечы неяк аловак сам папрасіўся ў рукі... Станцыя, дзе мы зараз устанаўляем новы кацёл-унікум, знаходзіцца ў цудоўным месцы... Навакол векавыя балоты і, нібы наступаючы на іх, згуртавана і дружна рушаць карпусы новых пабудоў. Мяне пацягнула да алоўка, але не хапіла выяўленчых сродкаў—кінуў. Вазьміцеся вы ўжо за гэтую справу. Сур'ёзна вазьміцеся. Прыязджайце... Рысуйце... проста вам скажу, вялікая можа выйсці карціна... Калі я марознай раніцай, калі яшчэ толькі пачынае світаць, разам з будаўнікамі, мантажнікамі іду на рабочую пляцоўку і перада мною паўстае залітае электрычным святлом магутнае цела катла ростам у 30 чалавек, я адчуваю вялікі, хвалюючы гонар. Няма слоў, каб перадаць мае пачуцці. Яшчэ некалькі дзесяткаў год і Сцяпана Васільевіча Можэйкі не будзе і гэтая велізарная ўстаноўка нібы будзе помнікам таго, што ён некалі жыў, тварыў і гарэў... Якая рэальная неўміручасць... Памятаеш, Натачка, я табе калісьці пісаў, што кожны чалавек у той або іншай ступені мае прагу да славы... Я знайшоў яе... Няхай Фуражырская, як і спрадвеку, застаецца Фуражырскай... Няхай да дому, дзе я правёў лятуценнае дзяцінства, не начэпяць мемарыяльнай дошкі... Я сваю бессмяротнасць ужо цяпер адчуваю і таму, Натачка,—нечакана абарваў інжынер свой доўгі маналог, звяртаючыся да дачкі,—збірайцеся з таварышам Звякіным да мяне на пляцоўку. Праз пару месяцаў пуск. Сур'ёзна запрашаю.

Валодзя і Ната пераглянуліся паміж сабой.

— Татачка, цудоўна... Ці не праўда, Валодзя, надзвычайная ідэя...

— Так, так,—згадзіўся мастак.

— Татка,—памятай-жа, праз два месяцы я і Валодзя едзем глядзець тваю бессмяротнасць.

Інжынер наблізіў дачку да сябе і, ласкава пагладзіўшы па валасах, пацалаваў.

* * *

Ні Звякін, ні Ната, ні сам Сцяпан Васільевіч не ведалі ў той вечар, што гэта будзе апошні прыезд інжынера Мажэйкі дахаты.

Праз два месяцы, калі Ната і Валодзя, упарадкаваўшы свае справы, ужо ўзялі білеты, каб ехаць да бацькі на пуск катла, нечакана ўначы прынеслі тэлеграму. Ната, не паспеўшы прачытаць яе да канца, страціла прытомнасць.

„... Разам з вамі выказваем свой глыбокі жаль у велізарным няшчасці,—было напісана ў тэлеграме,—сёння ў пяць гадзін дня, падымаючыся па рыштаванні для канчатковай праверкі верхніх заклёпак, трагічна загінуў Сцяпан Васільевіч Мажэйка. Адчуваем незамянімую страту... Памяць аб адданым інжынеры кліча нас да паскарэння пускавых тэмпаў. Уздымаем пытанне аб увекавечванні імені Мажэйкі, надаўшы яго новай устаноўцы... Смуткуем. Усімі пачуццямі з вамі...

Дырэктар... Сакратар парткома... Старшыня заўкома...“

А яшчэ праз два дні атрымаўся спознены ліст ад Сцяпана Васільевіча, у якім ён з той-жа самай юнацкай бадзёрасцю, як і ў вечар свайго прыезду, шчыра і радасна пісаў аб людзях, што працуюць з ім, аб поспехах пабудовы, аб цудоўным катле і аб знойдзенай няўміручасці...

*Пераклаў з рускай мовы С. Л.*

*В. Небосеў*

# МАКСІМ ПАРАБУЛА

Міня Гольдзіна сядзела ў бібліятэцы і вывучала хітрыя законы рэакцый, радоў, уласцівасцей элементаў... Але іншы раз Міня не пазірала ў кніжку, а ўпівалася вачыма ў студэнта Максіма Парабулу і думала пра сябе:

„...Дзіўны чалавек Максім Парабула. Ні то каб з яго розуму смяяліся ў інтэрнаце, або з кірпатага носа, ці з шэрых, як у савы, вачэй,—дык не, гэтымі заганамі яго не надарыла прырода“. Нос у Парабулы быў як бабінка, з гарбінкай нават, зубы роўныя і белыя, як часнок, а вочы, дык такіх яшчэ ні адна дзяўчына не бачыла—чорныя, задумлівыя такія, валасы кучаравыя і толькі шчокі і падбародак (які аброс рэдкай чорнай шчацінай) былі на дзіва чырвоныя. Мажліва, такі выгляд і не падабаецца дзяўчатам, але Гольдзіна Міня пакахала Максіма Парабулу, і яго чорныя вочы і валасы напэўна не забудзе да самай смерці. Што-ж асаблівае бачыць Міня ў Парабуле, мо' думаеце прыгожасць, як стараюцца нашы дзяўчаты прыкмячаць у першую сустрэчу, мо' думаеце Максім меў лагодны і дужы голас і ўмеў размаўляць не горш за таго артыста?.. Не, Парабула быў звычайным чалавекам; за чаркай, праўда, мог і паспяваць, пажартаваць і голас набываў тады асаблівую пявучасць. Але Максім піў рэдка. У кіно ён хадзіў адзін раз у месяц, браў білеты па студэнцкай скідцы і праграмы перад карцінай не чытаў (хоць і купляў яе).

— Не цікава глядзець тады карціну,—думаў ён пра сябе, і толькі ў інтэрнаце, калі ўжо клаўся спаць, прачытваў і паціху пасмейваўся з тых ці іншых герояў, або, наадварот, спачуваў ім і рэдка браў прыклад.

Максім Парабула ўжо чацверты год з пяці гадзін вечара, амаль кожны дзень, сядзіць у гэтай бібліятэцы і працуе над фізікай. Патрачаная энергія не загінула—Максім Парабула мог блюснуць новымі „арыгінальнымі славечкамі“, а часам вельмі ўмела тлумачыў фізічныя з'явы. Аднойчы універсітэцкая шматтыражка пісала, што Парабула чалавек з жалезнай воляй, што ўвесь месяц у яго загадзя размеркаван, кожны дзень таксама разбіваецца на часткі і ў рабочы план уваходзіць не толькі праца ў бібліятэцы і лекцыі, але і кіно! Міня-ж ведала, што ў яго рабочы план уваходзіць

і такая дробязь, як прыблізная колькасць папірос і час, патрэбны каб іх скурыць. Словам, Парабула ў вачах Міні быў ідэалам студэнта і хлапца, з якім-бы яна жадала сябраваць. У першыя гады Міня аддавала яму вялікую ўвагу, але яна хутка зразумела, што Парабула не цікавіцца ёй і аднаго разу нават чула, як ён казаў:

— Непрыгожая. Я вазьму сабе на пяць-шэсць год маладзейшую, як доктар Фарэль раіць.

Думкі бягуць далей. Міне расказалі таварышкі пра Максімава мінулае, нават такія дробязі з яго дзяцінства, калі ён загадваў сваім таварышам лазіць на купчастыя стромкія бярозы і даставаць варонія яйкі. Максім іх піў: „Ад гэтага папраўляецца голас, казала настаўніца". А Максім хацеў, каб у яго быў прыгожы голас. Маладзейшыя пастухі добра ведалі Максімавы кулакі і ніколі не спрачаліся, кожны дзень прыносілі яму цэлую шапку шэрых вароніх яек, якія Максім выпіваў з вялікай ахвотай. За яго настойлівыя патрабаванні пастухі празвалі Парабулу „рыжай каровай", якая славілася ў стадзе сваёй непаслухмянасцю. Ва універсітэце пра гэтую клічку ніхто не ведае, але студэнты далі яму назвы: „зубрыла", „кніжны пацук". Паміж сабой яны часта гавораць:

— Адны формулы, як тыя арэхі, лузгае, ды ў мяшок шкарлупкі збірае...

— Гэта слоўнік па фізіцы.

Трэція дабаўлялі.

— Парабала—гэта не чалавек, а геаметрычнае месца точак і няма чаго чалавечнасці у ёй шукаць!—і потым рагаталі. Калі ў Парабулы пыталі:—Што ты чытаў з мастацкай літаратуры?—ён эгаістычна адказваў:

— Пляваць я хачу. Мне перш трэба скончыць фізіка-матэматычны факультэт, а потым будзе час і для белетрыстыкі!—пры гэтым на слова „белетрыстыка" ён рабіў націск і моршчыў твар, як-бы раздушваў клапа.

Вось з гэтым ужо Міня не згаджалася, аднак, асуджаць Парабулу не магла, ёй здавалася, што Максім, як „едкі калі" заставаўся ў яе галаве і дзейнічаў на псіхіку не слабей „царскай водкі". Магчыма гэта тлумачыцца асаблівасцю характара Міні, якая не магла жыць, каб не захапляцца і не падражаць каму-небудзь. Пры гэтым, кахаць не простага хлапца, а маючага некаторыя асаблівасці. Так ужо яна была выхавана сваёй бабулькай з маленства, якая бывала не выпускала яе на панадворак адну, баючыся, каб местачковыя не навучылі яе „на сабак брахаць". Нават, калі Міня ўжо значна падрасла, бабулька не выпускала яе з-пад свайго крыльца і часта пералічвала сем запаведзей, у якіх значылася, што кавалер, на выпадак шлюбу, павінен быць забяспечаны, чэсны, як чалавек павінен быць не абавязкова прыгожы... пажадана рослы і моцны, актыўны і энергічны і апошняе—дзяўчына павінна адчуваць яго перавагу над сабой, як у рабоце, так і ў весялосці—ён развязней, павінен быць... Але ў Міні з гэтых сямі запаведзей засталася толькі адна, першая, ды і тая не ўся:

— Парабула не звычайны чалавек, своеасаблівы, з жалезным,

уласцівым толькі яму, характарам!.. Праўда, нельга сказаць, каб Міня на яго ўзаемнасць спадзявалася. Не, проста, пазірала як на калючы асот і думала:

— А ўсё-такі ён прыгожы, своеасаблівы, упарты... І гэта яе яшчэ больш захапляла, цешыла, радавала, а іншы раз і агарчала.

Тым часам на дваццаць пятым гаду максімавага заведзенага як гадзінны механізм жыцця ён аканчваў фізмат і ў свой асабісты план уключыў пункт: „Жаніцца". Ён разумеў, што выбраць тавaрыша на ўсё жыццё, рэч не раптоўная, а наадварот, вельмі складаная. У апошні год Парабула, седзячы ў чытальні, часта прыглядаўся да дзяўчат, але не знаёміўся з імі. Ён развражаў крыху дзіўна: „Калі табе падабаецца дзяўчына па „форме", то з гэтага нельга рабіць вывад, што яна будзе для цябе добрая жонка. Прыгожую дзяўчыну трэба ўзяць на ўчот воддаль, наглядаць за ей, абавязкова даведацца пра яе „змест" вакольным шляхам і ні ў якім разе не аддзяляць „змест" ад „формы". І перад Максімам Парабулам паўстала праблема: „азнаёміцца завочна з дзяўчынай і, пажадана, найбольш падрабязней і глыбей..." Але Парабула чалавек упэўнены ў свае сілы і дапамогі таварышоў не патрабуе, наадварот, для яго закон--кніжка". „У кнізе знойдзеш адказ на ўсе пытанні". Такую кніжку ён адшукаў: гэта была брашура „Почарк і асоба " Зуева-Інсарава.

Аднойчы Парабула прыкмеціў, што ў сінявокай дзяўчыны, якая лічылася ў яго на ўчоце, вывалілася нейкая паперка. Максім хуценька падбег, падняў згубленую паперку і вочы яго адразу ўпіліся ў белы аркуш. Затым, ён схаваў тую паперку ў кішэню і ўжо лагодная ўсмешка заззяла на яго твары. Парабула пайшоў з чытальні, нават, не дачакаўся дзесяці гадзін... „Першы раз парушыў свой рабочы план",—падумала Міня і стала слухаць, як галосіць, захліпваецца паміж стройных карпусоў горада разбушаваўшыйся лютаўскі вецер. Міня хацела ў гэтым плачу ветра адчуць і свой голас, свой сум...

Пасля гэтага выпадку Максім Парабула стаў старанна галіць сваю бараду, прычэпліваць белы накрахмалены каўнерык і з малінавымі кропелькамі гальштук, купіў новы касцюм і, напэўна, кожную ноч клаў пад матрац штаны, каб яны былі з канцікамі на калошнях... Міня заўважыла, што ён трымае ў руках кніжку не па фізіцы, а па экспертызе почырка Зуева-Інсарава. Здзівілася яна надзвычайна. Яна шмат думала аб гэтых зменах і аднойчы ехідна запыталася.

— Ці не думаеш ты, Максім, выбіраць сабе жонку па почырку?..

Максім пачырванеў і нічога не адказаў. Міне стала няёмка і яна ніколі не напамінала Парабулу аб дзяўчатах. Але ён упарта праседжваў дні над Інсаравым і штохвіліны заглядваў у невялічкі аркуш паперы. Міня дагадвалася, што гэта не інакш, як ліст дзяўчыны, якую ён кахае з маленства.

Рашэнне было цвёрдае—пакінуць Максіма Парабулу, не думаць аб ім і не сушыць сябе.

А між тым заканчваўся навучальны год, у Парабулы быў апошні залік.

— Пайду, хлопцы, лапці плесці!—жартаваў Максім Парабула і, засунуўшы глыбока ў кішэню свой незамяняльны „канспект“, адчыніў дзверы габінета, дзе сядзела прыймовая камісія. Таварышы таксама ўсміхаліся:

— Пляці, пляці... можа і нашы дзеці будуць хадзіць у тваіх „лапатках“?!

— Нічога, ён прадэкламуе—вызубрыў.

Як толькі Парабула адказаў па фізіцы, прадстаўнік Наркомасветы зусім раптоўна запытаўся:

— Таварыш Парабула, якую мастацкую літаратуру вы чыталі?..

Максім павярнуў чорнымі вачыма на трыста шэсцьдзесят градусаў і няўпэўнена адказаў:

— Кніжак напісана столькі, што, каб палажыць іх адна на адну, то такі слупок дасягнуў-бы месяца. Але я тое-сёе чытаў...—Максіму здалося, што гэта прыватная размова і да „лапцей“ не мае ніякага дачынення. Але тут ужо схамянуўся прафесар і папрасіў Парабулу ахарактарызаваць Дастаеўскага, як псіхолага.

— Пісьменнікі ўсе псіхолагі, — не думаючы адказаў Максім і ўсміхнуўся, праўда, у яго адразу ёкнула сэрца, бо твар прафесара зморшчыўся, як мёрзлы адагрэты яблык, і, нават, на міг бліснула неўразуменне.

— Карацей кажучы, вы, галубчык, што-небудзь Дастаеўскага чыталі?..

— Чытаў.

— Напрыклад?

Максім напружыў памяць і пачаў, загінаючы пальцы пералічваць:—„Отцы и дети“, „Евгений Онегин“, „Паднятая цаліна“, здаецца таксама яго... ну, яшчэ...—Парабула прахваціў халодны пот.

Прафесар усміхнуўся і безнадзейна пацізнуў плячыма. І далей, аб чым ні запытаўся ў Максіма, канкрэтнага і ўпэўненага адказу не атрымаў. Парабулу не спадабалася такая „шчырая гутарка“, ён не вытрымаў і пад канец даволі злосна агрызнуўся:

— Я адважуся сказаць, што вы не маеце права задаваць мне пытанні з другой оперы. Я не здаю тэорыю электрона і калі ласка...

— На адным электроне не выедзеце, сядайце, галубчык...

Пад дзвярыма стаялі студэнты. Праз шчыліну пазіралі на збянтэжанага Максіма і ціха паміж сабой пасмейваліся:

— Не ведаючы і лапцей не спляцеш.

— Напэўна, гэтага ў яго слоўніку не было.

Рагаталі.

— А ведаеце?—раптам азваўся адзін студэнт.—Максіму Парабулу трэба цяпер падсунуць Дастаеўскага і сказаць:

— Ды ты яму гавары, хоць трэсні—... На яго словы таварышоў не дзейнічаюць, ён кніжны пацук і верыць толькі кніжкам!

— Правільна,—пацвердзіў таямніча, амаль шэптам адзін з студэнтаў,—а што каб аб Парабулу ў газету, ці ў часопіс напісаць? Ён безумоўна прачытае, а раз прачытае, ды калі яшчэ ў кніжцы—часопісе, дык і паверыць, што ён памыляецца... Як вы думаеце?..

— Ідэя!

І студэнты разышліся.

Пасля гэтага выпадку Максіма Парабулу шмат цягалі па трыкутніках, прафкомах і многія казалі, што дыплом яму не выдадуць; але дыплом далі. Абмежаваліся заўвагай у характарыстыцы, што Максім аднабокі чалавек і яшчэ аб чымсьці пагаварвалі, але аб чым, ніхто дакладна не ведаў.

Абараніўшы, такім чынам, дыплом, Максім Парабула збіраўся жаніцца. Сінявокая дзяўчына, як ніколі, выразна стаяла цяпер перад яго вачыма. Ён яшчэ ніколі не гутарыў з ёй, бо не мог вырваць вольнага часу, ды і па плану не вызначалася, галоўнае тады было дыплом. І, нарэшце, настала даўно чаканая хвіліна. Максім думае: першым чынам ён даведаецца з якога яна інстытута, потым... Максім асцярожна мацае ў бакавой кішэні замусоленую запіску, ён прыпамінае момант, калі падняў гэтую запіску, потым ён скажа сінявокай, што яна і бадзёрая, і разумная, і здольная, і, нават, чароўная... ды па почырку Максім-жа вывеў, што і не распусная, не маладушная, праўда, часам падпадае пад чужы ўплыў, але гэта не так важна—у маладым узросце гэта ўласціва ўсім дзяўчатам...

У чытальні, як і заўсёды, Максім спыніўся пры ўваходзе і дапытліва акінуў вокам занятых вучобай студэнтаў і студэнтак. За апошнім сталом, каля радыятара, сядзела даўно знаёмая яму дзяўчына. Сэрца моцна застукала, кроў прыліла да твара.

— На паперы і па кніжцы яе лепш разглядаць, чым у простастаўнай роўніцы перад сабой,—падумаў ён, набліжаючыся да дзяўчыны,—а вочы... ну і вочы, як спектар Гелія блішчаць!.. Яшчэ ступіў нясмела крок і...

— Гэты стул нікім не заняты?

— Нікім,—ласкава адказвае Максіму дзяўчына, у якой блішчэлі вочы, як спектар.

Дзяўчына заўважыла Максімава хваляванне, але не падумала нічога кепскага: „мала што бывае з чалавекам“... Аднак яна ўжо не раз прыкмячала яго дапытлівы позірк на сабе. Максім не знаходзіў слоў. Ён выцягнуў запісную кніжачку, пачаў дрыжачымі пальцамі лістаць яе, потым узяў вечную ручку і пачаў нешта запісваць (праўдзівей ставіць без усякага парадку рысачкі і кружочкі). Затым непрыкметна зірнуў на дзяўчыну і прыкусіў губу; ён раптам затрос вечнай ручкай (к таму-ж злёгку, каб не вылівалася чарніла) і зрабіў незадаволены выраз твару. Нарэшце, калі прыкмеціў, што дзяўчына звярнула на гэта ўвагу—ён як-бы сам сабе ў поўголаса прашаптаў:

— Вось яшчэ навіна, чарніла скончылася...—памаўчаў крыху і потым далікатна звярнуўся да суседкі:—у вас лішні аловак не знойдзецца?

Дзяўчына пашукала ў кішэнях, потым у партфелі і паціснула плячыма.

— Нажаль... як бачыце...—неахвотна гаварыла яна.

— Хіба гэта студэнт, што без алоўка ходзіць,—радасна шаптаў Максім.—У кожнага студэнта пры сабе павінна быць: запісная кніжка, канспект і аловак.

— Не абавязкова,—суха і ціха заўважыла яна і пачала штосьці выпісваць з кніжкі. Максім ветла ўсміхнуўся.

— Найпрыгажэйшае ствар...—хацеў было пачаць ён, але запнуўся на поўслове і нечакана для сябе запытаўся:

— Я хачу адважыцца запытаць: як вас завуць?

Дзяўчына заёрзала на стуле, ёй вельмі не хацелася размаўляць з гэтым дзіваком, але для далікатнасці яна ўпэўніла Максіма, што гэта не абавязкова яму ведаць... Потым прыкусіла губу і з іроніяй запыталася яго імя. Максім ёй сказаў.

— Ну, а мяне можаце называць Галяй. Толькі прашу вас не перашкаджаць мне, бо я заўтра здаю палітэканомію.

— Дзякую, дзякую... Я толькі хачу сказаць, што я без канспекта...

— А, значыць вы і не студэнт,—яшчэ раз укалола яго Галя, не адрываючыся ад кніжкі.

— Так, так—я ўжо не студэнт, вы правільна кажаце, дарагая Галя,—амаль не ўрачыста сказаў ён.

— Чаму такая фамільярнасць, таварыш, калі не памыляюся, Максім?—злуецца Галя.

Максім Парабула, як верабей успырхнуў з свайго стула і падляцеў да Галі, ён заспяшыў:

— Ну, вы мне прабачце, што я, не растлумачыўшы нічога, адразу пачаў называць вас „дарагой“. Але вы паслухайце—я вас ведаю больш, як усіх на свеце, я дакладна вывучыў вас, ну, разумееце, да атама, да электрона, да кожнага нейрона ведаю ваш характар.

—Не разумею, вы жартуеце малады чалавек, вы...

— Прабачце, паслухайце, мая недаверлівая Галя, я раскажу ўсё па парадку...—і Максім Парабула пачаў успамінаць падзеі, якія адбываліся яшчэ год таму назад. Усё падрабязна растлумачваў ён ёй і, нарэшце, не ўтрымаўся і выняў з кішэні замусоленую запіску і перадаў:

— Бачыце, я ўсе вашы думкі ведаю, а вы гаварылі... і...— Максім на момант, пакуль чытала Галя запіску, прытаіў дыханне,—ну, што?.. Ваша?..

— Мая, але...

— Ды пакіньце вы там гаварыць!—адгукнуўся нехта з чытальні.

— На сквер ідзіце і там амурнічайце...

Але Максім да заўваг не прыслухоўваўся, ён адразу загарачыўся, вочы запылалі—усё роўна, як адбівалася ў іх полымя пажару, рукі асцярожна пацягнуліся да Галінай кніжкі:

— Я гэту запіску па кожнай рысачцы і завітушцы ведаю. Я разам з Інсаравым выводзіў твой характар, хоць і не ведаў цябе асабіста, так блізка, як зараз. Праўда, я даўно за табой назіраю...

У гэты час да стала падышла Гольдзіна Міня, яна прывіталася з Максімам і прагаварыла:

— Пазнаёмся-ж з маёй замужняй сястрой, бо будзеш размаўляць і не ведаць з кім.

Максім вытарашчыў свае чорныя, як гу[illegible].кі, вочы. А Галя звонка на ўсю чытальню зарагатала:

— Мінечка, сястрыца, ды ён-жа знайшоў тваю запіску (я напэўна згубіла яе) і ведаеш, да костачак цябе разабраў: і твае прывычкі, і характар, і дабрадушнасць, і ведаеш—правільна!—яна зноў залілася звонкім рогатам.

— Выгнаць іх з бібліятэкі.

— Паклічце сюды загадчыка.

— Ды гэта-ж несцярпіма!—пасыпалася абурэнне чытачоў.

Вінаватыя азірнуліся і змоўклі.

А Міня не рада была, што падышла: „Няўжо праўда, што Максім чытаў і, тым больш, разбіраў яе запіску, якую яна напісала сваёй замужняй сястры, свайму найбліжайшаму сябру, каму яна ўсё расказвала, да дробязей, да электрона (як той Максім гаворыць)?“ І не ведае Міня, што рабіць—стаіць, галаву схіліла на грудзі і ёй зусім не смешна і прыкрым здаецца голас любімай старэйшай сястры і хочацца моцна стукнуць Галю па шчацэ за тое, што гаворыць яна з Максімам... Але гэта толькі момант—яна моўчкі садзіцца на стул, старанна скручвае пруткімі рукамі газету і чакае, што будзе далей.

Галя гаворыць амаль пад самым вухам у Парабулы, яна даводзіць Максіму, што ён фактычна любіў Міню, бо яе почырк аналізаваў... і, нават у жартаўлівым тоне спрабуе хваліць сваю сястру, як чалавека—робіць намёк на загс...

— Не жартуйце, таварыш Галя, з гэтымі пачуццямі—Максім Парабула можа помсціць за...—таксама шэптам гаворыць ён.

— Як, як?—з вялікай цікавасцю перапытвае яго Галя.

— Я кажу, што кпіць з сябе не дазволю!

— Ды я не аб гэтым—я да вас з самымі спачувальнымі думкамі.

— Ну, а пры чым тут: „як“—хвалюецца Максім.

— Я не разабрала як ваша прозвішча?

— Парабула.

— Ах, вось як? А я хацела прасіць Міню, каб яна пазнаёміла мяне з Парабулам.

— Дык вы-ж замужняя,—не разумее Максім. Міня чырванее і яшчэ больш камечыць газету.

— Не... я таксама па плану працую і выдатніцай з‘яўляюся... А вы выдатнікам былі?

— Ну, быў,—пачынае чырванець Максім, на ілбу выступае пот.

— Вы не хвалюйцеся,—суцяшае яго Галя,—уключылі-б у свой план чытанне мастацкай літаратуры і ўсё было-б у парадку.

— Ды чорт ведае што вы гаворыце!—бурчыць ён сабе пад нос і апускае позірк. А Галя не перастае:

— Міня, пакажы газетку (памаўчаўшы і развярнуўшы газету зварачваецца да Парабулы).—Вы сёнешнюю „Звязду“ не чыталі? А тут пра вас цікавы матэрыял.—„Выжыць парабулаўшчыну з навучальных устаноў“.

Максім Парабула ўглядаецца ў чорныя літары і ад злосці ледзь не пішчыць:

— На ўсю рэспубліку зняславілі!—Парабула не ведае мастацкай літаратуры... які сорам, ты разумееш Міня?..

Міня нічога не адказала. У Парабулы не былі прадугледжаны апошнія падзеі планам; ён раптам устаў, ветла, хоць і з болем у сэрцы, пакланіўся абодвум сёстрам—адной замужняй, а другой улюбёнай у яго і, закурыўшы звышпланавую папіроску, вышаў. У яго гарэла ўсё нутро. Усё, што ні было навокал, здавалася пустым і непатрэбным. Кружыла галаву.

— Уся рэспубліка, уся рэспубліка ведае пра непісьменнасць Парабулы! Які сорам...—шэптам паўтарыў ён.

1936. г. Менск.

*Мікола Жук*

## ПАМЯЦІ ВАЛЕНЦІНА КАЦЕЛЬНІКАВА

Захаваўшы ў сэрцы смутак
Будзе помніць ўся краіна,
Мужнай славаю абвіты
Светлы вобраз Валенціна.

Не адна прамчыцца ночка
Над Амурам, над тайгою.
Толькі вораг не пракрочыць
Сцежкай дзікаю, лясною.

Не парушыць толькі вораг
Нашых межаў і спакою,
Валенцінаў брат ў дазоры
Ловіць шолах за ракою.

Ў нас ніякай ў свеце сіле
Не адняць, што з бою ўзялі,
Мы крывёю арасілі
роднае краіны далі.

У густым і горкім дыме,
Калі рваліся снарады—
Йшлі мы, сіламі сваімі
Здабывалі шчасце, радасць.

Шмат байцоў лягло ў прасторах
(Іх зямля сырая туліць)
За пабедны гул матораў,
За шчаслівы смех матулі.

Вось чаму з нас кожны хоча
Стаць з вінтоўкай на граніцы,
Калі бура заракоча,
Каб ад згубы бараніцца.

Вось чаму нясе краіна
У гарачым сваім сэрцы
Светлы вобраз Валенціна
Стойкага чырвонаармейца.

Менск, 1936.

*Павел Левановіч*

# НА СОЖЫ

Два разы пракрычала дзікая качка і кароткімі крыллямі празызыкала ў паветры. Аір зашастаў ад подыху ветру, зашуршалі лістамі лозы і захісталіся, як непрытомныя.

На небе хмара засланіла сонца, але пад агнявымі палосамі валавяны яе ўскрай пабялеў і закучаравіўся ў пярыстыя, крышталёва-белыя барашкі. За ёй яшчэ плылі хмары. На небасхіле ўставалі сівыя і важкія кудзелі воблакаў.

— Глядзі, што на дождж збярэцца...

— Чаго добрага, да месца не прыстанем...

— Даплывем. Не гэта бачылі,—сказаў Ільянкоў Максім і, упёршыся аралам, накіраваў плыты на фарватар.

Ён паглядзеў на сваіх людзей: каранасты і нізкарослы Антон кіраваў плытам. Каля яго, у чорнай ватанцы, падпяразаны матузом, стаяў Кірыла. Ён упіраўся рукамі і грудзьмі ў шост, плыты паварачваліся і павольна пасоўваліся ўперад. Максім разгладзіў калючыя вусы і скупа ўсміхнуўся. Яму хацелася пакратаць тугія мускулы, што шавяліліся ў картовым рукаве і паспрабаваць іх сілу, але часу не было. Стромкае бярвенне каравана пакорліва плыло па юркай плыні Сожа. Хвалі шумліва і сярдзіта набягалі адна на адну, ускаквалі на плыты і завівалі там кудзеркі мыльнай пены. Караван складаўся з некалькіх грабёнак: наперадзе плыў сасновы лес, тонкія стойкі для шахт, а адзаду каржакаватыя, аброслыя сіняй зацвіллю, стагоднія елкі. Шырокая плынь вольна разышлася ў берагах і гонка везла лес на Украіну.

А хмары зацягнулі неба, завалаклі бурай вадзяністай заслонай, і дзесьці на Сожы, на яго берагах, навіслі на грыўцы лесу.

Максім паглядзеў угару. Неба трэснула і зігзагамі мільганула маланка.

— Э-ге, брат, тут не на жарты, —сказаў брыгадзір Ягор і пайшоў уздоўж плытоў. Ён рослы, загарэлы тварам, з густой курчавістай барадой, адзеты ў ватнюю картоўку, у чорных штанах, зашмальцованых смалою, ад якіх напэўна пайшла-б рыкашэтам куля, а мокрыя брызентавыя бахілы крэпка абліпалі ікры ног.

— Ягор, рыхтуй снасць. Гэй, вы, мальцы, давайце аралам,— даваў каманду Дубавік Максім.

— Дай у затоку прыстанем, чуеш, а?

— Давай аралам, дзядзька Максім, на той бок,—па-гаспадарску аварыў брыгадзір.

А хмара апусцілася над зямлёю. Здавалася, што наперадзе яна злілася з рэчкай у чорна-свінцовую завесу. Аднекуль з левага берагу нырнуў у рэчку раз'юшаны вецер, успеніў ваду, забаламуціў, закруціў і заганяў хвалі, нібы мыў свае кудры, ад чаго вада зрабілася як шчолак мутнай і бялявай. Кусты лазняку парыўчата захісталіся, прыгінаючыся веццем да пясчанай зямлі і глуха зашумелі лістамі. Маланкі з усіх канцоў неба ўспыхвалі магніевай лентай.

Ягор з Максімам заводзілі пярэднія грабёнкі ў затоку, але вецер як-бы сумысля не даваў і стрымліваў плыты. Ягор вылаяўся на некага і, націснушы на шост грузам свайго цела, кіраваў да берагу.

— Пра-ва... оп... яшчэ-э...

Да яго прыбег Максім, шырокі ў плячах і дужы не па гадах.

— Ра-зам, оп...

Перамагаючы напор хваль, людзі заводзілі караван у завадку. І калі падплылі ўжо да берагу, Кірыла саскочыў з доўгім тросам на зямлю. Вецер успеніў хвалі насустрач плыні. Хвалі белымі грэбнямі набягалі на плыты і з шумам адкочваліся назад. Трос раскруцілі, занеслі далёка на бераг і Ягор сам пайшоў яго ўмацоўваць.

— Ня-сі сюды, тут корч,—натрапіў ён адразу на стары пень зламанага дуба і стаў дужацца з ім.

— Будзе моцны.

— Добры будзе, не падасца,—упэўніў Кірыла. На плытах пяць чалавек трымалі шастамі грабёнкі. Яны налягалі на яловыя шасты, утыркнуўшы ў ваду аж да самага дна, шасты выгіналіся ад стояк, рыпелі, а плыты варочаліся і гойдаліся, нібы дрыгва. Вось, глядзі зломіцца шост і тады чалавек упадзе старчма ў ваду, а вецер пагоніць караван, узаб'е яго на мель ці перакат. Рэдкі дождж закрапаў па вадзе.

— Эй, вы, мальцы, хутчэй там.

Максім занепакоіўся: яго абдавала вадой, стукалася грабёнка аб грабёнку і кручаная лаза мякка цёрлася аб жорасці, дзябёлыя рукі моцна трымалі шост.

— Га-това... прывалілі,—няслося з берагу.

— Мацуй добра, каб не адарвала.

— Не адарве, моцна будзе,—гаварыў Ягор. І з сілай абкручваў вітым тросам дубовы пень. Потым адышоў, узяў трос, упёрся нагамі ў корч і моцна пацягнуў. Трос звінеў як струна, працягнуўшыся да плытоў. Тады Ягор устаў і пайшоў на пярэднюю грабёнку, што была прывязана да астатніх тоўстым пяньковым канатам. Буйны дождж звонка пляскаў па вадзе, па лістах лазы, сек нібы шротам Ягора, ад чаго ён уцягнуў галаву ў сажонныя плечы, надзеў ямчэй шапку, каб не цякло за шыю і пабег па плыту. Дзве шэрыя саламяныя будкі самотна стаялі пад дажджом. Ягор пайшоў у бліжэйшую будку.

Кірыла сядзіць разам з Ягорам, скручвае азызлымі пальцамі цыгарку. Кавалак газеты, якую яму далі на прыстані, не слухаўся тоўстых пальцаў. Кірыла сярдуе на цыгарку і думае: „дома зараз абедаюць, а Валодзька коні можа пасе. Ты-ж не забудзь, татка,

кніжку купіць, казаў ён.“ Па саломе коціцца кропля вады. Кірыла падставіў далонь і расцёр на пальцах мутна-бліскучую кроплю.

— Холадна... Хоць бы агонь раскласці.

Ён вышаў з будкі і пайшоў па плыту шукаць дроў. Кірыла нядаўна працуе, усяго тры гады, але ўжо прызвычаіўся да вады і палюбіў яе. Ён паглядзеў на чорную паласу Сожа, згорбіўся і пайшоў да будкі. Свет быў нібы ў тумане, заштрыхованы касым дажджом. Вада змяшалася з небам, хаваючы белую прагаліну за сабою. Ён прысеў на карачкі перад Ягорам.

— А можа стойку пасячом, а?

Ягор падняў галаву, халодна паглядзеў на Кірылу.

— А ты думаеш, пазнаюць? На адну менш стане, дык хоць косці адагрэем.

— Што... Як ты сказаў?—Ягор нібы не пачуў і перапытаў яшчэ.

— Каб пашчапаць адну сасонку,—і палез за сякерай, што ляжала пад саломай блізка Ягора.

— Не чапай, кажу, вярзіла чортава.

— Гэта не наша, чаго ты крычыш...

— Я цябе пашчапаю. Гэта ўсё наш лес...

Кірыла падаўся з будкі. Дождж сціхаў.

— Дурань, гарачае вады пап‘ем.

— Вон кажу. Шчапаць нельга.

Раззлаваны на Кірылу, Ягор вылез з будкі, разагнуў спіну і паглядзеў на неба. Кропля вады сарвалася з саломіны, заскочыла за каўнер целагрэйкі і пужліва пакацілася па целе. Разам з гэтым пачуўся працяжны крык з сярэдняй грабёнкі.

— Я-гор, грабёнку адарвала, Я-гор.

Апошнюю грабёнку каравана адарваў вецер і буйныя хвалі пагналі яе на сярэдзіну ракі. Максім сядзеў на першай грабёнцы ад берагу і першым убачыў, калі яна ўжо калыхалася і адплывала.

— Дуб рыхтуй, чуеш, а?—гаварыў ён.

Ягор кінуўся на край грабёнкі. Выцягнуў рукі, напружыў цела. Паплысці хацеў, але нешта стрымала яго. А сэрца забілася. Стала шкада ўпускаць лес.

— Ты-ж, малец, шост вазьмі,—сказаў Ягор і вопрамеццю пабег па плыту. Потым павярнуўся, скаціў яловую калоду на ваду, стаў на яе і паплыў. Хваля закачала калоду, яна завярцелася пад нагамі. Ягор захістаўся, пахінуўся назад і падпіхнуў калоду шастом. Сцюдзёныя пыркі сыпаліся на ногі. А гарачае сэрца забілася мацней, а тугія мускулы набухлі сілай і Ягор хутка пасоўваўся да грабёнкі.

— Трымайся, Ягор,—крычаў Максім. Людзі з брыгады заварушыліся, нарыхтавалі канаты, каб потым прывязаць грабёнку, а Кірыла, з малайцаватым спрытам адвязаў дуб і паплыў услед. У Кірылы раптам з‘явілася думка, а што калі ўцячэ грабёнка, а Ягор патрапіць у бяздонне хваль, мне будзе сорам за яго... Я не дагнаў яго, я не маю сілы... Эх,—ледзь не крыкнуў ён ад злосці на стыхію, і з нейкай новай сілай налёг на вёслы...

Вада забурліла за кармою. Доўгі нос лодкі падымаўся на грэбні хваль, разразаючы іх...

— Хутчэй, Кірыла,—папярэджваў Максім.

Кірыла зараз пакажа свой спрыт... Ён можа дзесяць кіламетраў плысці па такіх хвалях, а лес дагоніць,—і з гэтай думкай прышлі новыя сілы і Кірыла спрытна памчаўся ўперад. А грабёнка качаецца і адплывае далей ад людзей... Тры ўзмахі вёсел раздзяляюць Кірылу ад Ягора. Вось зараз Ягор параўняецца з грабёнкай. У Ягора нават сэрца закалацілася ад злосці на грабёнку:

— Даганю—не ўцячэш.

Грабёнка хістаецца і адплывае далей ад плыта.

— Даганю, не ўцячэш.

„Мазалём гарачым збіраў і крапіў лес, а тут на табе, вецер, чортаў шалахвосцік, пагнаў нямаведама куды“. Дробны і часты дождж сыпаў па вадзе. У Ягора па твары каціліся кроплі, а кароткая картоўка набухла дажджом і казытала вадой па целе. Ягор з маленства, як рыбіна, палюбіў ваду. Вось ён даганяе грабёнку, параўняўся, але хвалі штурхнулі яе, калода нырнула, перакруцілася. Ягор выпусціў шост і каўзануўся пад калоду. Вада хлынула ў рот і нос. Палілася за шыварат. Ён узмахнуў рукамі і пыркі паляцелі над галавою. Картоўка надулася ад вады, і здавалася на нагах павесіў хтосьці пудовік. Тады Ягор мацней забіў рукамі, нібы пліцы парахода, і, як у моладасці, кінуўся на выперадкі хваль. Вось ён схапіў крайнюю калоду і пераваліўся цераз яе. Калода нырнула, загушкалася грабёнка і Ягор рухава ўзлез на яе. Рыжыя цурочкі каціліся з картоўкі.

— Лоўка, Ягор, малайчына хлопец,—казалі з плыта. Ягор паглядзеў на людзей, страсянуў плячыма і пыркі паляцелі дробнымі іголкамі. Грабёнка патанула глыбей, захадзіла і затрэслася пад нагамі. Вясёлымі вачыма паглядзеў ён на плыты.

Да яго падплывала лодка. Кірыла з усяе сілы налягаў на вёслы. Нос дуба падняўся ўгару, а за кармой расступалася вада шырокай баразной. Сож шумеў і пеніўся.

— Ну і дурань-жа ты, Кірыла, ці я адзін не даплыву,—гаварыў радасны Ягор і кіраваў да плыта. Максім глядзеў і смяяўся. Ён даўно працуе дубовікам, але такога хлопца сустракае ўпершыню.

— Так, Ягор. Хвацкі малец ты.

— Добра кажа-ж, дзядзька Максім.

— Слаўна, вельмі слаўна...

— А то як-жа інакш. Мой дзед, калі быў яшчэ малады, то ў часе разводдзя на адным бервяне пераплыў шырыню Сожа. З гаспадаром канторы заклаўся аб чырвонцы. Кажа, не пераплывеш, а дзед,—не твая справа. Грошы рыхтуй. Пераплыву... А калі затону, на жонку перавядзі. Ну і пераплыў, і грошы дзесяць рублёў узяў,—хваліўся Ягор.

Кірыла плыў услед за грабёнкай і кляў сябе:

— Ці я маленькі, не дапамог яму... А яшчэ стойку пасеч хацеў. Ён кідаецца ў ваду з галавою, клапоціцца за ўсю брыгаду, а я... Я баяўся плысці на адным бервяне... Так, баяўся...—Яму зрабілася прыкра за самога сябе... Ён падняў далонь, каб абцерці кроплі вады з твару і міжвольна адчуў на пальцах буйныя слёзы.

Некалькі кропель упала і пакацілася між пальцаў.—Няўжо гэта слёзы....—Так, ён неяк выраніў іх ад сораму перад брыгадай... Кірыла хутка выцер іх і паглядзеў на людзей... На яго ніхто не глядзеў... Тады ён прывязаў за апошняю грабёнку дуб і пайшоў на плыты да Ягора. Ён цяпер ніколі не будзе пярэчыць такому чалавеку.

Тым часам дождж супыніўся. Зрабілася надзвычай ціха. Уніз па Сожы, цынкам пакрытае неба, апускалася на ваду. Было блізка апоўдні, калі караван крануўся ў дарогу. Абмытыя берагі блішчэлі і весела зелянела маладая, порсткая атава.

*А. Кучар*

# „ТРЭЦЯЕ ПАКАЛЕННЕ“ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

Стары вінаградар Грандэ, тыран і маньяк, за колькі гадзін да смерці загадаў палажыць перад ім яго велізарныя запасы золата, каб натхнёныя гукі манет былі тым развітальным гімнам, што праводзяць яго з жыцця. Дачкі свае Эжэні ён просіць і заклінае берагчы яго золата, бо на тым свеце ён перш-на-перш будзе патрабаваць у яе адказу за кожную манету.

Калі пастар прышоў у апошні раз прычасціць Грандэ, зрок паміраючага загарэўся, убачыўшы чашу з каштоўнага металу і ўжо зусім не вытрымаў, заўважыўшы на грудзях у пастара даволі цяжкі залаты крыж. Ён інстынктыўна пацягнуўся рукамі да крыжа і гэта патуга каштавала небараку жыцця.

Ён паміраў і ў апошнюю хвіліну, напэўне, прыкідваў у рэштках сваёй свядомасці вагу залатога крыжа. Гэта жахлівая па сіле гісторыя расказана Онорэ Бальзакам у рамане „Эжэні Грандэ“. Стары бацька Горыё з рамана таго-ж Бальзака крычыць перад смерцю:

„За грошы я ўсё куплю. Нават дачок“. Такая сіла золата, грошай пры ладзе капіталізма—ладзе ўласнасці і прадажнасці.

Гэта геніяльна выказаў праз мастацкія вобразы Бальзак, гэта геніяльна выказаў Маркс:

> „Наконец, пришло время, когда все, на что люди прывыкли смотреть как на неотчуждаемое, делается предметом обмена и торга, становится отчуждаемым. В это время даже те вещи, которые до того были передаваемы другим, но не обмениваемы, были даруемы, но не продаваемы, были приобретаемы, но не покупаемы—добродетель, любовь, убеждение, знание, совесть,—все стало, наконец, продажным. Это—время общей порчи, время всеобщей продажности или—выражаясь языком политической экономии—время, когда всякая вещь физическая или моральная, сделавшись продажной стоимостью, выносится на рынок, чтобы найти там оценку, соответствующую ее истинной стоимости“ (К. Маркс, „Нищета философии“).

Тэма грошай з'яўляецца, бадай, самай вялікай тэмай ва ўсёй буржуазнай літаратуры XIX ст. Прадажнасць усіх пачуццяў пры ладзе капіталізма знайшла сваё выдатнае выражэнне ў дзесятках геніяльных кніг. Многія раманы Бальзака распрацоўваюць менавіта гэтую тэму. У пагоні за грашыма, за багаццем, у праяўленні інстынкту ўласнасці, прагнасці выраслі дзесяткі не толькі адмоўных, а і дадатных герояў буржуазнай літаратуры. Нездарма Бамаршэ сказаў: „золата—ніць інтрыгі“. Гэтак свет уласнасці—з'яўляецца светам грошай, светам прадажнасці.

Але рэшткі ўласніцкіх пачуццяў у іх страшнай і пагубнай форме праяўлення жывуць і ў свядомасці некаторых людзей новага свету, як рэшткі капіталізма. Але маньякаў уласнасці, маньякаў золата як страшны кашмар старога свету мы яшчэ сустракаем і ў нашай краіне. Вось такія людзі сталі вобразамі рамана Кузьмы Чорнага „Трэцяе пакаленне". Дадатковаю тэмаю гэтага рамана трэба лічыць паказ узаемаадносін пакаленняў моладзі, што вырасла за гады рэволюцыі. Кузьма Чорны рысуе нам жах старых традыцый, якія вісяць над свядомасцю тае моладзі, якая яшчэ бачыла стары свет, свет уласнасці і грошай і нейкую благародную, незвычайную празрыстасць ідэалаў трэцяга пакалення, якое будзе жыць пры комунізме—пакаленне Ірыны-Славы.

Такім чынам Кузьма Чорны ўзяўся за распрацоўку хвалюючых і важных пытанняў нашай сучаснасці.

Кузьма Чорны належыць да ліку тых, якія паслядоўна і ўпарта вучацца ў вялікіх французскіх майстроў—Бальзака, Стэндаля. Ён адзін з першых у нашай літаратуры зламаў традыцыі сантыментальна-плаксівай народніцкай прозы. Ён выступіў змагаром за суровы, просты сказ. Яго творчыя поспехі былі проста накіраваны супроць мяшчанскага апявання ў лёгкіх какетлівых тонах „асалод цела" і трагічна-непазбежнага „любоўнага трыкутніка".

Кузьма Чорны не належыць да ліку тых пісьменнікаў, якія трацяць свой талент на апісанне дробных любоўных гісторый, якія гуляюць у лёгкі флірт з нашай рэчаіснасцю. Ён не разлічвае на поспех свайго твора ў асяроддзі сантыментальных машыністак.

Ён ведае, што эпоха соцыялізма ёсць адзіная за ўсю чалавечую гісторыю эпоха, якая створыць новы свет, свет разумны, што ў гэту эпоху нараджаюцца ў вялікіх муках новыя пакаленні людзей, што чалавечая годнасць, якая была прыніжана і аплёвана пры капіталізме, цяпер і толькі цяпер, пры соцыялізме, набывае сваю сапраўдную каштоўнасць.

Але мала таго, што Кузьма Чорны не разлічвае свайго твору на густы машыністак, ён папраўдзе часамі бывае крыху рэакцыянерам у дачыненні да радасных фарбаў жыцця, ён вельмі ўжо трымаецца за сваё звычнае для яго кола вобразаў людзей, ахопленых сілай уласнасці, або ціхіх маўклівых пакутніц з ліку жаночага тыпажу.

Другой таксама вырашальнай асаблівасцю Кузьмы Чорнага з'яўляецца асаблівасць, якую нельга характарызаваць дадатна. Гэта ад самага пачатку даваць усе галоўныя рысы героя, не ведучы складаных ніцей, якія-б раскрывалі героя ў канцы твора. І, нарэшце, апошняя якасць, якая вынікае з вышэйсказанай абмяжованасці кола вобразаў аўтара, гэта нязменная адсутнасць у яго творах такога, напрыклад, тыпажу, як вобразы вясёлай моладзі, людзей горада ва ўсіх іх соцыяльных групоўках. К. Чорны трымаецца пераважна вясковага тыпажу. Гэта мы толькі канстатуем, бо тут абвінавачваць пісьменніка было-б па меншай меры смешна. Ён піша і абавязан пісаць пра тое, што ён добра ведае, добра

вывучыў, ды, па-другое, зусім ясна, што на любым тыпажы можна ажыццяўляць незвычайны творчы замысел.

Калі спрабуеш уявіць сабе, як паказана трэцяе пакаленне ў рамане Кузьмы Чорнага, дык заўсёды ўзнікае лёгкае адчуванне міража. Сапраўды, Кузьма Чорны ў паказе Ірынкі Назарэўскай і Славы Тварыцкай да таго асцерагаўся бытаўшчыны, што контуры двух ідэальных людзей новага свету паўстаюць як у сне. Кузьмом Чорным яны паказаны з незвычайнай тонкасцю і чуласцю. Вось паўстае ў нас перад вачыма Ірынка Назарэўская, якая нямала папакутвала ў дні грамадзянскай вайны,—падае малако з яе рук, калі яна даведваецца ў больніцы, што бацька памёр; вось яна гаспадарыць у доме, як дарослая, чула развітваецца з братам на вакзале, калі той едзе ў Чырвоную армію, адзінокая, маўклівая, змучаная, сядзіць у халоднай будыніне вакзала і чакае паратунку ад голаду і адзіноты. От яшчэ зусім маленькае дзіця, Слава, упершыню праз фарфурак бачыць страшным свет. Гэты страшны свет у яе асацыіруецца з вайною, з сіроцтвам, пра якое так шмат ёй гаварыў бацька яе Тварыцкі. Потым гэтае страшнае асацыіруецца з чорным чалавекам, які зладзейскімі крокамі ідзе па лесе і метадычна пад чорнымі вусамі адкусвае канец дубца, што трымае ў руках. Нарэшце, абодвух (Ірыну—ужо дарослай і Славу—дзіцё) мы бачым перад грудай золата, якое прынёс Славе Тварыцкі, у позе роўнадушнага здзіўлення. Вось яны, контуры новых людзей, новага соцыялістычнага свету, якія на ўласнасць глядзяць, як на далёкае і чужое ім.

У гэтым часткова крыецца сэнс таго замыслу, які выражан у рамане „Трэцяе пакаленне“, але толькі часткова. У аснове сваёй гэта твор пра пакаленне ўласнікаў (Тварыцкі, Кравец) і пакаленне большэвікоў (Несцяровіч, Назарэўскі).

Трэба раз і назаўсёды адмовіцца ад той думкі, што гэта сялянскі раман, хоць дзейнічаюць у ім сялянскія вобразы і мова яго сялянская. Гэта па сутнасці раман пра поўінтэлігентаў, інтэлігентаў і іх дачыненне да вялікай праблемы сучаснасці—уласніцтва.

Праз увесь раман мы адчуваем імкненне аўтара да сцiслай, скупой хронікі. Так што, вельмі часта ён трымае сваё апавяданне выключна ў сферы соцыяльнай, абмінаючы складаныя бытавыя абставіны і іншыя маральныя ўзаемадачыненні паміж героямі.

Дзве якасці заўсёды вылучалі Кузьму Чорнага ў асяроддзі беларускіх пісьменнікаў—гэта непадобная ні да аднаго з пісьменнікаў мова і, па-другое,—імкненне даць цэльны чалавечы вобраз, пераважна новы ў кожным новым творы. Што да мовы Чорнага, дык, як мне здаецца, у творы „Трэцяе пакаленне“ яна стала яшчэ больш сцiслай, кандэнсаванай і, хоць яна ўзята з сялянскага асяроддзя, з гонарам вытрымлівае экзамен у паказе рознастайных соцыяльных пластоў. Чорны мае тонкі густ пры адборы слова і стварае багатую колькасць стылістычных ходаў, сваіх, адменных, не падобных ні да аднаго з нашых пісьменнікаў. Такім чынам мы можам беспамылкова пазнаць—гэта мова Чорнага. Пра функцыя-

нальную ролю мовы К. Чорнага ў творы мы скажам крыху пазней, а цяпер паспрабуем ахарактарызаваць вобразы рамана „Трэцяе пакаленне“.

У творы „Трэцяе пакаленне“ мы знаходзім два значнай мастацкай сілы вобразы, гэта Міхал Тварыцкі і Кравец.

У чым-жа іх мастацкая сіла?—запытаецца чытач.

Асноўныя метады, якія ўжывае совецкі пісьменнік пры стварэнні вобраза чалавека, ідуць у наступным кірунку.

Частка пісьменнікаў перадае воблік чалавека праз вонкавую дэталь—бытавую, соцыяльную,—якая павінна выражаць складаны нутраны свет чалавека, другая частка пісьменнікаў выходзіць з раскрыцця нутранога свету чалавека,—гэта значыць, стварае псіхалагічную карціну, псіхалагічны малюнак.

Лепшыя творы сучаснай рускай літаратуры пабудаваны на такім прынцыпе: праз яркую вонкавую дэталь, учынак, карціну, зазвычай кантрастнага характару, да выяўлення псіхалогіі дзейнай асобы. Яркасць, незвычайнасць, нечаканасць карціны, учынкаў людзей, дэталі з'яўляюцца момантамі вырашальнымі ў такіх, напрыклад, значных творах рускай літаратуры, як „Петр І“, „Не пераводзячы дыхання“. Не цяжка ўспомніць такія нечакана яркія карціны і дэталі ў кнізе „Петр І“ Аляксея Талстога: як Петр ідзе навучаць баяраў праколваць іголку праз шчаку; як ён есць курыцу з жонкай у першую шлюбную ноч; або вялікія карціны, як ён бліскуча падрыхтаваў армію да наступу на шведаў, а расійская гразь усе яго намаганні загубіла; як ён пад небяспекай смерці набівае гармату двайным набоем пораху: запамінаецца яго асаблівае дэгенератыўнае торганне шыяй і інш. Або як кароль швэдскі без аднаго бота бяжыць па полі бітвы і т. д. У рамане „Не пераводзячы дыхання“ Эрэнбурга знаходзім такія кантрасныя карціны: біёлаг, які размаўляе з сабакамі, Вера, якая, замест таго, каб узненавідзець Геньку, яго пакахала, актрыса ў калгасе і т. д.

Кузьма Чорны ідзе пераважна ад стварэння псіхалагічнага малюнку, хоць не цураецца і яркай вонкавай дэталі. Вось перад намі вобраз Міхала Тварыцкага. У творы паказан весь шлях, аж з дзяцінства, фармавання ўласніцкай натуры гэтага арыгінальнага чалавека. Ён парабчук, які служыць у кулака Скуратовіча, з дзяцінства бачыў толькі здзек чалавека з чалавека і ўжо на хутары засвоіў звярыны прынцып уласніка—бяры, рві з другога што толькі можаш, бо чалавек чалавеку не дапаможа, чалавек чалавеку воўк. Праводзячы праз увесь раман даволі прасталінейна прынцып, якім жыве Міхал Тварыцкі, што „чалавек чалавеку звер“, Кузьма Чорны, аднак, з нейкім нутраным болем і любоўю ставіцца, у пачатку твора, да пакалечанага светам уласнасці Міхала Тварыцкага. Ды і сам чытач у пачатку твора ставіцца да Міхала Тварыцкага з яўнымі сімпатыямі.

Вобраз Міхала Тварыцкага не новы для К. Чорнага. Ён, гэты вобраз, увасабляе, з аднаго боку, рысы Паўла Няміры з п'есы „Бацькаўшчына“, а з другога боку, рысы нягодніка Фартушніка з рамана „Трыццаць год“. На хутары ў кулака Скуратовіча Міхал

пачынае хітрыць не горш за самога Фартушніка і гэта ўжо ёсць пачатак фармавання яго натуры.

„Грымаса хітрай радасці прайшла па Міхалкавым твары. Зося заўважыла гэта і штосьці хацела сказаць, але ён сам загаварыў:

— Ну, калі гэта так, то я-ж яго, гада (Скуратовіча—*А. К.*) папатрымаю ў сваіх руках. Заўсёды мы з табой яго баяліся, а гэта няхай ён нас баіцца. Захачу—дык скажу і пра гэта. Тады ён мяне пазнае. Бач, які далікатны са мной зрабіўся. Дагаджае мне. Я з яго яшчэ папалуплю скуры. Ён яшчэ больш будзе даваць мне ўсяго.

І ў гэтых Міхалкавых словах і ў хітрай грымасе на яго твары была першая ўжо адзнака фармавання натуры“.

А назаўтра ён ужо сам тонам уласніка размаўляе з Скуратовічам.

— Дзе ты быў, сынку?

Так лагодненька пытае ў яго забойца дзяцей, бандыт Скуратовіч, паказаны Чорным у рамане вельмі праўдзіва.

— Няхай-бы ты хоць сказаў, што табе трэба пайсці, то я сам кароў-бы паглядзеў. А то...

Міхалка пасля дзівіўся, як гэта ён смела так закрычаў у гэты момант на Скуратовіча. Гэта была нейкая хваравітая ўзбуджанасць.

— А то?.. Што „а то“?.. Давай сала і хлеб, а то пайду і ўсё выкажу“

Паступова Міхал, „постаць якога аж малілася“, у цяжкія хвіліны перад Скуратовічам, засвойвае філасофію кулака Скуратовіча. На свеце яшчэ будуць войны і няшчасці, калецтва і сіраты на дарогах, больш за ўсё трэба дбаць пра чорную гадзіну, якая кожную хвіліну можа спасцігнуць чалавека:

„Чорная часіна, і сам таго не ведаеш, кожнага спасцігнуць можа. А яшчэ цяпер. Час такі брыдкі цяпер, няпэўны, страшны неспакой... Чалавек цяпер азвярэў. Што-ж, кожны ратуецца як можа, кожны жыць хоча. Яшчэ ўсё на свеце будзе, яшчэ нічога не скончана, яшчэ гнаць людзей на пакуты будуць, малых дзяцей сіратамі пакінуць сярод дарогі: енчыць будуць, плакаць, стагнаць, і ніхто не злітуецца. Гэтыя небаракі сіраты пазаходзяцца без бацькоў і без матак“.

Вось гэтыя словы становяцца лейтматывам (які дарэчы ў творы паўтараецца вельмі ўжо часта) для ўсяго рамана К. Чорнага.

Міхал Тварыцкі вырастае ў значны вобраз уласніка, ён імкнецца сваю філасофію „чорнай гадзіны“ прышчапіць сваёй дачцы. Здабыўшы Скуратовічава золата, ён на сваім хутары ператвараецца ў ваўка.

Як разгортвае Чорны вобраз Тварыцкага? Галоўным чынам праз раскрыццё нутраных глыбінь яго псіхалагічнага свету, але нярэдка, як і наогул у характарыстыцы другіх вобразаў, звяртаецца да яркай вонкавай дэталі.

Вось як, напрыклад, Чорны праз вонкавую дэталь выражае ўласніцкую прагавітасць Тварыцкага:

— „Яшчэ павінна добра ўпрэць. Яшчэ паспею заскародзіць і раз пераараць пад жыта.

Ён акінуў вокам шырыню палетка і раптам занепакоіўся:

— „Што за ліха, як-бы ў мяне вузей, чым унь там. Мералі, чэрці, надзялялі, аднаму больш, другому менш. Душы ў кожнага здаецца роўныя.

Ён шпарка вярнуўся, пераМераў крокамі суседні палетак, пасля свой, і тады паспакайнеў.

— Чорт яго, гэта мне здалося“.

Як гэты малюнак не падобны на тых стандартных сялян-уласнікаў, што становяцца на карачкі і „нюхаюць ці ўзышло збожжа“.

Вонкавыя дэталі, якія перадаюць нутраны свет Тварыцкага, знаходзіць К. Чорны ў сустрэчы Тварыцкага з трупам Сэдаса. Адна маленькая акалічнасць робіць гэту карціну да гідкасці страшнай.

„Да голай пяты ў рачным драсне папрыліпалі ракі. Варушачы клешнямі, яны лезлі адзін на аднаго, дабіраючыся да пачатага месца“.

А вобраз Сэдаса (вельмі падобны на Сёмку Фартушніка з рамана „Трыццаць год“) адлюстраваўся ў свядомасці чытача, дзякуючы адной дэталі. Да гэтай дэталі няма чаго дадаць. Чалавек увесь са сваім характарам, выглядам, з усёй душой сваёй паўстае праз яе. Сэдас, як шпіён вярнуўся ў Совецкі саюз і адкапаў раней пакінутае золата:

„Паставіў на пянёчку гаршчок, аж трасецца ўсім тулавам, губамі цмокае і спявае бесперастанку: „грошыкі, вылежаліся, вычакаліся...“

Або няхай прыгадае чытач такую карціну:—„Міхалка хлапчук, калі сустракаецца з Зосяй, каб паказаць сябе дарослым, стаіць, падняўшы адзін плячук „задзірыста, як птушанё“—і адчуе сілу гэтага невялікага параўнання.

Чорны майстар стварэння псіхалагічнай карціны, зрэдку падмацованай яркай дэталяй.

Напрыклад, у другой частцы кнігі, папраўдзе кажучы, мёртвай частцы—дзякуючы прыгодніцкім пошукам грошай і судовым расследванням злачынства, яўна мёртвыя сюжэтныя канфлікты, падзеі, ажываюць пад рукой пісьменніка.

Даволі ўспомніць, як Міхал уцякае з дому, і як ён прыходзіць на месца, дзе ляжаў труп Сэдаса.

У стварэнні псіхалагічнага малюнка вялікую паслугу пісьменніку робяць чорнаўскія сціслыя пейзажы. Вось карціна пейзажу, якая пераплятаецца з пачуццямі Міхала:

„Дзікая радасць агарнула яго. У нейкім як-бы экстазе, ён слухаў птушыны крык і доўга не мог адарвацца ад дзічкі... Ішла і усталёўвалася восень, птушкі крычалі, іржэўнік рудзеў. Ён усё часцей і часцей прыходзіў пад дзічку, глядзеў, як больш і больш пад ёй дзірванее зямля і з дзікай радасцю слухаў птушыны крык і бачыў асеннюю смугу на даляглядзе“.

Здзіўляе яшчэ ў рамане Чорнага асэнсаванасць пейзажа. І як добра пейзажны малюнак у пачатку другой часткі твора перадае ўвесь сэнс таго змагання паміж больш высокімі і дробнымі катэгорыямі ўласнікаў, якое адбываецца ў творы:

„Дні два, у гарачую пару, над лесам можна было бачыць дзіўны малюнак: груганы і вароны ўзляталі з крыкам густа і зноў спускаліся ў вершаліны хвояў. Так кіпіць вада ў крыніцы. Зверху плаваў дробны каршачок, баючыся спусціцца ніжэй, мусіць там арудавала буйнейшая штука, якой каршачок баяўся. У канцы другога дня падзьмуў вецер і на гэты бок звілістай ручаіны чутно стала трупным пахам. Птушыны крык чуўся мацней“.

Цяпер пара ўжо сказаць колькі слоў і пра функцыянальную ролю мовы К. Чорнага ў творы „Трэцяе пакаленне“. Калі мы чытаем раман Чорнага, дык заўважаем, што аўтар прыхільнік доўгага

маналога, што героі яго шмат гавораць. Побач з паказам псіхалагічнага стану героя, стварэннем яркай вонкавай дэталі, пейзажам, які дапаўняе героя, у аўтара першачарговае значэнне адыгрывае мова. Мова Чорнага адзіная, ствараецца яна з лепшых дэмакратычных і прыгожых элементаў народнай мовы, аднак-жа мае сотні адценняў і складае зусім нечаканы рытм, тэмп і стылістычныя ходы.

Сам аўтар гаворыць у адным рытме і тэмпе пры дапамозе сваіх, яму аднаму ўласцівых, слоў і сказаў, кожны з герояў гаворыць у сваёй манеры. Не гледзячы на адзінасць мовы Чорнага ў вуснах яго герояў яна індывідуалізавана.

Каб наша думка была яснай, параўнаем мову двух вобразаў рамана: уласніка Міхала Тварыцкага, які гаворыць у фінале рамана маналог, варты якога-небудзь інтэлігента, і краўца, бадай самага значнага вобраза ў рамане „Трэцяе пакаленне“. Тварыцкі, чалавек, які вырваў з сябе ўжо ўласніцкую душу, гаворыць кулаку Скуратовічу:

„Твой бацька і ты, мучачы мяне, убівалі мне ў галаву, што чалавек на свеце ад веку будзе рваць горла другому?.. Вывaрочваючы маю дзіцячую душу, вы ўпэўнівалі мяне, што нявінныя дзеці, змучаныя і сіратлівыя, як пакалечаныя птушкі, будуць бадзяцца па пакутных дарогах і з грымасамі на сваіх нявінных тварах піць усю прагоркласць свету?..“

Вось вам адзін тэмп, рытм мовы Тварыцкага. А вось гаворыць другі чалавек, пакалечаны светам уласнасці, дробны баязлівец з тых беларускіх „людзей паветра“, якія так адпавядаюць выдатным шоламалейхемаўскім яўрэйскім „людзям паветра“. От кравец апавядае пра сваё вандраванне Зосі:

„То я вам скажу: падыходжу я пад Сцяпуржынскага дом, зазірнуў у вакно—аж там за сталом сям'іска, пане мой, сядзіць, можа чалавек дванаццаць і з стала пара ў столь дае. Бачу—гарачую бульбу ядуць...“

І далей:

„То я і думаю слухаючы: „Дзве хаты. То я-ж адтуль родам, божа мой. Там-жа мая хата стаіць, ліха матары вашай. (Зося адвярнулася і прыкусіла губу, каб не зарагатаць... Кравец зрабіў паўзу, дастаў з торбы сала і падсунуў к бульбе. Абмацаў у пінжачнай кішэні пляскатую, часоў нямецкай вайны, пляшачку, пачаў адкручваць накрыўку. Пацягнуў з пляшкі, ахнуў, зморшчыўся, налёг на бульбу, падняў пляшачку ў руцэ).—Можа-б вы для апетыту ўзялі-б кроплю? Не хочаце. Не п'еце. А можа дзіця ў губу ўзяло-б каліва? Спіць?.. Дзе я цяпер быў, то зямля яшчэ лепшая, як у вас. Гэта туды пад граніцу. Чорт яго ведае, можа пяцьдзесят вёрст адгэтуль будзе, калі не ўсе шэсцьдзесят. Там свіней кормяць людзі а-яй-яй. Бачыце, якое сала. Пакаштуйце. Ну, пакаштуйце. От я вам адрэжу... Там у іх свінагадоўчы соўгас, каб вы паглядзелі. Парсюкі стаяць такія, што каб я жыў, мядзведзь не ўбярэ, як горы. Сала там на ім дык поўвагона“.

Адкідаючы ўсе тлумачэнні аўтара, ці-ж нельга скульптурна ўявіць чалавека толькі па гэтаму яго маналогу, намаляваць або выляпіць вобраз дробнага баязліўца, „пстрыкуна“? Можна. У гэтым сіла мовы Чорнага, сіла яе індывідуалізацыі. Мова яго рысуе не толькі бытавыя сялянскія вобразы, як гэта думаюць некаторыя.

Не. І вось прыклад. Мова Тварыцкага, як зусім ясна, мае ў сабе тыя-ж звычайныя словы, як і мова краўца, але асаблівасць пабудовы сказу, асаблівасць рытму мовы ствараюць адменны во-

браз. Адзін гаворыць пафаснай мовай інтэлігента, другі бытавой сялянскай. Але асаблівай, аднаму краўцу ўласцівай, сялянскай мовай.

А вось фраза самога аўтара, якая перадае душэўны стан Зосі. Яна зусім не падобна ні на мову Тварыцкага, ні на мову краўца:

„Смутак ірвануў ёй сэрца“.

У творах Чорнага мова ў стварэнні вобраза чалавека з'яўляецца момантам вырашальным.

Сапраўды, толькі дзве дэталі дае нам пісьменнік, малюючы вобраз краўца. Тое, што ён лысы і баіцца холаду, і другая, што ён некалі на скрыпцы з кавалём Несцяровічам іграў: Несцяровіч на першай скрыпцы, а каваль уторыў. Рэшта-ж вобраз краўца дамалёўваецца—аж да выгляду, характару і паводзін—з яго мовы. У рамане К. Чорны паказвае незвычайна цікавы шлях гэтага чалавека, заціснутага старым светам баязліўца. Ён паказвае выхаванне з яго свядомага і адданага рабочага. Выхаванне краўца адбываецца на фоне велізарнай панарамы будаўніцтва электрастанцыі. Вось ён, кравец, напяваючы нешта сабе пад нос пра вагу ў жыцці таго чалавека, які мае сваю хату, ідзе дадому. Падыходзіць да самай сваёй сядзібы і пачынае божкацца, што ён бачыць: няма яго хаты, будаўніцтва з'ела яго старую, пахіленую хату. Ён кідаецца да свайго старога сябра, з якім разам на вечарынках іграў, да начальніка будаўніцтва Несцяровіча, і патрабуе, каб ён „выдаў“ яму хату кулака Багароўскага.

„То ты хіба, братачка, выдай мне хату Багароўскага. Не таго, што пад рэчкай, а таго, што туды пад дарогу. Ведаеш якога? Таго, што з індыком біўся“.

Калі ён атрымаў хату, ён займае ўсю яе і не хоча пераступіць нават аднаго пакою работніцы будаўніцтва Зосі, патрабуючы ад яе кватэрнай платы, бо інакш ён адзін будзе займаць увесь дом.

„У кожнага чалавека свая фантазія, і паводле, братачка, гэтае фантазіі ён мае густ,—

адказвае ён Зосі.

Але вось ён ужо рабочы-муляр. Добра апісаная Чорным панарама будаўніцтва расце, карціны працоўнага энтузіязму накшталт той, дзе рабочыя „спаборнічаюць з сонцам“, захапляюць краўца. Вось ён па волі кулака Сцяпуржынскага падае з рыштаван няў і крычыць, гэты дробны чалавек, праўдзівую, але дзіўную для рабочых фразу:

„Забярыце мяне, браткі, адсюль,—ледзве прагаварыў ён да натоўпу рабочых.—Лячыце мяне, я адзінокі“.

Чаму толькі адзінокіх трэба лячыць—няясна, але рабочыя добра зразумелі гэты страшны роспачны крык забітага чалавека—ён адзінокі. Яны яму са злосцю адказваюць:

„—Які ты адзінокі, мы-ж тут“.

Вось ён вяртаецца з больніцы, страшэнна непакоіцца, хто замест яго дамураваў рог сцяны, хваліцца, што сын яму „грошай

сыпануў, што сыпануў дык сыпануў, таіцца не буду", баіцца, што яго пакой ужо занялі, з будаўніцтва яго звольнілі і раптам ён прыходзіць, упершыню за сваё пакутнае жыццё, у свежа вымыты пакой, у чыстую пасцель, а таварышы яго, рабочыя, сустракаюць яго з падарункамі і ганаровай граматай. К. Чорны не піша, што адчуваў кравец у гэту хвіліну. Ён, здаецца, кінуўся абувацца ў новыя боты, госці прышлі, але ў чытача туманіцца зрок і ён на момант успамінае мінулае праклятае жыццё краўца і чытае такія словы краўцовы ў адказ на пашану да яго рабочых:

„—Што я такое рабіў на свеце, што вы так да мяне... Я поўвека свайго прахадзіў на свеце, шыючы кажухі. Там было так: што зарабіў, тое і сцерабіў. Толькі ад таго і асталося, што ўспомніць ні сабе, ні людзям. А тут—хіба я тут што зрабіў? Ну, я мураваў, цэглу клаў. Там у мяне поўвека прайшло, а тут усяго некалькі месяцаў".

Так выглядае гэты цудоўны і незвычайны цэльны вобраз краўца ў рамане „Трэцяе пакаленне", самы цікавы вобраз у гэтым творы.

Вялікую частку сюжэта рамана „Трэцяе пакаленне" складае таямнічае абрабаванне раённага банка, забойства Сэдаса, пошукі „трохрублёвак" Міхалам Тварыцкім, нарэшце расследванне злачынства. Так, для займальнасці сюжэта К. Чорны стварыў цэлы шэраг інтрыгуючых момантаў. Складаная інтрыга, якая ўпершыню бадай з'яўляецца тут у творах Чорнага, была яўна разлічана на займальнасць апавядання. Паспрабуем разабрацца ў сюжэце твора.

Аднак перш зробім невялікае адхіленне. Лічачы ў аснове сваёй замысел істотным і выкананне яго Чорным у рамане „Трэцяе пакаленне" яркім, мы аднак думаем, што К. Чорны памыліўся, зрабіўшы „камнем преткновения" для выяўлення ўласніцкай душы Міхала—грошы, золата. Сапраўды, падзеі, апісаныя ў рамане, адбываюцца ў нашай краіне ў 30-х гадах нашага стагоддзя, калі прыватная ўласнасць, уласніцтва было нашым ворагам, рашучым і смяртэльным на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва, асабліва ў калгасным будаўніцтве. Гэта яны—кулакі—арганізавалі сабатаж дзяржаўных нарыхтовак, гэта дробныя ўласнікі падрывалі працоўную дысцыпліну, гэта яны парушалі прынцып святасці соцыялістычнай уласнасці, гэта яны былі дапаможнікамі кулацкай дзейнасці на Украіне, Паўночным Каўказе, у Беларусі. Колькі значных тэм і падзей, цэнтрам якіх з'яўляўся ўласнік?

І пасля ўсяго гэтага Кузьма Чорны робіць „камнем преткновения" для праяўлення ўласніцтва Тварыцкага—грошы, „аплецены дротам гаршчок золата", тысячы совецкіх рублёў.

Ці не дала сябе знаць тут кніжная традыцыя літаратуры XIX стагоддзя, ці не кніжны характар носіць прагнасць Тварыцкага да „аплеценага гаршка з золатам"? Я думаю, што безумоўна так.

І здарылася гэта вось чаму. Раман К. Чорнага знаходзіцца, праўда, цалкам ужо ў совецкай рэчаіснасці і аўтару ўдалося ў ім стварыць панараму будаўнічай працы людзей, што перамагаюць

балота, паказаць з вялікай цяплынёй вобраз беларускага рабочага ў асобе краўца. Аднак пісьменнік яшчэ вобмацкам бярэцца за тэмы совецкай рэчаіснасці, ён дрэнна вывучае наша соцыялістычнае сёння, асабліва людзей новых індустрыяльных цэнтраў. Вось чаму, каб не пераймаць некаторых пісьменнікаў і не наблытаць у зусім новых канфліктах на новым матэрыяле, ён узяўся за стары, вядомы кананічны канфлікт.

А ці-ж паказ дадатных людзей нашай рэчаіснасці ў рамане не даводзіць правільнасць вышэй сказанага?

Хто яны, дадатныя людзі ў рамане: Зося, начальнік будаўніцтва Несцяровіч, Кандрат Назарэўскі.

Зося з'яўляецца ў рамане звычайным для творчасці Чорнага вобразам пакутнай, але ўпартай і шляхетнай жанчыны (цікава, што іншых вобразаў жанчын у творах К. Чорнага наогул не было). У паказе яе Чорны выявіў праўдзіва адну рысу—гэта яе ўпартасць: як яна, небарака, пакутуе, калі начальнік харчатрада папракае, што яна дапамагае кулаку Скуратовічу, з якой маўклівай мужнасцю перажывае яна смерць бацькі і брата, а затым пакутнае жыццё з Тварыцкім.

А як паказаны начальнік будаўніцтва Несцяровіч, Кандрат Назарэўскі? У дні грамадзянскай вайны Несцяровіч выяўлен праз адну невялікую рысу—яго ігру на скрыпцы гэтак сама як Назарэўскі праз чулыя адносіны да Ірынкі, а далей К. Чорны працуе тым сумленным метадам, паводле якога ён не павінен гаварыць пра тое, чаго не ведае. Ён проста абмінае гэтыя вобразы. Яны не схематычныя, не; проста іх не існуе ў творы. Мы не з'яўляемся прыхільнікамі той манеры, якая вельмі ўжо пашырылася ў апошнія часы сярод некаторай часткі пісьменнікаў—паказваць большэвікоў, як сантыментальных хлапчукоў, „лірычных вадалеяў", якія „ўмеру" выпіваюць і „ўмеру" любяць, дазваляюць сабе пажартаваць. Не. Комуніст, большэвік эпохі соцыялізма павінен быць паказан у мужных, простых і суровых фарбах. Але мы не можам быць прыхільнікамі метаду, якім большэвікоў паказвае К. Чорны. Людзей у яго няма, ёсць простая рэгістрацыя: сёння Назарэўскі прыехаў сюды, ён вядзе следства, нейкі рупар, а не жывы чалавек Назарэўскі размаўляе з Зосяй.

А вось гэты-ж рупар гаворыць, дарэчы, вельмі-вельмі далёкую ад разумнай абвінаваўчую прамову на судзе супроць Тварыцкага, вось ён намагаецца ў ёй штосьці іранізаваць наконт працавічка, авечкі, але гэта яўна яму не ўдаецца. Несцяровіч паказан яшчэ прасцей: ён штосьці гаворыць будзённае, высвятляе асобу Наўмысніка, дае кватэру краўцу і т. д. Усюды адчуваем, што ні Несцяровіч, ні Назарэўскі не сказалі самага важнага і хвалюючага слова ў творы, што яны прайшлі праз твор як бледныя цені.

Ад слабага ведання новых вобразаў совецкай рэчаіснасці, ад кніжнасці канфлікту, на мой погляд, вынікае і яўны крах пошукаў аўтара ў галіне сюжэту, інтрыгі, займальнасці.

Сапраўды, таямнічасць падзей другой часткі твору не хвалюе чытача, не гледзячы на тое, што Чорнаму ў гэтай частцы ўдалося

стварыць шэраг карцін, яркіх псіхалагічнага зместу (адчуванні Тварыцкага). Чаму-ж доўгія пошукі Тварыцкім грошай, а затым імкненне прадстаўнікоў совецкай улады выкрыць злачынца, які ўкраў каля поўмільёна совецкіх грошай (праз гэта спыняецца будаўніцтва) не ўсхвалявалі і не ўзрушылі чытача? Гэта не ўзрушыла чытача толькі таму, што прайшоў той час, калі золата, грошы былі „ніццю інтрыгі“. Кожны з совецкіх чытачоў можа шчыра спачуваць будаўніцтву, якое спынілася праз адсутнасць грошай, але не можа адчуваць магічнай сілы грошай, як гэта адчуваў буржуа XIX стагоддзя. Ён таму не можа хвалявацца гэтым інтрыгуючым момантам, уведзеным Чорным, бо не грошы з'яўляюцца вялікім і вырашальным канфліктам нашай рэчаіснасці, а людзі, чалавечыя адносіны, складанае змаганне ідэй, поглядаў і ідэалаў, дружба, каханне, нянавісць. Совецкі чытач не можа хвалявацца канфліктам, у аснове якога ляжаць грошы, золата, таму што „из всех ценных капиталов, имеющихся в мире, самым ценным и решающим капиталом являются люди“ (*Сталін.*)

І відаць мелі рацыю Ільф і Пятроў, калі паказалі, што ў гумарыстычным аспекце, а не ў трагічным можна ўзяць у творы праблему „золотого тельца“. Астап Бендэр са сваімі мільёнамі адчувае сябе найнешчаслівейшым чалавекам у нашай краіне. Ды і сам К. Чорны гэта добра разумеў, калі паказаў абсалютнае роўнадушша людзей новага свету да груды золата, якую хаваў Тварыцкі. Нават стары кравец не завойкаў і не забожкаў, як зазвычай, убачыўшы такую масу залатых манет, а спакойна закурыў папіросу ў мундштуку.

Дык нашто тады было К. Чорнаму момантамі пошукаў грошай, золата інтрыгаваць чытача на працягу добрай паловы кнігі?

Другі інтрыгуючы канфлікт—таямнічае забойства Сэдаса—не хвалюе чытача таму, што забілі гідкага чалавека, нашага яўнага ворага. „Так яму і трэба“—думае чытач, а па-другое, К. Чорны, як навічок у справе інтрыгі, так засакрэціў гэтае забойства Сэдаса, што не пакінуў чытачу жаднай мажлівасці для здагадкі. Такім чынам гэта інтрыга і прайшла па за ўвагай чытача, аж да самай развязкі.

Мы тут разгледзелі некаторыя памылкі сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твору К. Чорнага і бачым, што ў аўтара бракуе апавядальнасці, галоўным чынам у галіне сюжэтнай.

Зразумела, што гэтыя ўяўна інтрыгуючыя моманты ў рамане павінны былі быць заменены большай складанасцю ў змаганні чалавечых пачуццяў, у шырокім сэнсе гэтага слова, цікавасцю чалавечых дачыненняў, большай яркасцю вонкавай дэталі, пашырэннем кола вобразаў за лік увядзення людзей новых соцыяльных пластоў, тых людзей, якія не знаходзілі сабе месца раней у творах Чорнага. Са здзіўленнем мы прачыталі ў рамане Чорнага такі яўна неахайны стылістычна апрацованы абзац, напісаны ў вельмі характэрнай і дрэннай манеры Чорнага гаварыць тонам, абяцаючым

дзесьці наперадзе расказаць існую сутнасць падзей (а потым, дарэчы, аўтар забывае гэта нам расказаць):

„Душа яго гарнулася да таго, каб неўзаметку, ціха, панура, часам дзенебудзь у цёмным і зацішным кутку бервяно абчасаць, або капаць зямлю. Гэтым часам ён быў повен свае звыклай панурасці, мала калі гаварыў. Толькі часамі ім апаноўвала ажыўленне, у яго з'яўлялася патрэба штосьці камусьці расказваць, быць у вялікім гурце людзей. Гэта было ў тыя хвіліны, калі ён, думаючы пра Славу, успамінаў пра адну рэч, якую ён ёй хавае. Да суда ён не звязваў гэтую рэч з Славаю, ён проста меў яе за сваю жыццёвую апору. Пасля суда ён пачаў думаць, што захавае на доўгія гады гэтую рэч для яе, і яна, вырасшы, ацэніць яго клопат аб ёй. Гэта давала вялікія парывы яго хваляванню. Гэты пункт яго думак і пачуццяў умацоўваўся доўга, і дайшоўшы да самага высокага свайго ўзняцця, пачаў прытупляцца і часаміападаць. Сама справа гэтая пачала траціць сваю апору ў душы, бесперапынна падаграючыся думкамі“.

Раман Кузьмы Чорнага „Трэцяе пакаленне“ мае вялікае праблемнае значэнне, таму і выхаваўчая яго сіла вельмі значная. У беларускай мастацкай прозе 1935 года гэта лепшы твор.

Кузьма Чорны ў рамане „Трэцяе пакаленне“ паказаў значнае майстэрства, смеласць у падыходзе да вялікіх праблем соцыялізма. Але гэта раман, які напісаны не на ўвесь размах таленту Кузьмы Чорнага.

*Б. Каваленка*

# ТАРАС ШЭЎЧЭНКА

Вялікі народны паэт, выразнік рэвалюцыйных імкненняў мільённых мас запрыгоненага сялянства, Шэўчэнка сапраўды можа быць аднесен да ліку найбольш выдатных прадстаўнікоў сусветнай паэзіі. І не толькі па значэнню рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй сваёй творчасці, але і па сіле паказу гэтых ідэй, па мастацкай прастаце і сапраўднай народнасці паэтычнай мовы. Выхадзец з прыгоннага сялянства, Шэўчэнка перанёс на сабе ўвесь цяжар феадальна-прыгонніцкай сістэмы, і, як ніхто з яго літаратурных папярэднікаў, ведаў жыццё і псіхалогію працоўнага народу.

Паэзія Шэўчэнкі вельмі differently разнастайная ў жанравых адносінах: рамантычная балада і гераічная паэма „обличительная лирика“, сатыра, памфлет і лірыка інтымная, часам элегічная,—вось асноўныя кірункі творчасці паэта (акрамя вершаў ён пісаў таксама празаічныя і драматургічныя творы), публіцыстычныя заметкі („Дзённік“). Ужо з першых твораў Шэўчэнка звярнуў на сябе ўвагу літаратурных сучаснікаў буйнейшых прадстаўнікоў украінскай ліберальна-памешчыцкай літаратуры.

Ліберальна-памешчыцкая літаратура імкнулася выкарыстаць творчасць таленавітага паэта ў сваіх інтарэсах, разлічвала прывіць яму свае ідэйныя і эстэтычныя погляды.

Тагочасным украінскім пісьменнікам перш за ўсё імпаніравалі нацыяналістычныя матывы паэзіі ранняга Шэўчэнкі (рамантыка мінулага, ідэалізацыя казацтва, гетманаў, старшыны і т. д.), але вядомае спачуванне выклікалі і яго бытавыя паэмы з сялянскага жыцця („Кацярына“).

І Квітко-Основьяненко і Катлярэўскі таксама адлюстроўвалі ў сваёй творчасці некаторыя, праўда класава-абмежаваныя, элементы народнасці: пісалі яны на украінскай народнай (хоць і стылізаванай) мове, матэрыял таксама часта бралі з сялянскага жыцця. Найбольш ярка гэтыя элементы народнасці ліберальна-памешчыцкай літаратуры былі прадстаўлены ў такіх творах, як аповесць Квітко-Основьяненко „Маруся“ (гісторыя няшчаснага кахання сялянскай дзяўчыны), або п‘еса Катлярэўскага „Наталка-Палтаўка“.

Але калі дэмакратызм ліберальна-дваранскіх пісьменнікаў не ішоў далей захаплення этнаграфічным матэрыялам і ставіў сваёй мэтай прапаганду класавага міра паміж „просвещенными“ памешчыкамі і іх прыгоннымі „поддаными“, то Шэўчэнка быў прадстаўніком

сапраўднай народнай сялянскай дэмакратыі. Апрача таго, дэмакратызм Шэўчэнкі ў працэсе свайго развіцця ўсё больш прасякаўся рэволюцыйнымі настроямі, нянавісцю да памешчыцка-прыгонніцкага ладу.

Іменна гэтая акалічнасць прывяла да карэнных непрымірымых супярэчнасцей паміж Шэўчэнкам і дваранскімі пісьменнікамі. Учарашнія сябры Шэўчэнкі (Куліш і інш.) ператварыліся ў яго злейшых ворагаў, прычым з асаблівай нянавісцю гэтыя ворагі гаварылі пра „мужыцкі“ характар творчасці паэта.

Трэба сказаць, што і па мастацкай сіле паэзія Шэўчэнкі не магла ісці ні ў якае параўнанне з памешчыцка-дваранскай літаратурай.

Арганічная народнасць, якая харчавалася сокамі багацейшай творчасці украінскага сялянства, і сугучная яго псіхалогіі была тым новым, што ўнёс у украінскую літаратуру Шэўчэнка і што рэзка вызначала яго з шэрагу іншых пісьменнікаў. Ужо ранняя досыць наіўная рамантычная балада „Причинна“ з вельмі простым сюжэтам (дзяўчына чакае каханага, трапляе ў рукі днепроўскіх русалак, убачыўшы сваю сяброўку мёртвую, казак разбівае галаву аб дуб), робіцца здабыткам мас. На словы ўрыўкаў з балады „Реве та стогне Дніпр широкий“ і „Така її доля, о боже мій милий, за що ти караєш її молоду“—складаюцца народныя песні.

Папулярнасць балады „Причинна“ тлумачыцца не толькі яе мастацкай вартасцю, але і тым, што паэт у простай і даступнай форме перадаў блізкія масам лірычныя настроі. Па сваёй вобразнасці балада „Причинна“ таксама вельмі блізкая да народнай паэзіі.

Кого ж їй любити?
Ні батька, ні неньки:
Одна, як та пташка в далекім краю!
Пошли ж ти їй долю—вона молоденька,—
Бо люди чужії її засміють.
Чи винна ж голубка, що голуба любить?
Чи винен той голуб, що сокіл убив?
Сумує, воркує, білим світом нудить,
Літає, шукає, дума—заблудив.

Па такому-ж прынцыпу (арыгінальная кампазіцыя на народныя матывы) створаны і іншыя раннія рамантычныя творы Шэўчэнкі. Дзяўчыну хочуць сілком выдаць замуж за нялюбага, старога. Яна кахае другога—казака, які недзе вандруе. Просіць варажбітку прадсказаць ёй лёс, і калі каханага ўжо няма ў жывых—зрабіць так, каб і самой дзяўчыне больш дадому не вярнуцца. Ноччу ў стэпу спявае гераіня паэмы сумную песню аб самотным топалі і сама ператвараецца ў топаль.

По діброві вітер виє,
Гуляє по полю,
Край дороги гне тополю
До самого долу.

(„*Тополя*“).

Лірычная канцоўка падкрэслівае трагічнасць сітуацый. Па гэтаму-ж прынцыпу пабудована паэма „Перебендя“, дзе на фоне вольнага,

шырокага, як мора, стэпу выступае вобраз кабзара, які спявае то сумныя, то вясёлыя песні, але часцей сумныя, чым вясёлыя.

Лірычная паэма, прысвечаная пакутам людзей з народу, займае значнае месца і ў творчасці Шэўчэнкі больш позняга перыяду. Яна захоўвае характэрныя для яго ранняй паэзіі творчыя асаблівасці, кантраст паэтычнай прыроды і цяжкай рэчаіснасці, паралелі паміж прыродай і перажываннямі герояў, лірычныя адступленні і канцоўкі.

Аднак у працэсе творчага развіцця паэта лірычна-бытавая гераічная паэма ўсё больш акрэслена афарбоўваецца ў соцыяльныя тоны.

Ужо не проста казак, а наймiт-сірата, паганяты чужых валоў фігуруе ў паэме „Хусціна“. Адзінокі, як былінка, уміpае чумак у стэпу і толькі забытая магіла ды вышытая дзяўчынаю хустачка на крыжы сведчаць пра тую драму, якая адбылася.

А де ж тая мальована,
Шитая хустина?
А де ж тая веселая
Дівчина-дитина?
На новаму хрэсті хустку
Вітер розвівае,
А дівчина у черниці
Косу розплітае...

Паэтычныя вобразы сялянскай беднаты (чумак-сірата, сын удавы, дзяўчына-бяднячка) набліжалі лірычныя матывы Шэўчэнкі, прысвечаныя мінуламу, да сучаснасці, рабілі іх сугучнымі настроям і перажываннем селяніна, закабаленага феадальна-прыгонніцкім ладам.

Малады Шэўчэнка захапляўся рамантыкай мінулага. Ён напісаў шэраг гераічных паэм („Іван Підкова“, „Тарасова ніч“ „Гамалія“), прысвечаных казацкім войнам, канкрэтным, а часам і выдуманым атаманам, якія вадзілі казакаў у паходы пад Царград, у Крым, супроць польскіх паноў. Гістарычным паэмам Шэўчэнкі ўласцівы элементы нацыяналізма. Аўтар не бачыў распластавання казацтва на прывілеяваную верхавінку (гетманы, старшыны) і радавых казакаў, сярод якіх было шмат „голоты“, якая ўцякала ад паноў. Казацтва ён ідэалізаваў, разглядаў як адзіны дэмакратычны рух, накіраваны цалкам супроць паноў і ў абарону простага народу. Каліва ўяўленнях маладога Шэўчэнкі было шмат наіўнага, памылковага, што не адпавядала рэальнай гістарычнай сапраўднасці, то з другога боку ў яго ранніх вершах адлюстроўвалася і характэрная для паэта дэмакратычная накіраванасць творчасці. Няхай гэтая накіраванасць не была яшчэ дастаткова ўсвядомлена, але яна адрознівала Шэўчэнку ад прадстаўнікоў ліберальна-памешчыцкай літаратуры. І не выпадкова дваранскія пісьменнікі і публіцысты з абурэннем адклікаліся аб яго найбольш значнай гістарычнай паэме „Гайдамакі“, напісанай у 1841 г. З свайго боку Шэўчэнка ў лірычным уступе да паэмы высмейвае гістарычныя канцэпцыі сваіх ворагаў і дэманстрацыйна заяўляе, што наўпрокі іх парадам, ён будзе пісаць пра герояў у „лапцях“ і „сялянскіх світках“—пра простага батрака Ярэму Галайду.

Батраку Ярэму, яго каханню, яго помсце панам прысвечаны найбольш пафасныя главы паэмы „Гайдамакі“. Шэўчэнка не толькі

імкнуўся перадаць у іх пафас нянавісці беднаты да прыгнятальнікаў, драматызм барацьбы супроць іх, але як і ў лірычных творах, апявае прыгажосць душы чалавека з народу, паўнату яго пачуццяў, сцвярджае права на жыццё сваіх герояў. Адсюль вялікая цяплыня лірычных сцэн паэмы (Ярэма-Аксана), шырокае ўжыванне лепшых мастацкіх сродкаў народнай паэзіі для таго, каб паўней паказаць перажыванні герояў.

Забув, побіг, обнялися...
„Серце!—та й замліли
Довго, довго тільки—„серце!"
Та й знову німіли.
„Годі, пташко!"
Ще трошечки,
Ще... ще... сизокрилий!
Вийми душу!... Ще раз... ще раз
Ох, як я втомилась!

Лірычныя сцэны паэмы „Гайдамакі" не пазбаўлены наіўнасці і сантыменталізма, характэрных для маладога Шэўчэнкі. Не толькі перажыванні закаханых перададзены ў пяшчотных лірычных танах, сама прырода прымае шчыры ўдзел у лёсе герояў і, калі Ярэма малюе сваёй любай прыгожыя перспектывы іх будучага жыцця ў вызваленай ад паноў Украіне, нават вербы нахіляюцца слухаць яго расказ.

Тыпова-народная форма паралелізма (прырода і жыццё чалавека) наогул характэрна для Шэўчэнкі і ў асаблівасці для яго лірыкі.

Вітер в гаі нагинае
Лозу і тополю
Лама дуба, котить полем
Перекотиполе.
Так і доля: того лама,
того нагинае;
Мене котить, а де спиниць,
І сама не знае.

(*„Мар'яна Черниця"*).

Вядома вартасць паэмы „Гайдамакі" не абмяжоўваецца ўдалымі лірычнымі эпізодамі. Ідэальныя народныя героі паказаны паэтам не толькі ў сваіх лірычных перажываннях, але і ў класавай практыцы. Вось чаму „Гайдамакі" асабліва драматычны твор. Шэўчэнка паказвае ў ім нечалавечы прыгнёт народных мас, свавольства з боку польскіх памешчыкаў, вогненнае мора нянавісці, якая прывяла да гайдамацкага паўстання. Бурныя эмоцыі гневу і нянавісці, рашучасці да барацьбы не на жыццё, а на смерць, калі герой Ярэма абяцае з труны ўстаць, але адпомсціць ворагам, падкрэсліваюцца навальнічнымі пейзажамі, сугучнымі настроям герояў.

Реве, стогне, завивае,
Лози нагинае;
Грім гогочэ, а блискавка
Хмару роздирае,
Іде собі наш Ярема,
Нічого не бачить;
Одна думка усміхнеться,
А друга заплаче.

Выключнае ўражанне робяць главы паэмы, прысвечаныя гайдамацкаму паўстанню; сцэна банкета перамогшых паўстанцаў на пляцу палаючай Умані, катаванне Гонтою сваіх дзяцей за тое, што матка хрысціла іх у каталіцкую веру. У драматычных карцінах народнай помсты шмат стыхійнага, сляпой нянавісці, якая надае барацьбе гайдамакаў супроць паноў нацыяналістычную афарбоўку (заклікі знішчыць не толькі памешчыкаў, а палякаў наогул). Трэба адзначыць, што сам Шэўчэнка асуджаў праявы нацыянальнай розніцы, з такой вастрынёй паказаныя ў „Гайдамаках“ і выказаў утапічную праўду, думку, што, калі-б езуіты і ксяндзы не пасварылі два народы (украінцаў і палякаў), то і барацьбы між імі не было-б. Падмена класавых праблем нацыянальнай, поруч з ідэалізацыяй казаччыны,—адна з найбольш істотных супярэчнасцей творчасці Шэўчэнка. Вось чаму, разглядаючы ў агульным гайдамацкае паўстанне як барацьбу сялян супроць паноў, ён разам з тым выказвае нацыяналістычныя славянафільскія палажэнні аб братэрстве ўсіх славян.

Пры ўсіх гэтых супярэчнасцях Шэўчэнка, у адрозненне ад дваранска-памешчыцкай гісторыяграфіі і літаратуры цалкам на баку паўстаўшых.

Шэўчэнка не проста паказвае крывавую рэзаніну гайдамакаў і польскіх атрадаў (такіх эпізодаў у яго шмат), ён сцвярджае свяшчэннае права народу на паўстанне супроць прыгнятальнікаў. Гэтай ідэяй прасякнута ўрачыстая сцэна „освящения“ гайдамацкіх нажоў перад выступленнем у паход, прамову ўдзельнікаў і кіраўнікоў паўстання:

Пожар не гасне, люди мруть,
Конають в тюрмах, голі, босі...
Діти нехрищені ростуть,
Козацькі діти; а дівчата!..
Землі козацькоі краса
У ляха в'яне, як перш мати,
І непокритая коса
Стидом січеться... Карі очі
В неволі гаснуть; роскувать
Козак сестру сваю не хоче;
Сам не соромиться конать
В ярмі у ляха... Горе, горе!
Молітесь, діти! Страшний суд
Ляхи в Україну несуть,—
І заридають чорні гори.

Ярка выражанае спачуванне Шэўчэнкі паўстанцам было прычынаю таго, што, нават не гледзячы на элементы нацыяналістычнай рамантыкі, паэма „Гайдамакі“ сустрэла варожыя адносіны з боку дваранскіх гісторыкаў і літаратараў.

Дваранскія гісторыкі і літаратары ненавідзелі гайдамакаў за бязлітасную расправу над панамі, баючыся на працягу доўгага часу магчымасці паўтарэння гэтага паўстання, Шэўчэнка як раз апявае гэты антыпанскі бок гайдамаччыны, стварае вобразы вялікай эмацыянальнай сілы, з нянавісцю адносіцца не толькі да прыгнятальнікаў народных мас у гістарычным мінулым, але і сучаснай яму феадальна-прыгонніцкай сістэме.

Такі сэнс маюць і выказванні Шэўчэнкі пра гайдамаччыну, якія адносяцца да больш пазнейшага перыяду. У звароце да Н. В. Гогаля (1844 г.) Шэўчэнка шкадуе аб тым, што „не заревуть в Украіні вольніі гармати“ і што гайдамаччына толькі ў мінулым, у паэме „Холодный яр“ (1845 г.), абараняючы гайдамацкае паўстанне ад паклёпніцкіх нападаў дваранскіх гісторыкаў, клейміць гэтых гісторыкаў як ненасытных разбойнікаў, якія гандлююць „землею всім даною і сердешним людом“, прадсказваюць, што „повіе огонь новий з Холодного яру“ (раён, дзе збіраліся гайдамацкія атрады). Паэма „Гайдамакі“ сюжэтная; кожны эпізод уяўляе сабой закончаную карціну. У адпаведнасці з ходам дзеі народны песенны лірызм пераходзіць у драматычную героіку. Дзея суправаджаецца лірычнымі адступленнямі, усхваляванымі аратарыямі, якія перадаюць пачуцці аўтара.

Місяцю мій ясний! З високого неба
Сховайся за гору; бо світу не треба;
Страшно тобі буде хоч ти і бачив Рось,
І Альту, і Сену: і там розлилось
Не знать за що крові широкее море.
А тепер що буде? Сховайся ж за гору;
Сховайся, мій друже, щоб не довелось
На старість заплакать...

У ранніх гераічных паэмах, прысвечаных гістарычнаму мінуламу (у тым ліку і ў паэме „Гайдамакі“), Шэўчэнка ідэалізаваў казацтва, яго прывілеяваную верхавіну—старшыну. У больш позні перыяд сваёй творчасці ён пачынае глыбей і правільней разумець сутнасць гістарычных працэсаў і выступае з рэзкай бічуючай сатырай, накіраванай супроць гетманаўшчыны.

Раби, підніжки, гразь Москви.
Варшавське сміття ваші пани
Ясневельможніі гетьмани!

Пераацэнка каштоўнасцей Шэўчэнкі была звязана з барацьбой супроць ліберальна-памешчыцкага славянафільства. Праўда, гэтая барацьба не была паслядоўнай.

У сваім памфлеце „Послание к мертвым, живым и неродившимся землякам“ Шэўчэнка бічуе славянафілаў не столькі за сутнасць іх ідэалогіі, колькі за разыходжанне паміж словам і справай, за падмену рэальнай барацьбы супроць царызма ліберальнай балбатнёй пра „народолюбие“. Ён яшчэ не губляе надзеі звярнуць лібералаў-памешчыкаў на правільны шлях і нават заклікае іх „обнять меньшого брата“, але побач з апеляцыяй да надкласавага браталюбства, Шэўчэнка недвухсэнсова пагражае памешчыкам узброеным паўстаннем і з захапленнем гаворыць пра тыя дні, калі сотняй рэк пацячэ ў мора кроў, калі не саміх памешчыкаў, дык іх дзяцей.

Усё-ж з пункту гледжання пераацэнкі паэтам сваіх поглядаў на гісторыю Украіны, яго зварот вельмі паказальны. Шэўчэнка не толькі паказвае ў новым святле гетманаў і казацкіх старшын, але і па-новаму ацэньвае гістарычнае мінулае цалкам. Гэта мінулае

уяўляецца яму ўжо не ў рамантычным святле, а як цяжкая трагічная эпапея.

Я ридаю, як згадаю
Діла незабутні
Дідів наших: тяжкі діла?
Як би їх забути...
Я отдав би веселого
Віку половину...

Пераацэнка мінулага не зводзілася ў Шэўчэнкі да выпадковых выказванняў. У шэрагу вершаў ён выкрывае прадажнасць і здраду народным інтарэсам гетманаў і старшыны. У невялікай баладзе „За байраком—байрак“ ён гаворыць пра тры сотні казакаў, якіх не прымае зямля за тое, што яны гналі праданых гетманам сялян у няволю. Трэба адзначыць, што ў гістарычных паэмах, таксама як і ў лірычных, бытавых творах, створаных на матэрыяле мінулага, Шэўчэнка шукаў увасаблення той сялянскай праўды, з пункту погляду якой ён расцэньваў людзей і падзеі. Гэтая тэндэнцыя ярка выражана ў адным з яго ранніх твораў „На вечную памяць Катлярэўскаму“, дзе поруч з гістарычнай рамантыкай даюцца лірычныя пейзажы, ідылічныя замалёўкі сялянскага быту.

Засне долина, на калині
І соловейко задріма;
Повіе вітер по долині
Пішла дібровою луна;[1])
Луна гуляе—божа мова...
Встануть сердеги працювать,
Корови підуть по діброві,
Дівчата вийдуть воду брать,
І сонце гляне—рай та й годі!
Верба сміється—свято скрізь;
Заплаче злодій, лютий злодій.

Зварочваючыся да мінулага, паэт шукае ў ім героічных і лірычных вобразаў, адпаведных вышэйшаму ідэалу народнай праўды. Ён піша не толькі пра гетманаў і старшыну, пра афіцыйных прызнаных герояў нацыяналістычнай гісторыяграфіі, але і пра простых казакаў, пра наймiта Ярэму, пра бязроднага Чумака, пра ідэальных герояў, якія кіруюцца ў сваім жыцці прынцыпамі справядлівай народнай маралі.

У гэтым ідэале справядлівага жыцця шмат яшчэ наіўных сялянскіх уяўленняў накшталт веры ў мажлівасць разбагацець ад „трудов праведных“ і т. д. Пра багацце марыць Ярэма, вобраз бядняцкай долі, якая выглядае з торбы бязроднага батрака і цудам ператварае яго ў багача („А там снопи, а там скирти, а там—у палатах сидить собі наш сирота, мов у своїй хаті“), пададзен у гістарычна-бытавой паэме „Невольник“. Аднак і сам Шэўчэнка адчувае ілюзорнасць утапічных уяўленняў пра ідэальную справядлівасць

[1]) Рэха.

жыцця як ва ўмовах гістарычнага мінулага, так і ва ўмовах яго сучаснасці. Таму такім сумам павявае ад лірычных адступленняў, якімі багаты яго паэмы.

Думи мої молодії,
Поховані діти,
Не літають з того світа
Пустку натопити.
Покинули сиротою
З тобою одною,
Мое серце, моя зоре,
Раю мій, покою!
Ніхто не зна мого раю.
І сама не знаеш,
Що витаеш надо мною,
Як зоря над гаем,
І дивлюся, я дивлюся...
А ти, моя зоре,
Спускаешся низесенько,
Тихо заговориш,
Усміхнешся, подивишся—
Дивлюсь, і не бачу...
Прокинуся [1])—плаче серце,
І очі заплачуть...

Такі ўступ да ідылічнай паэмы „Невольник“, пра казака Сцяпана і яго названую сястру Ярыну. Бацька Ярыны адчыняе свайму прыемнаму сыну Сцяпану праўду пра тое, што Ярына не яго родная сястра і што ён можа на ёй жаніцца, але папярэдне стары казак пасылае Сцяпана ў Запарожскую сеч павучыцца там жыццю і казачай харобрасці, а дарэчы і здабыць грошай для гаспадаркі.

Сцяпан прападае невядома дзе пяць год і варочаецца сляпым (пабыў у турэцкай няволі) кабзаром. Стары і Ярына пазнаюць у кабзары свайго Сцяпана, былы нявольнік становіцца мужам Ярыны і паэма канчаецца ідылічным малюнкам шчаслівага і раданага жыцця новабрачных. Але затое якая сумная лірычная канцоўка ідылічнай паэмы пра чалавечае шчасце, як востра ў Шэўчэнкі пачуццё кантраста паміж гэтай выдуманай ідыліяй і рэальнай сапраўднасцю, паміж марамі і мажлівасцямі іх ажыццяўлення!

Минулися мої сльози;
не рветься, не плаче
Поточене старе серце,
І очі не бачать—
Ні тихої хатиночки
В забутому краю,
Ні тихої долиночки,
Ні темного гаю;
Ні дівчини молодої
Й малої дитини
Я не бачу шасливої.
Все плаче, все гине!
І рад би я сховатися,
Але де?—не знаю.
Скрізь неправда, де гляну
Скрізь господа лають!
Серце в'яне, засихае,
Замерзають сльози...

[1]) Прачнуся.

І втомивсь я, одинокий,
На самій дорозі.
Отаке то! Не здивуйте,
Що вороном крячу:
Хмара сонце заступила,—
Я світа не бачу.

Так ад сутычкі з жыццём памірае ідылія (гэта адносіцца да рамантыкі мінулага), Шэўчэнка, калі браць яго творчасць цалкам, перш за ўсё паэт жыцця. Поруч з гістарычнай рамантыкай, ён ужо на раннім этапе свайго развіцця звяртаецца да рэальнай рэчаіснасці, да быту селяніна і калі гістарычная паэма „Гайдамакі" напісана ў 1841 годзе, то бытавая паэма „Кацярына" датавана годам пачатку творчай дзейнасці Шэўчэнкі (1838 г.). Гераіня гэтай паэмы—простая сялянка, якая нешчасліва пакахала маскаля.

Характэрна, што гэта сумная паэма чалавечага жыцця прысвечана В. Жукоўскаму ў памяць 22 красавіка 1838 г. (дата вызвалення Шэўчэнкі з прыгоннай няволі), таксама як і паэма „Гайдамакі" прысвечана памяці гэтай-жа падзеі В. Грыгаровічу. (В. Жукоўскі і В. Грыгаровіч арганізавалі выкуп Шэўчэнкі). Як і паэма „Гайдамакі", „Кацярына" напісана простай народнай мовай, зразумелай нават мала падрыхтаванаму чытачу:

Не слухала Катерина
Ні батька, ні неньки;
Полюбила москалика,
Як знало серденько,
Полюбила молодого,
В садочок ходила,
Поки себе, свою долю,
Там занапастила.

Таксама як і ў „Гайдамаках", Шэўчэнка палемізуе з вялікадзяржаўнікамі, якія адмаўлялі за украінскай літаратурай права на існаванне (псуе, моў, мову ды людзей марочыць). Паэма „Кацярына" глыбока народная не толькі па сваёй мове, але і па зместу. Апісваемыя ў ёй падзеі ўзяты з жыццёвай практыкі сялянства, характэрныя для ўмоў феадальна-прыгонніцкага ладу. Малады барчук вайсковы сходзіцца з сялянскай дзяўчынай, потым накіроўваецца з палком у паход. Кацярына становіцца маткай незаконнанароджанага дзіцяці, што па тагочасных уяўленнях было найвялікшай ганьбай. Пакінутая бацькамі, асуджаная ўсімі, Кацярына з сынам на руках ідзе па вялікаму шляху ў Расію, спадзяючыся дзе-небудзь знайсці свайго Івана. Выпадкова яна яго сустракае на чале атрада салдат, але барчук груба яе адштурхоўвае. Кацярына канчае жыццё самагубствам. Лірычны эпілог гаворыць пра лёс сына Кацярыны. Праз шэраг гадоў стары кабзар з хлопчыкам на тым-жа кіеўскім шляху сустракае раскошную карэту з памешчыцкаю сям'ёю (Іван з сваёй жонкай-барыняй). Бацька пазнаў сына, але ў другі раз ад яго адмовіўся, карэта пайшла далей, а стары з дзіцем засталіся стаяць у пылу.

Ва ўмовах памешчыцкага быту гісторыя Кацярыны была распаўсюджаным з'явішчам. У розных варыянтах тэма „покрыткі"

(матка незаконнароджанага дзіцяці) праходзіць праз усю творчасць Шэўчэнкі.

Вобраз ашуканых дзяўчат Шэўчэнка падае з вялікім лірычным пачуццём. Меланхалічны лірызм характэрны і для паэмы „Кацярына". У гэтай паэме, магчыма таму, што яна адносіцца да ранніх твораў Шэўчэнкі, асабліва ярка раскрываецца працэс асваення яе аўтарам народнай паэтыкі.

Перш за ўсё кампазіцыя паэмы цалкам адпавядае народным эпічным і лірыка-эпічным творам: асноўны расказ, які падае ў храналагічнай паступовасці падзеі жыцця Кацярыны, перамежваецца з лірычнымі адступленнямі і маралізатарскімі сентэнцыямі ад аўтара. Тэкст паэмы багата перасыпан песнямі, вобразы часта пабудаваны на прынцыпу песеннага паралелізма (прырода-чалавек). З народнай паэзіі ўзяты таксама эпітэты і параўнанні.

Вміла мати брови дати,
*Карі оченята,*
Та не вміла на сім світі
*Щастя—долі* дати.
А без долі *біле личко*
*Як квітка на полі:*
Печэ сонце, гойда вітер
Рве всякий по волі...

Аўтар у сваёй паэме выкарыстаў не толькі песенны, але і фальклорны матэрыял іншых жанраў. Сюды адносяцца народныя прыказкі і сентэнцыі, плач, галашэнне мацеры над Кацярынай, Кацярыны над сваей доляй, апаэтызаваныя сялянскія звычаі (Кацярына бярэ ў дарогу жменьку зямлі з-пад той-жа вішні, дзе расцвіло яе каханне). Лірычныя запевы і паўторы, пейзажы, якія адзначаюць той або іншы бок дзеяння,—усё гэта разам узятае падкрэслівае народнасць персанажаў паэмы і надае ўсяму твору каларыт народнасці. Як і ў паэме „Гайдамакі", народны лірызм, надзвычайна лёгкі і даходлівы і ў той-жа час высокамастацкі, спалучаецца ў Шэўчэнкі з напружаным драматызмам дзеяння. Творчыя асаблівасці Шэўчэнкі як народнага паэта вызначыліся ўжо ў ранніх яго творах. У далейшым гэтыя асаблівасці ўсё больш развіваліся і ўдакладняліся.

Творчы рост Шэўчэнкі быў абумоўлен таксама ўплывамі рэвалюцыйна-дэмакратычнай рускай літаратуры.

Шэўчэнка трымаў цесную сувязь з віднейшымі рэвалюцыйнымі дэмакратамі Чэрнышэўскім, Дабралюбавым, Курачкіным, актыўна прапагандаваў у сваёй творчасці рэвалюцыйна-дэмакратычны лозунг узброенага паўстання.

З свайго боку Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, Курачкін вельмі высока цанілі паэзію Шэўчэнкі, спасылаючыся на Шэўчэнку, як на непахісны аўтарытэт у пытаннях жыцця і быту ўкраінскага народу.

Курачкін захапляўся лірыкай Шэўчэнкі, асабліва яго песнямі, перакладаў вершы Шэўчэнкі на рускую мову.

Шчыльнейшы кантакт Шэўчэнкі з рэвалюцыянерамі-дэмакратамі безумоўна ўзбагаціў яго ідэйна і творча, узмацніў тую лінію павароту ад гістарычнай рамантыкі да рэальнай рэчаіснасці, якая вызначалася ў творчасці паэта досыць рана, ужо праз некалькі год пасля пачатку яго літаратурнай дзейнасці. Паварот ад ідэалізацыі мінулага і ад рамантычных ідылій да рэчаіснасці сучаснай паэту Украіны і Расіі адыграў буйнейшую ролю ў яго развіцці.

Нема раю на всій землі,
Та нема й на небі!

Такі вывад зрабіў паэт з сваіх назіранняў над жыццём. Ідэйна-творчая эвалюцыя Шэўчэнкі праходзіла надзвычай хутка. У аўтабіяграфічным творы „Три літа", якім адкрываецца зборнік вершаў паэта (1843—45 гг.), Шэўчэнка гаворыць пра тое, што жыццё бязлітасна разбурае яго юнацкія ілюзіі. Затое, замест расплыўчатага гуманізма і сантыменталізма развівалася свядомасць барацьбіта, мацнела пачуццё нянавісці да „зміяў", якія атруцілі прыгожае чалавечае жыццё:

Серце люди полюбило
Ї в людях кохалось,
Ї вони його вітали,
Гралися, хвалили...
Ї літа тихенько крались
Ї сльози сушили,
Сльози щироє любові...
Ї я прозрівати
Став потроху... Доглядаюсь—
Бодай не казати!
Кругом мене, де не гляну,
Не люди, а змії...
Ї засохли мої сльози—
Сльози молодії
Ї тепер я розбитее
Серце ядом гою—
Ї не плачу, й не співаю,
А вию совою.

(1845)

Ї паэт пачынае марыць пра крывавую расправу над людзьмі-змеямі так, як можа марыць рамантык, які не думае аб мінулым, а як рэвалюцыянер, упэўнены ў будучыню.

Праз тры дні пасля паданага верша ён піша лірычны верш „Як умру, то поховайте", дзе на большую мастацкую вышыню падымае ідэю паўстання супроць царызма. Ї калі так хутка сантыментальныя песні Шэўчэнкі пра дзявочае каханне („Така і доля") сталі народнымі, то з яшчэ большай падставай і з іншай накіраванасцю атрымала шырокае распаўсюджванне ў масах Шэўчэнкаўскае „Як умру".

Да 1845 г. адносяцца і сатырычныя паэмы, памфлеты Шэўчэнкі „Сон", „Каўказ". Творы выключнай выяўленчай і эмацыянальнай сілы. Ідэйна-творчы паварот Шэўчэнкі высунуў на першы план новыя жанры яго паэзіі. Не рамантычная балада і не гераічная

паэма пра казаччыну, а гнеўная „обличительная“ лірыка, палітычны памфлет пераважаюць у творчасці Шэўчэнкі новага перыяду. Новыя соцыяльна завостраныя матывы змяняюць і самы лад лірыкі Шэўчэнкі. Усё часцей гучаць у ёй эмацыянальныя дынамічныя рытмы, узнікаюць насычаныя пафасам вобразы.

Чого мені тяжко? Чого мені нудно?
Чого серце плача, ридає, кричить,
Мов дитя голодне? Серце моє трудне,
Чого ти бажаєш? Що в тебе болить?
Чи пити, чи їсти, чи спатоньки хочеш?
Засни моє серце, навіки засни!...
Невкрите, розбите... А люд навісний
Нехай скаженіє... Закрий, серце, очі!

Лірызм верша Шэўчэнкі захоўваецца цалкам, але лірыка выступае ўжо ў іншай функцыі, яна падкрэслівае „обличительные“ сатырычныя матывы паэзіі. На спалучэнні „обличительной“ сатыры і лірыкі (тэма прыгожай, вызваленай ад „няпраўды і няволі“ справядлівага жыцця) пабудаваны лепшыя палітычныя паэмы Шэўчэнкі „Сон“ і „Каўказ“. Характэрная для Шэўчэнкі схільнасць да маралізатарскіх сентэнцый тут выяўляецца ўжо ў новай якасці „обличительной“ лірыкі, народнасць мовы паварочваецца сваёй сатырычнай вастрынёй супроць ворага.

Паэма „Сон“ пачынаецца з разважанняў пра рабаўнікоў, якія хлусліва прыкрываюць сваю сутнасць ласкавымі кашачымі манерамі і высмейваюць патрыятызм паноў, якія распінаюцца ў сваёй любві да бацькаўшчыны і ў той-жа час цэдзяць з яе кроў, як ваду.

Ад гэтых агульных філасофскіх разважанняў Шэўчэнка пераходзіць да непасрэднай тэмы паэмы—да апісання дзіўнага сну, які яму прысніўся. У сне цудоўным чынам па паветры пераносіцца паэт у Пецярбург, запісвае ўражанні ад палёту і ад царскай сталіцы, развітанне з зямлёй, малюнкі украінскай прыроды і украінскай прыгонніцкай рэчаіснасці, якія наглядае паэт, едучы ў Пецярбург і якія можна аднесці да лепшых лірычных месц паэмы.

Летим... Дивлюсь—аж світає,
Край неба палає:
Соловейко в темнім гаї
Сонце зустрічає.
Тихесенько вітер віє,
Степи, лані мріють;
Між ярамі над ставами
Верби зеленіють.
Сади рясни*) похилились;
Тополі поволі
Стоять собі, мов сторожа,
Розмовляють з полем,
І все то те, вся країна,
Повита красою,
Зеленіє, вмивається
Дрібною росою;
Споконвіку вмивається,
Сонце зустрічає,—
І нема тому почину,
І краю немає!

*) Густыя

Аднак паэта нельга ашукаць ідылічнымі надзвычайнымі пейзажамі, якія дарэчы сказаць геніяльна перадаюць адчуванне палёту. Ён ведае, колькі пакуты народнай схована за надворнымі мірнымі пейзажамі белых хат і раскошных садоў. Душа паэта неспакойная, і гэтае пачуццё трывогі і суму з вялікай эмацыянальнай сілай перадаецца чытачу:

Душе моя убогая!
Чого марно плачеш?
Чого тобі шкода?
Хіба ти не бачиш?
Хіба ти не чуєш людського плачу?
То глянь, подивися! А я полечу
Високо, високо за синії хмари:
Немає там власті, немає там кари,
Там сміху людського і плачу не чуть!
Он глянь: у тім раї, що ти покидаєш,
Латану свитину з каліки знімають,
З шкурою знімають,—бо нічим обуть
Княжат недорослих. А он розпинають
Вдову за подушне; а сина кують,
Єдиного сина, єдину дитину,
Єдину надію!—в військо оддають!

У незвычайна сцісłым, а таму і вельмі выразным паказе перад чытачом праходзяць вобразы апухлага з голаду дзіцяці і маткі, якая знясілела ад цяжкай працы на паншчыне, мора пралітае крыві. Далей і далей ляціць паэт. Сонечныя украінскія пейзажы змяняюцца лясамі і балотамі, дзе не ступала нага чалавека. Але ў гэтых непраходных месцах працуюць на пана нявольнікі. Дэкабрысты „цары волі" на катарзе працаю здабываюць золата, каб заліць ім горла ненасытных. Зноў ляціць паэт, з-пад зямлі вырастаюць гмахі вялікага казённага горада з сотнямі цэркваў і муштраванымі салдатамі на вуліцах:

Церкви та палати,
Та пани пузаті,
І ні однісенької хати!

Лірызм Шэўчэнкі пераходзіць у знішчаючую сатыру. У падкрэслена гратэскавым плане ён паказвае карыкатурны парад і „вездесущих землячков из приказных стряпчих", прыдворную знаць і самую царскую сям'ю, апетую ў хвалебных одах не адным літаратурным сучаснікам паэта. І калі Шэўчэнка вельмі тонка ўмеў скарыстаць мастацкія сродкі народнай лірыкі, то не з меншым майстэрствам ён пускае ў ход прыёмы калючай сялянскай сатыры і юмару для таго, каб найбольш адчувальна ўдарыць па „вянцэносцах".

І здобився
Я знову незримый,
Та й пропхався у палати,
Боже мій, єдиний!!
Так од дэ рай! Ужо нащо
Золотом облиті
Блюдолизи! Ажось і сам,
Високий, сердитий,
Виступає... Обок його
Цариця небога,

Мов опеньок засушений—
Тонка, довгонога,
Та ще на лихо сердешна,
Хита головою.
Так, оце то та богиня?!
Лишенько з тобою!
А я, дурний, не бачивши,
Тебе, цяце, й разу,
Та й повірив тупорилим
Твоїм віршомазам.

Шэўчэнка піша наўмысна вульгарызаванай грубаватай сатырычнай мовай, каб падкрэсліць сваю найглыбейшую нянавісць да „обожаемых“ многімі афіцыяльнымі паэтамі манархаў. Іменна на такі эфект разлічана насмешлівая народная форма „сэрдэшнэ“ ў прымяненні да царыцы. Для яе спецыяльна падабраны параўнанні і эпітэты.

Стыль Шэўчэнка ў даным выпадку свядома супроцьпастаўлен стылю ўрачыстай прыдворнай оды, ды і самыя прыдворныя паэты досыць недвухсэнсоўна ўпамінаюцца іменна ў гэтым кантэксце („тупорылыя віршамазы“). Сатырычныя вобразы Шэўчэнкі свядома разлічаны на тое, каб развянчаць цароў і царызм як сістэму. З гэтай мэтай Шэўчэнка іранічна паказвае вядомы помнік Пятру І („На коні сидить охляп“) без сядла (няўхлюда—*Б. К*). („у свиті—не свиті, і без шапкі: якимсь листом голова повита“). Паэт зварачаецца да гісторыі, раскрывае злачынства Пятра І і Екацярыны II, зробленыя ў адносінах да народных мас, не абыходзіцца тут і без нацыяналістычнай ідэалізацыі гетмана Полубоцько, сасланага Пятром І. Выключны паказ „деловой“ раніцы царскай сталіцы, салдат з чыноўнікамі, якія спяшаюцца „на работу“ і „з работы“ з прастытуткамі. Зноў фігуруюць і ненавісныя для Шэўчэнкі прадажныя землячкі.

Канчаецца паэма фантастычным малюнкам: цар-мядзведзь раве на прыдворных, тыя правальваюцца скрозь зямлю і, пакінуты ўсімі, страшны звер ператвараецца ў спакойнае кацянё. Наўрад ці можна гэты заключны эпізод паэмы разглядаць як праяву ў Шэўчэнкі ілюзіі, мажлівасці змянення існаваўшых тады парадкаў мірным шляхам (адмовіліся падпарадкавацца і царызм абяззброен). Скарэй справа можа ісці аб свядомым сатырычным прыёме ў плане выкарыстання народнага гратэска.

Шэўчэнка бачыў у царызме небяспечнага і моцнага ворага. Таму праз усю яго „обличительную“ лірыку і сатырычную паэзію праходзіць заклік да бязлітаснай вайны супроць царскага ладу. Гэта ідэя ляжыць у аснове другой выдатнай сатырычнай паэмы Шэўчэнкі „Каўказ“. Паэма адкрываецца магутным вобразам закаванага, але непераможанага Праметэя, які, не гледзячы на пякельныя пакуты, цвёрда верыць, што прыдзе яго час, час помсты над прыгнятальнікамі.

Праметэй паказан на фоне велічнай горнай прыроды і гэтая прырода лірычным рэфрэнам праходзіць праз усю паэму, падкрэсліваючы па прынцыпу кантраста агіднасць крывавага ўціску царызма над мірнымі горскімі народамі.

Шэўчэнка бліскуча парадыруе стыль царскага маніфеста і „казенного словословия“, паказваючы тую крывавую расправу, якая прыкрываецца елейнымі словамі пра міласлівае „покровительство“, якое перамагаецца „агнём і мячом“ народам:

За горами гори хмарою повиті,
Засіяні горем, кровію политі!
Отам то милостиві ми
Ненагодовану і голу
Застукалі сердешну волю
Та й цькуемо. Лягло костьми
Людей муштрованих чи мало.
А сльоз! а крові! Напоіть
Всіх імператорів би стало,
З дітьми і внуками втопить
В сльозах удов іх. А дівочих,
Пролитих тайно серед ночі!
А матерних горячих сльоз!
А батькових старих, кровавих!
Не ріки—море розлилось,
Огненне море! Слава! Слава!
Хортам і гончим, і псарям,
І нашим батюшкам—царям!
Слава!

У паэме „Каўказ“ Шэўчэнка дасягае вяршынь паэтычнай творчасці, падпарадкоўваючы ўсе мастацкія сродкі сваёй паэзіі аж да стылістычных прыёмаў асноўнай мэце—удару па ворагу.

За кражу, за война, за кров,—
Щоб братню кров пролити просять,
І потім в дар тобі приносять
З пожару вкраденний покров!!

Алітэрацыямі на „р“ і адпаведна падабранымі вобразамі (хмары, кроў, пажар) Шэўчэнка бліскуча перадае крывавы каларыт вядомага „пакарэння Каўказа“. Гэтымі гукавымі вобразамі паказваецца напружанасць барацьбы, веліч Праметэя, палкага барацьбіта за народную волю:

За горами гори хмарою повиті,
Засіяні горем, кровію политі!
Споконвіку Прометея
Там орел карае,
Щодень божий добрі ребра
Й серце розбивае:
Розбивае, та не вип'е
Живущої крові:
Воно знову оживае
І сміеться знову.
Не вмирае душа наша,
Не вмирае воля;
І неситий не виоре
На дні моря поле.

Вобраз барацьбіта, правадыра паўстаўшых мас праходзіць не толькі праз гераічныя, але і праз сатырычныя паэмы Шэўчэнкі. Пачынаючы з паэмы „Гайдамакі“ (Ярэма Галайда) і аж да твораў, напісаных у ссылцы („Варнак“), у розных варыянтах аднаўляецца гэты вобраз.

Вобраз барацьбіта-пратэстанта адпавядае духу паэзіі Шэўчэнкі. Яго лірычныя вершы, напісаныя ў каземаце трэцяга жандармскага аддзялення, насычаны тымі-ж эмоцыямі. Тут Шэўчэнка выступае як паслядоўны барацьбіт за рэволюцыйную дэмакратыю.

Ні з ким не поділю
Мою тюрму, мої кайдани... (1847 г.).

Праз год, у абставінах нікалаеўскай салдатчыны, Шэўчэнка, ведаючы, што ён высланы ў першую чаргу за творы, накіраваныя супроць царызма, піша цыкл выключных пародый на царскія псалмы „Цари“, дзе развенчвае самую ідэю манархізма, яе гістарычныя карэнні і абгрунтаванні. Лейтматывам гэтага цыкла застаецца ўсё той-жа заклік да ўзброенай расправы над царызмам.

Бодай кати їх постинали
Отих царів, катів людських.

Памылкова было-б думаць, што ў лірыцы Шэўчэнкі перыяда заключэння і ссылкі не было настрояў песімізма, суму па радзіме, па звычайных абставінах, пакутлівых перажыванняў, звязаных з вымушаным адрывам ад барацьбы, ад палітычнага і літаратурнага жыцця.

Але нават у самых песімістычных вершах не знойдзеце капітуляцыі перад царызмам. І варта Шэўчэнку сесці на волжскі параход, на якім ён варочаўся з ссылкі, каб з новай вастрынёй паўсталі перад ім вобразы царызма і каб з новай сілай пісаць пра цароў, фельдфебеляў, пра бога.

О, зоре ясная моя,
Ведеш мене з тюрмы, з неволі,
Як раз на смітничок Миколи,
І світиш, і гориш над ним
Огнем невидимым, святим,
Животворящим. А із гною
Встають стовпом передо мною
Його безбожнії діла...
Безбожний царю, творче зла
Правди гонителю жестокий,
Чого накоїв на землі,
А ти, всевидящее око.
Чи ти дивилося звисока,
Як сотнями в кайданах гнали
В Сибір невольників святих?
Як мордували, розпинали
І вішали? А ти не знало?
І ти дивилося на них
І не осліпло? Око, око.
Не дуже бачиш ти глибоко.
Ти спиш в кіоті, а царі—
Та цур їм, тим царям поганим,
Нехай верзуться їм кайдани.

Такое першае „прывітанне“ Шэўчэнкі „мусорнай яме“ нікалаеўскага рэжыму, пасланае проста з парахода. Нельга пераацэньваць значэння песімістычных настрояў у лірычных вершах паэта, напісаных у ссылцы і часткова пасля звароту у Пецярбург. Так-

сама нельга прыймаць за чыстую манету і тую рэлігійную фразеалогію, у прыватнасці апеляцыі да бога, якія досыць часта сустракаюцца ў яго творах, бо ў адным і тым-жа вершы звароты да бога часта змяняюцца „богохульными“ праклёнамі. Часткова гэта супярэчнасць тлумачыцца непаслядоўнасцю светапогляду паэта, элементамі сялянскага кансерватызма (божая праўда для Шэўчэнкі звычайна з'яўляецца сінонімам народнай праўды), а часткова рытарычным і палемічным прыёмам.

Як понесе з України
У сінее море
Кров ворожу... О тоді я
І лани, і гори—
Все покину, і полину
До самого бога
Молитися... А до того—
Я не знаю бога.
(„*Як умру то поховайте*“ *1847 г.*).

Лірыка Шэўчэнкі цесна звязана з яго соцыяльнымі матывамі. Невыпадкова ў каземаце поруч з творамі, дзе паэт заяўляе пра сваю гатоўнасць да канца змагацца з царызмам, ім створаны класічныя вобразы сялянскай ідыліі, накшталт „Садок вишневий коло хати, хрущи під вишнями гудуць“, ці лірычныя кампазіцыі на матывы народных песень „Ой одна, я одна, як билиночка в полі“ і іншыя. Паэтычныя вобразы украінскай прыроды і сялянскага быту для Шэўчэнкі былі звязаны з мастацкім увасабленнем ідэала прыгожага, справядлівага жыцця, якое можа і павінна ўстанавіцца пасля знішчэння паноў і іншых прыгнятальнікаў народу.

Між горами старий Дніпро,
Неначе в молоці дитина,
Красується, любується
На всю Україну.
А понад ним зеленіють
Широкії села;
А у селах у веселих
І люди веселі,
Воно б, можэ, так і сталось,
Якби не осталось
Сліду панського в Україні...

У перыяд заключэння і ссылкі Шэўчэнка працягваў развіваць асноўныя жанры сваёй паэзіі. Да гэтага перыяда адносіцца шэраг гістарычных паэм, твораў, прысвечаных класавай барацьбе і быту прыгоннай вёскі („Москалева криниця“, „Марина“, „Варнак“), серия сатырычных вершаў, накіраваных супроць паноў, цароў і супроць бога.

Шэўчэнка шмат працуе над народнымі матывамі і вобразамі, увасабляе іх у лірычныя і гумарыстычныя песні. Паколькі аб гэтых жанрах паэзіі Шэўчэнкі ўжо гаварылася, варта больш падрабязна спыніцца на аналізе лірыкі Шэўчэнкі гэтага перыяда.

Трэба адзначыць, што ў большасці выпадкаў лірыка Шэўчэнка украінскімі літаратуразнаўцамі недаацэньвалася. Да паэта падыходзілі галоўным чынам як да выразніка пэўных ідэй, ігнарыруючы

мастацкі бок яго творчасці. Не абыходзілася пры гэтым і без вульгарнага соцыялагізма. Надзвычайныя лірічныя вершы пра дзявочую любоў, пра разлуку з мілым атрымала, напрыклад, такую падкрэслена „соцыялагічную“ інтэрпрэтацыю: у царскай сталіцы, сярод ненавісных яму паноў, пад пастаяннай пагрозай шыраеўскіх *) нагаек, ён усё больш пераносіцца думкаю ў Кірылаўку, і да тых, хто яго можа зразумець і спачуваць яго горкім пакутам у наймах. Гэты стогн—плач прыгнечанага панскім ботам прыгоннага пранізвае ўвесь твор, у якім Шэўчэнка ў матывах народнай песні (сум дзяўчыны па сваім каханым) вылівае прыгоннае „горе—бедствование“. Выключны верш, прасякнуты характэрным для Шэўчэнкі пяшчотным лірызмам, які раскрывае прыгажосць душы яго героя (у даным выпадку сялянскай дзяўчыны), інтэрпрэтыруецца як нікчэмная публіцыстычная і па сутнасці не рэволюцыйная, а слязліва-народніцкая схема „горя бедствования“.

Ды і сапраўды, ці-ж да тупога вульгарызатара можа „дайсці“ мастацкая прыгажосць народных паэтычных вобразаў, якія паказваюць лірычныя перажыванні сумуючай дзяўчыны:

Витре буйний, витре буйний.
Ти з морем говориш,—
Збуди його, заграй ти з ним,
Спитай сине море.
Воно знае, де мій милий,
Бо його носило;
Воно скаже, сине море,
Де його поділо.

У Пецярбургскім каземаце і ў Орэнбургскіх стэпах з асабліваю сілаю паўстаюць перад паэтам вобразы пакінутай (магчыма на век) Украіні. У глыбока народных па сваёй прыродзе лірычных матывах Шэўчэнка гэтага перыяду—шмат суму: дзяўчына садзіць каліну на магіле памёршага жаніха, апусцелая хата стаіць там, дзе яшчэ нядаўна жыла шчаслівая сялянская сям‘я, раніцою навабранцы ідуць на прызыў, пакідаюць родных, любых дзяўчат. Усе гэтыя сумныя карціны навеяны рэальнай рэчаіснасцю. Больш таго, лірыка Шэўчэнка часта аўтабіяграфічна, таму і вершы яго робяць уражанне сапраўднага, узятага з жыцця, дакумента.

Брати на панщину ходили,
Поки лоби ім поголили.
А сестри... Сестри. Горе вам,
Мої голубкі молодії.
Для кого в світі живете?
Ви в наймітах виросли, чужії,
У наймах коси побіліють,
У наймах, сестры, й умрете.

Аўтабіяграфічныя матывы лірыкі Шэўчэнкі выразна паказваюць прыроду яго лірычных вобразаў наогул, у прыватнасці карцін народнага гора, якімі так багата гэтая лірыка. Сапраўды вуснамі паэта гаварыла мільённае сялянства, пачуцці якога з незвычайнай праўдзівасцю і мастацкай сілай увасоблены ў творчасці вялікага паэта.

*) Прозвішча падрадчыка—маляра, у якога працаваў Шэўчэнка.

Ĭ ўсё-ж не толькі з горкасцю, але і з любоўю ўспамінаў Шаўчэнка Украіну, яе прыроду, ствараў вобразы герояў-сялян. Лірычныя вобразы радзімы ў Шаўчэнкі часта асацыіраваліся з думкамі пра страчаную свабоду, пра немажлівасць працягваць барацьбу.

Думи мої, думи мої.
Ви мої едині.
Не кідайте хоч ви мене
При лихій годині.
Прилітайте, сизокрилі
Мої голуб'ята,
Із-за Дніпра широкого
У степ погуляти
З киргизами убогими.
Ĭ вони убогі,
Ужэ голі... та на волі
Ще моляться богу,
Прилітайте ж, мої любі,
Тихими речами
Привітаю вас, як діток,
І заплачу з вами.

Лірычныя украінскія пейзажы супроцьстаўляюцца паэтам цяжкай тупой абстаноўцы салдатчыны і той беднай прыродзе, якая яго акружала. І гэты кантраст яшчэ больш падкрэслівае багацце эмацыянальнага гучэння лірыкі паэта.

Неначе злодій, поза валами
В неділю крадуся в поле;
Талами вийду понад Уралом
На степ широкий, мов на волю,
І болящее, побите
Серце стрепенеться,
Мов рибонька над водою,
Тихо усміхнеться,
І полине голубкою
Понад чужим полем,—
І я нібы оживаю
На полі, на волі...
І на гору високую
Вихожу, дивлюся,
І згадаю Украіну—
І згадать боюся.
І там степи, і тут стэпи,
Та тут не такії:
Руді, руді, аж червоні,
А там голубії,
Зеленії, мережані
Нивами, ланами,
Високими могилами,
Темними лугами.

(„*А. О. Козачковському*“).

Ссылка цяжка адбілася на Шаўчэнка, аднак яна не зламала яго як паэта і рэволюцыянера. Настроі суму не перараслі ў яго паэзіі ў песімізм. Ĭ ў самой ссылцы, і ў асаблівасці пасля звароту ў Пецярбург Шаўчэнка прадаўжае выступаць як „паэт-обличитель“, як трыбун сялянскай рэволюцыі.

Да пецярбургскага перыяду (1858 г.) адносіцца выдатны верш Шэўчэнкі, які заклікае да ўзброенага паўстання супроць царызма.

Добра не жди.
Не жди сподіваної волі—
Вона заснула: цар Микола
її приспав. А щоб збудить
Хиренну волю, треба миром,
Громадою обух сталить,
Та добра вигострить сокиру,
Та й заходиться вже будить.

Але поруч з вершамі, прасякнутымі пафасам барацьбы, захоўваецца ўсё эмацыянальнае і паэтычнае багацце лірыкі паэта, якая перадае яго сум па ідэальнаму жыццю.

Посажу коло хатини,
На вспомин дружині,
І яблуньку, і грушеньку,
На вспомин єдиній.
Бог дасть, виростуть. Дружина
Під древами тими
Сяде собі в холодочку
З дітками малими,
А я буду груші рвати,
Діткам подавати...
З дружиною єдиною
Тихо розмовляти:
„Тоді, серце, як бралися,
Сі древа садив я...
Щасливий я. „І я, друже,
З тобою щаслива“.

(*„Подражаніе Едуарду Сові“, 1859 г.*).

Матывы стомленасці, імкненне да адасобленасці на лоне прыроды, характэрныя для інтымнай лірыкі Шэўчэнка апошняга перыяду, зусім не сведчыць аб адрыве Шэўчэнкі ад інтарэсаў палітычнай барацьбы, аб яго замкнутасці ў коле інтарэсаў патрыярхальнага сялянскага існавання. Непасрэдна пасля „Подражанія Сові“, надрукована „Подражание Иезекиилу“, сатырычны памфлет накіраваны супроць цароў і князёў.

Той-жа матыў сялянскай ідыліі („піставлю хату і кімнату, садок-райочок посажу. Посижу я і похожу в своїй маленькій благодаті“), які адносіцца да 1860 г., ідзе непасрэдна пасля „обличительной“ лірыкі, дзе выражаецца надзея, што „буде бито царями сіянее жито“.

Да самага канца творчай дзейнасці лірыка Шэўчэнка была цесна звязана з яго соцыяльнымі ідэаламі і з барацьбою за гэтыя ідэалы. Скора перад смерцю Шэўчэнка піша пра сваё страснае чаканне „апостала правди і навукі“, які адчыніць творчасць чалавецтву. Але поруч з настроямі соцыяльнага пратэсту, поруч з заклікамі да барацьбы з ворагам, Шэўчэнка зноў аднаўляе вобразы сялянскай хаты, мірнага садочка, паэтычнай прыроды. Ужо адчуваючы канчыну, думаючы пра надыходзячае падарожжа „через

Лету бэздонную“, ён не адмаўляецца ад заўсёднага лірычнага вобраза.

Та як буду здужать,
То над самим Флегетонам,
Або над Стіксом, у раю,
Неначе над Дніпром широким,
В гаю, предвічному гаю,
Поставлю хаточку; садочок
Кругом хатини насажу.
Прилинеш ти у холодочок,—
Тебе, мов кралю, посажу.
Дніпро, Украіну згадаем
Веселі селища в гаях,
Могили—гори на степах
І веселенько заспіваем...

(*1861* г.).

Інтымная лірыка Шэўчэнкі складае адзінае цэльнае з яго соцыяльнымі матывамі. Яна нібы дапаўняе рэволюцыйную лінію яго паэзіі, увасабляючы ў мастацкай форме дадатныя ідэалы паэта. Гэтыя ідэалы не былі паслядоўнымі—у іх не цяжка ўбачыць і элементы сялянскага кансерватызма (ідэалізацыя патрыярхальнай вёскі), і элементы утопіі (расплыўчастае ўяўленне пра будучыню, як пра сялянскую рэспубліку, фэдэрацыю свабодных вёсак). З незвычайнай яркасцю і праўдзівасцю, раскрываючы душу працоўнага селяніна свайго часу, Шэўчэнка паказаў і ўласцівыя сялянству супярэчнасці. Але пры ўсіх супярэчнасцях сваёй творчасці паэт рэволюцыйнай дэмакратыі быў выдатным сапраўды народным мастаком, які прынёс у літаратуру гарачую любоў прыгнечанаму феадальна-прыгонніцкай сістэмай чалавеку, які паказаў імкненне мас да бязлітаснай барацьбы за сваё вызваленне.

Вобраз гнеўнага непрымірымага паэта-барацьбіта, як і вобраз тонкага чуллівага лірыка, назаўсёды будзе дарагім вызваленым ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту народам Совецкага саюза.

*Н. Ватацы*

# ЛІТАРАТУРА НАРОДАЎ СССР У ПЕРАКЛАДАХ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

(*Бібліяграфічны агляд за 1932—1935 г.г.*)

Адбыўшыйся ў сталіцы ордэнаноснай БССР III пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў СССР, прысвечаны пытанням паэзіі, прадэманстраваў самую цесную, самую блізкую дружбу паміж народамі СССР. „А дружба паміж народамі СССР,—гаварыў тав. СТАЛІН,—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе—народы нашай краіны будуць свабодныя і непераможныя". Гэтая дружба знайшла сваё выражэнне і ў тых клопатах, якімі былі акружаны пісьменнікі братніх народаў нашага Саюза з боку партыйных і грамадскіх арганізацый, з боку ўрада БССР і ўсіх працоўных нашай рэспублікі. Увага і зацікаўленасць, якая была праяўлена з боку рабочых нашых заводаў і фабрык, з боку работнікаў нашых устаноў, да пленума, да майстроў мастацкага слова народаў Савецкага саюза, сведчыць аб той вялікай ролі, якую адыгрывае ў жыцці рабочага, калгасніка, служачага мастацкая кніга. Мастацкая кніга ўвайшла ў быт працоўных, стала неад'емнай патрэбнасцю кожнага будаўніка соцыялізма.

У работах пленума было ярка падкрэслена, што толькі пры дружнай дапамозе братніх літаратур адна другой, пры цесным абмене вопытам, барацьба за якасць літаратуры, за соцыялістычны рэалізм у літаратуры будзе на патрэбнай вышыні. Наш чытач хоча ведаць сваю літаратуру, сваіх лепшых пісьменнікаў і паэтаў, на якой-бы яны мове не пісалі.

Добрая мастацкая кніга, створаная на мове братняга народу Савецкага саюза, знаёміць працоўных нашай рэспублікі з жыццём, бытам гэтага народу, з яго барацьбой за соцыялізм, з поспехамі ў будаўніцтве яго культуры, эканомікі. Пераклад мастацкай літаратуры з'яўляецца адным з сродкаў абмену соцыялістычным вопытам работы паміж народамі нашага вялікага Саюза. Соцыялістычнае будаўніцтва народаў Закаўказзя, барацьба за калгасы на Кубані, на Украіне, гераічнае змаганне стаханаўцаў Данбаса, Магнітагорска,—усё гэта, паўнацэнна адлюстраванае ў мастацкай кнізе, напісанай метадам соцыялістычнага рэалізма, даходзіць да самых шырокіх рабочых і калгасных мас Беларусі, узбагачае іх

вопыт, вучыць іх ненавідзець класавага ворага, любіць нашу работу, нашы поспехі, нашу магутную радзіму.

Таксама праз мастацкую кнігу, прасякнутую інтэрнацыяналізмам і рэволюцыйнай ідэяй, знаёмяцца нашы рабочыя і калгаснікі з жыццём і рэволюцыйнай барацьбой рабочых капіталістычных краін, з гераічнай работай нашых братніх комуністычных партый, якія пад нечуваным тэрорам фашыстаў мабілізуюць масы, вядуць іх на барацьбу з капіталістамі, за пролетарскую рэволюцыю, на абарону Совецкага саюза. Праз добрую мастацкую кнігу выхоўваецца інтэрнацыянальная свядомасць мас, мацнее братняя сувязь працоўных розных нацыянальнасцей, расце нянавісць да прыгнятальнікаў і любоў да адзінай бацькаўшчыны працоўных—СССР.

І, нарэшце, пераклады мастацкіх твораў нацыянальных літаратур маюць вялікае творчае значэнне. Знаёмячыся з творамі мастакоў розных народаў, нашы пісьменнікі значна абагачаюцца літаратурным вопытам лепшых пісьменнікаў іншых нацыянальнасцей і такім чынам узнімаюць на больш высокую ступень сваю нацыянальную літаратуру. Працуючы над перакладам твораў лепшых сучасных совецкіх пісьменнікаў і класікаў, нашы пісьменнікі больш дасканала вывучаюць усю сістэму вобразаў, усю творчую практыку гэтых пісьменнікаў і ў вялікай ступені ўзбагачаюць свой уласны творчы вопыт, сваю мову, свой метад. Самы шырокі абмен соцыялістычным творчым вопытам літаратур братніх народаў, дружнае супрацоўніцтва братніх літаратур Совецкага саюза, якое ўзбагачае кожную нацыянальную літаратуру і мову, зжывае яе нацыянальную абмежаванасць.

Першая ўсесаюзная нарада перакладчыкаў (студзень 1936 г.) і III-ці пленум ССП СССР паказалі, з аднаго боку, нашы значныя дасягненні, якія ёсць у галіне перакладаў і значэнне гэтай справы, а з другога—што ў гэтай галіне ў нас яшчэ далёка не ўсё добра.

Як-жа пастаўлена справа пераклада мастацкай літаратуры ў нас, у БССР?

Не лішнім будзе ўспомніць, што справа пераклада мастацкай кнігі на беларускую мову разгарнулася толькі пры совецкай уладзе, і толькі пасля таго, як наша партыя разграміла контррэволюцыйныя арганізацыі нацдэмаў і вызваліла ад іх уплыву наша выдавецтва.

Да рэволюцыі першая перакладная мастацкая кніга на беларускай мове вышла ў 1859 г. Гэта быў „Пан Тадэўш“ А. Міцкевіча, перакладзены на беларускую мову Дуніным-Марцінкевічам і надрукаваны (лацінкай) у Вільні. Але царскай цэнзурай кніга была забаронена і знішчана раней, чым паспела разыйсціся.

З гэтага часу да рэволюцыі, на працягу амаль што 60 год (1859—1917) была выдадзена рознымі нацыяналістычнымі выдавецтвамі („Загляне сонца і ў наша ваконца“, „Наша ніва“ і інш.) 20 перакладных кніг мастацкай літаратуры. Большасць з гэтых кніг выдадзена ў Пецярбургу і Вільні. У Менску была выдадзена толькі адна перакладная мастацкая кніга ў 1914 г. (пераклад з польскага апавяданняў Ст. Жэромскага і Ст. Віткевіча).

Пасля рэволюцыі дыктатура пролетарыята на Беларусі стварыла ўсе магчымасці для буйнага развіцця соцыялістычнай культуры. Зразумела, што гэта культура магла развівацца толькі ў цеснай сувязі з соцыялістычнымі культурамі народаў Савецкага саюза і ў першую чаргу—у цеснай сувязі з рускай літаратурай.

Але нацдэмы, засеўшыя ў выдавецтвах Беларусі, усімі сродкамі тармазілі гэтую справу. З 1921 па 1924 год Дзяржаўным выдавецтвам БССР *не выдадзена ніводнай перакладной мастацкай кнігі на беларускай мове.*

Першыя пераклады мастацкай кнігі на беларускай мове, выдадзеныя Дзяржаўным выдавецтвам, з'яўляюцца толькі ў 1925 г., але і яны носяць яркі адбітак палітыкі нацыянал-дэмакратаў.

Што выдавалася ў гэтыя гады? Возьмем 1926 г.: перакладзена ўсяго 4 кнігі. Тры з іх—творы замежнай дарэволюцыйнай літаратуры і адна—нікому невядомага украінскага аўтара І. Мыслінскага—жарт пад назвай „Общепонятная“ мова“. У 1925 г. Дзяржаўнае выдавецтва выдае такія нікому невядомыя творы як „Непаслухмяныя“ нейкага Івушкі-Калінушкі, „Жаніх з Піцера“ В. Муйжэля і „Совецкі чорт“ Ю. Юрына *). Пераклад нізкаякасных твораў малавядомых пісьменнікаў меў толькі адзін сэнс, каб дыскрэдытаваць літаратуру народаў СССР у вачах працоўных БССР, каб апраўдаць сваю кулацкую арыентыроўку на капіталістычны Захад. Пра гэта вельмі дакладна сказаў тав. Галадзед на пленуме праўлення ССП СССР, што... „былі ў нас паасобныя, з дазволу сказаць, літаратары, якія імкнуліся адарваць ад рускай літаратуры літаратуру беларускую, і тым самым адарваць наша будаўніцтва ад будаўніцтва рабочага класа СССР. Яны спрабавалі паказаць, што літаратура Беларусі ўзнікла як-бы на аснове літаратуры заходня-еўрапейскай, а не на аснове рускай літаратуры. Але гэта былі тыя людзі, якія прадстаўлялі буржуазна-кулацкі беларускі нацыяналізм і імкнуліся павярнуць нашу беларускую літаратуру на пазіцыю заходня-еўрапейскага фашызма, саюз з якім яны імкнуліся ўстанавіць. Асноўная іх ідэя была не ва ўстанаўленні роданачальніка беларускай літаратуры, а ў тым, каб адарваць Беларусь ад Масквы. Пад гэтую задачу яны падганялі ўсе культурныя каштоўнасці. Але комуністычная партыя большэвікоў Беларусі паклала канец гэтым буржуазным разважанням, ліквідаваўшы ўсе гэтыя антысовецкія імкненні, адкінуўшы іх у архіў нацыяналістычных літаратур“.

Пераломным у справе мастацкіх перакладаў з'яўляецца 1928 г.—першы год першай пяцігодкі, калі партыя нанесла нацдэмам першы сакрушальны ўдар. Калі ў 1926 г. перакладная кніга складала 8,3 проц. усёй мастацкай прадукцыі (з 48 выдадзеных кніг перакладных толькі 4), дык у 1928 г. гэты процант узняўся да 47,4 (з 125 выдадзеных кніг перакладных 62). У наступныя гады гэтыя суадносіны ў асноўным захоўваюцца, і перакладная

*) З найлепшых твораў буйнейшых пісьменнікаў выдана ў 1925 г. у адной кнізе і „Песня аб сокале“ і „Песня аб Буравесніку“ Максіма Горкага, але гэта выданне не Дзяржаўнага выдавецтва, а Клімавіцкай акруговай Палітасветы.

кніга моцна ўтрымлівае занятыя ёю пазіцыі і складае прыкладна ад 30 да 50 проц. усёй выдадзенай на беларускай мове мастацкай літаратуры, з невялікімі хістаннямі ў той ці іншы бок. У 1929 і 1930 гадах яна нават перавышае колькасць арыгінальных беларускіх кніг.

Гады другой пяцігодкі праходзяць пад асноўным лозунгам барацьбы за якасць работы, за кваліфікаваныя кадры ва ўсіх галінах нашага многагранната жыцця. Гэтая барацьба знайшла сваё выражэнне і ў літаратуры. Рашэнне ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г.—вялікая гістарычная веха ў развіцці нашай літаратуры. У адказ на рашэнне партыі аб перабудове літаратурных арганізацый у пісьменніцкім асяроддзі пачалася рашучая барацьба з усім выпадковым, чужародным у літаратуры, не маючым мастацкай вартасці, за расчыстку прасторы для ўсяго сапраўды таленавітага, ідэйна і мастацкі каштоўнага. На першых парах гэта прывяло да некаторага скарачэння асобных выданняў мастацкай прадукцыі, а таксама мастацкіх перакладаў.

Але зніжэнне чыста колькасных паказчыкаў (колькасці выдаваемых назваў) ні ў якім разе не гаворыць аб спыненні росту мастацкай літаратуры. Наадварот, гэтыя гады былі гадамі буйнага развіцця нашай літаратуры. Большасць пісьменнікаў працавала над вялікімі і каштоўнымі мастацкімі палотнамі. Павысілася мастацкая якасць твораў, іх ідэйная ўзброенасць, палітычная завостранасць. Павялічыўся аб'ём кнігі, вырас тыраж у адпаведнасці з узросшымі запатрабаваннямі рабочага і калгаснага чытача. Зараз з кожным годам усё больш ідзе працэс павелічэння лістажа кнігі. Калі сярэдні памер кнігі ў 1933 г. быў 5,9 аркуша, дык у 1934 і ў 1935 гадах ён узрастае да 8 аркушоў. У 1933 г. колькасць друкаваных аркушоў-адбіткаў *мастацкай літаратуры* па БССР было **2 100 550**, у 1934—**4 543 274**, а ў 1935—**6 158 325**.

Значна ўзрасла і тыражнасць кнігі. Асабліва павелічэнне тыража мастацкай кнігі, у прыватнасці перакладной, наглядаецца з 1934 г. Калі ў 1933 г. сярэдні тыраж мастацкай кнігі на беларускай мове быў **3429** экземпляраў, дык у 1934 г. ужо **4552** экз., а ў 1935 г. ён узрастае да **5448** экз. Асобныя творы, як „Маці" М. Горкага, „Жалезны паток" Серафімовіча, „Чапаеў" Фурманава, „Паднятая цаліна" Шолахава, „Дон-Кіхот" Сервантэса і інш. выдадзены досыць вялікім тыражом (ад 5000 да 15000 экз.), прычым некаторыя з іх вытрымалі ўжо па два выданні.

Гэты сістэматычны рост тыража як нельга лепш сведчыць аб развіцці нашай літаратуры, аб паляпшэнні якасці мастацкай кнігі. Ён паказвае, што з кожным годам мастацкая літаратура ўсё больш і больш становіцца масавай. Літаратурна-калгасны паход, які шырока разгарнуўся па БССР яшчэ ў 1934 г., сведчыць, што мастацкая літаратура пранікла не толькі ў гушчу рабочых мас, але і ў шырокія масы сялянства нашай калгаснай вёскі. Таму нават значна павялічаныя тыражы часам не задавальняюць запатрабаванняў чытачоў і некаторыя кнігі цяжка дастаць у кнігарнях, нават у хуткім часе пасля іх выдання.

Самае вялікае месца ў мастацкіх перакладах БССР па праву

займае многагранная літаратура Совецкага саюза, а з саюзнай— руская.

За чатыры гады (1932—35 г. г.) у перакладзе на беларускую мову выдадзена 87 мастацкіх кніг. За гэтыя гады былі перакладзены такія творы, як „Маці„, а таксама 3-ці том п'ес і 5—6 тамы „Збора твораў“ Максіма Горкага, „Чапаеў“ Фурманава, „Жалезны паток“ Серафімовіча, „Брускі“ Ф. Панферава, дзве часткі „Цусімы“ Новікава-Прыбоя, „Паднятая цаліна“ М. Шолахова, „Я люблю“ А. Аўдзеенкі, а таксама лепшыя творы В. Вішнеўскага, Фадзеева-Стаўскага, В. Іванова, Н. Ляшко, Ф. Гладкова і іншых рускіх совецкіх пісьменнікаў. Усе гэтыя пераклады выдадзены досыць вялікім тыражом і сталі здабыткам шырокіх колаў рабочых і калгаснікаў Совецкай Беларусі. Праглядаючы пераклады рускай мастацкай кнігі на беларускую мову па гадах іх выдання відаць, што справа перакладу, падбору твораў для перакладу паляпшаецца з кожным годам. Што мы мелі ў 1932 годзе? Колькасныя лічбы перакладаў з рускай літаратуры высокія (38 назваў). Але вялікую частку складаюць пераклады мала вядомых аўтараў. У выданнях 1932 г. цяжка яшчэ ўлавіць планавасць. За гэты год выдадзена многа перакладаў рускіх совецкіх пісьменнікаў, але нельга сказаць што перакладалася самае асноўнае, самае цікавае, што дала нам руская совецкая літаратура. Было выдадзена цэлы шэраг малавядомых твораў, як „200.000 вольт“ Л. Цыноўскага, „Апавяданне пр... краўца Ярошына“ Р. Дальняга і шмат іншых. Перакладаліся і вы... даваліся часам кнігі, якія ў арыгінале атрымалі рэзка адмоўны водзывы (Алексееў, „Большэвікі“).

З 1934 года, асабліва пасля Ўсесаюзнага з'езда совецкіх піс... меннікаў, справа падбору для перакладаў рускай совецкай літара... туры значна палепшылася. У рабоце адчуваецца большая плана... васць, прадуманасць. Так, калі раней былі толькі асобныя разро... неныя пераклады творчасці М. Горкага, дык у 1934 г. Дзяржаўна... выдавецтва пачынае работу над выданнем збора твораў Аляксе... Максімавіча і ў канцы 1935 г. выпускае два томы (5—6). Калі ране... выдавецтва гналася за як мага большай колькасцю новых назва... дык зараз у яго рабоце адчуваецца большы ўлік запатрабавання чытача. Таму ўзрасла колькасць перевыданняў лепшых твора... рускай совецкай літаратуры, якіх патрабуе чытач.

Але, не гледзячы на гэта, нельга не адзначыць, што рабо... ідзе яшчэ недастаткова аперацыйна. Чым, напрыклад, можна тл... мачыць такі позні выпуск перакладa выдатнага твора ордэнанос... Нікалая Остроўскага „Як гартавалася сталь“? На заводах і фа... рыках, у калгасах, школах і ўстановах, рабочыя і калгаснік... студэнты, служачыя,—усюды наладжваюць лекцыі і калектыўну... чытку гэтага твора. Кожны рабочы і калгасны чытач бібліятэ... жадае прачытаць раман Остроўскага і патрабуе яго, але дастаі... яго нават у Менску было надзвычай цяжка. І пры такім ст... новішчы Дзяржаўнае выдавецтва і Праўленне Саюза совецк... пісьменнікаў БССР не паклапацілася своечасова перакласці выда... ную кнігу (вышла з друку толькі ў лютым 1936 г.).

Таксама своечасова не выдадзена ніводнай кнігі І. Эрэнбур...

(„Дзень другі" і „Не пераводзячы дыхання" выдаюцца толькі ў 1936 г.). Толькі ў 1936 г. выйшаў з друку „Ціхі Дон" М. Шолахава; адсутнічае „Петр І" Ал. Талстога, які ўжо ёсць на многіх мовах (украінскай, грузінскай і інш.). Нічога не перакладзена з творчасці такога гіганта рускай совецкай паэзіі, як Владзімір Маякоўскі (калі не лічыць асобных урыўкаў і вершаў, якія змяшчаліся ў перыодыцы і ў анталогіі рускай совецкай паэзі). Але, улічваючы гэтыя недахопы, мы ўсё-ж бачым, што ў галіне перакладаў рускіх совецкіх аўтароў, асабліва за апошнія два гады, зроблена многа, перакладзены лепшыя творы совецкай літаратуры, якія сталі шырока даступны працоўным БССР.

Наступнай групай па колькасці выданых кніг з'яўляюцца пераклады з украінскай совецкай літаратуры (13 назваў). Мы маем пераклады такіх твораў, як „Націск" А. Кірыленка, „Шляхамі ўзбочнымі" Загаруйка, „Вуркаганы" І. Мікітэнка, „Хворыя ачуняюць" К. Гардзіенка і інш. Але трэба сказаць, што гэтага недастаткова і што перакладзена з украінскай літаратуры не самае асноўнае, лепшае. Мала таго, за перыяд з 1932 па 1935 г. у галіне перакладаў украінскай літаратуры ў БССР былі буйныя прарывы, факты страты класавай пільнасці. Так у 1932 г. перакладзена і выдадзена кніга контррэволюцыянера Рыгора Эпіка „Сустрэчы" (пераклад В. Жылкі). Да сёнешняга дня ў беларускай літаратуры не прадстаўлены лепшыя імёны літаратурнай Украіны. Такія буйныя імёны, як Паўло Тычына, І. Мікітэнко, Л. Первамайскі, М. Рыльскі, О. Карнейчук, І. Качэрга, В. Галоўка, П. Панч, Ю. Яноўскі, Бажан і іншыя або зусім засталіся па-за ўвагай беларускіх перакладчыкаў, або прадстаўлены мала, найменш вядомымі сваімі творамі (напр. І. Мікітэнко). За 1934 і 1935 гады мы наогул не маем перакладаў з украінскай літаратуры асобнымі выданнямі. Не сыстэматызаваныя, раскіданыя па часопісах і газетах пераклады, якія сустракаліся ў прэсе за гэтыя гады, не могуць задаволіць масавага чытача. Трэба спадзявацца, што работа пленума праўлення ССП СССР не пройдзе дарам і ў галіне азнаямлення з украінскай літаратурай і што тыя асобныя пераклады, змешчаныя ў перыядычным друку напярэдадні пленума, не будуць апошнімі, што скора мы атрымаем пераклады буйных твораў літаратуры совецкай Украіны не ўрыўкамі, а асобнымі выданнямі і зборнікамі.

Дрэнная справа ў нас з перакладам яўрэйскай літаратуры. На беларускай мове за гэтыя гады мы маем толькі некалькі разрозненых твораў („Юліўс" Даніэля, „Стрыечныя браты" І. Рабіна, „Чалавек з вінтоўкай" Годынера і інш.), якія не даюць уяўлення аб яўрэйскай совецкай літаратуры. Такія буйныя фігуры, як І. Харык, Маркіш, Бергельсон і інш. адсутнічаюць у перакладной беларускай літаратуры.

Таксама мала ў нас перакладаў з польскай літаратуры. За разглядаемыя гады асобнымі выданнямі мы маем толькі чатыры пераклады, прычым у асноўным яны выдадзены ў 1932 г. (2 кнігі) і ў 1933 годзе выдана дзве (калі лічыць памечаную 1932 годам, але фактычна выдадзеную ў 1933 г. кнігу „Выбраных вершаў" С. Стандэ), а ў наступныя гады і зусім няма. Перакладзены

за гэтыя гады кнігі: „Выбраныя вершы“ Стандэ і „Палю Парыж“, „Слова пра Якуба Шэлю“ і „Сын рыкшы“ Бруно Ясенскага.

Наступныя, таксама немалая па колькасці ў нас група літаратуры—пераклады твораў рэволюцыйных пісьмннікнў капіталістычных краін.

У перакладах на беларускую мову мы маем такіх аўтараў, як нямецкія пісменнікі-комуністы Віллі Брэдэль, І. Бэхер і Г. Мархвіца, венгерскі комуніст Бела Ілеш, латышскі пісьменнік Леонард Лайцен і інш. Але некаторыя буйныя пісьменнікі капіталістычных краін усё-ж зусім не прадстаўлены ў беларускай літаратуры. Так, Анры Барбюса чамусьці пераклалі толькі публіцыстычны твор „Расія“ (у 1931 г.) і кніжку „Розныя факты“ (1929 г.), якія зусім не з'яўляюцца лепшымі кнігамі гэтага вялікага пісьменніка. Выдатнага твора А. Барбюса „Агонь“ на белмове няма. Зусім няма ў перакладах на беларускую мову твораў Ромэн Ралана і іншых рэволюцыйных пісьменнікаў Захада.

У 1935 г. у галіне перакладаў твораў замежных рэволюцыйных пісьменнікаў зроблена надзвычайна мала. Выдадзена толькі адна кніга „Мір“ нямецкага рэволюцыйнага пісьменніка Э. Глезера.

Апошняя (па месту, а не па значэнню) галіна перакладной работы, аб якой неабходна гаварыць, гэта засваенне літаратурнай спадчыны, пераклад твораў класікаў рускай і сусветнай літаратуры. Тут не месца, да і не трэба гаварыць аб значэнні гэтай работы. Адно патрэбна сказаць, што зроблена ў нас у гэтай справе надзвычай мала.

Скора народы Совецкага саюза будуць адзначаць стагоддзе са дня смерці вялікага рускага паэта Александра Пушкіна. Урад і партыя стварылі спецыяльны Пушкінскі камітэт па правядзенню гэтага святкавання, а ў нас на Беларусі дагэтуль не выдадзена ніводнай кнігі Пушкіна, калі не лічыць зусім выпадковых перакладаў асобных урыўкаў, якія друкаваліся ў розных перыядычных выданнях і бясспрэчна недаступных масаваму чытачу. На беларускую мову нічога не перакладзена з твораў Лермантава, Гоголя, Некрасава, Шэўчэнка, Ганчарова і іншых нашых класікаў.

Аб класіках сусветнай літаратуры і гаварыць няма чаго. Тут работа амаль што не пачыналася аж да 1935 г.

З рускіх класікаў некалькі пашчаслівілася Л. Талстому, Чэхаву, Дастаеўскаму, Караленка (аб Горкім мы гаварылі вышэй). Ужо простае супастаўленне аўтараў, якіх перакладалі, ясна гаворыць аб тым, што ў гэтай галіне панаваў поўны самацёк, выпадковасць. Такое ўражанне ўзмацняецца яшчэ больш, калі пераглядаеш, што перакладзена з твораў гэтых пісьменнікаў. Л. Талстога перакладзены толькі „Хаджы Мурат“, і „Палікушка“; Дастаеўскага— „Бедныя людзі“, Віктора Гюго чамусьці толькі ўрывак з яго рамана „Адвержаныя“ і т. д. Перакладалася не асноўнае, найбольш характэрнае для таго ці іншага класіка, а тое, што трапляла пад руку, выпадковае. Некаторы зрух у гэтай галіне пачаўся толькі ў 1935 г. Вышлі ў свет упершыню на беларускай мове раманы

І. Тургенева—„Рудзін“ і „Дваранскае гняздо“ і В. Шэкспіра—„Гамлет“.

Але гэта толькі першыя ластаўкі: яны ні ў якім разе не вырашаюць пытання, і запатрабаванні мас працоўных Беларусі ў творах класікаў яшчэ далёка не задаволены нават і ў малой ступені. Не вырашаюць гэтай справы і выдадзеныя ў 1936 г. (за 4 месяцы „Жаніцьба Фігаро“ Бомаршэ і „Прыгоды Тома Соера“—Марка Твэна).

Зроблены пералік колькасці прадстаўленых літаратур ужо паказвае, што літаратура Совецкага саюза прадстаўлена на беларускай мове няпоўна. Калі пераклады з рускай літаратуры ў асноўным знаёмяць з лепшымі ўзорамі совецкай літаратуры, дык гэтага нельга сказаць пра падбор для перакладаў твораў украінскіх, яўрэйскіх і польскіх. Адным з істотнейшых недахопаў справы мастацкага перакладу ў БССР з'яўляецца адсутнасць літаратуры раду народаў СССР. Перакладных кніг з грузінскай, армянскай і другіх нацыянальных літаратур мы проста не маем. Штуршок у гэтай справе дан у 1935 г. абменнымі брыгадамі грузінскіх і беларускіх пісьменнікаў, а таксама прыездам ужо ў 1936 г. армянскага паэта Наіры Зар'яна ў Менск.

Значным недахопам нашай перакладной мастацкай прадукцыі трэба лічыць і амаль поўную адсутнасць перакладаў паэзіі (калі не лічыць асобных вершаў і ўрыўкаў, змешчаных у перыодыцы і выдадзенай „Анталогіі рускай совецкай паэзіі“). Такое становішча з перакладамі паэзіі тлумачыцца відавочна тым, што культура перакладаў у нас яшчэ недастаткова высокая.

Але калі мы гаворым пра адбор літаратуры для перакладаў, мы можам канстатаваць бясспрэчныя дасягненні. Безумоўна, за апошнія гады палепшыўся падбор літаратуры для перакладаў. Калі яшчэ ў 1932—1933 г.г. выдаваўся цэлы рад мала вядомых твораў, якія не з'яўляюцца тым лепшым, што стварыла совецкая літаратура, дык за 1934—1935 г. у асноўным выданы сапраўды высокамастацкія творы. Рускія совецкія празаікі досыць удала паказаны ў перакладах на беларускую мову. Лепшыя творы выдаюцца паўторнымі выданнямі. Усё гэта гаворыць аб тым, што справа пераклада мастацкай літаратуры развіваецца, расце.

З другіх праблем перакладной работы неабходна зрабіць некалькі заўваг аб якасці перакладаў і перакладчыках. Добрым паказчыкам у барацьбе за якасць перакладу з'яўляецца зніжэнне колькасці вольных перакладаў. Да 1932 г. вольны пераклад на беларускую мову быў звычайнай з'явай. Зараз у асноўным мы маем пераклад дакладны. Не гаворачы зараз аб якасці гэтых перакладаў, трэба аднак з прыемнасцю адзначыць гэтую справу, бо дакладны пераклад ёсць адна з умоў барацьбы за добры мастацкі адэкватны пераклад.

Велізарную ролю ў галіне мастацкага перакладу адыгрывае справа падбору кваліфікаваных перакладчыкаў. Справа мастацкага перакладу павінна, безумоўна, быць у руках мастака—паэта або празаіка, прычым пісьменнікаў, сур'ёзна займаючыхся перакладамі. Таму трэба вітаць нашых пісьменнікаў за тое, што яны паступова

забіраюць перакладную работу ў свае рукі. І калі ў 1932—1933 гадах амаль палова перакладаў мастацкай кнігі была зроблена не пісьменнікамі, а настаўнікамі, работнікамі Дзяржаўнага выдавецтва і іншымі непісьменніцкімі кадрамі, то ў 1935 годзе амаль усе мастацкія творы перакладзены пісьменнікамі. Гэта вялікае дасягненне для беларускай літаратуры, бо толькі мастацка-праўдзівыя пераклады сапраўды абагачаюць нашу літаратуру.

Але-ж, не гледзячы на тое, што ў асноўным мастацкія творы перакладаюцца ў нас зараз пісьменнікамі, якасць перакладаў у радзе выпадкаў яшчэ стаіць на вельмі нізкім узроўні. У нашу задачу не ўваходзіць разглядаць якасці перакладаў. Гэта спецыяльная і сур'ёзнейшая тэма. Прывядзем толькі пару прыкладаў, ужо адзначаных крытыкай. Вось як ацэньвае тав. Багун пераклад, зроблены пісьменнікам Шашалевічам раманаў Тургенева „Рудзін" і „Дваранскае гняздо": „Перакладчык, які, я бяру на сябе смеласць сказаць гэта, ніяк не можа залічыць у свой актыў грунтоўнага ведання рускай і беларускай мовы, які, відаць, не разумее ні духу, ні стылю твораў Тургенева, не ведае спецыфікі абставін, у якіх жылі і дзейнічалі героі названых тургенеўскіх твораў,—адным словам перакладчык выпадковы, адважыўшыйся ўзяцца за пераклад твораў класіка рускай дарэвалюцыйнай літаратуры, сапсаваў гэтыя творы, даў пераклад, які нельга не назваць невуцкім, халтурным перакладам" (Газ. „Літаратура і мастацтва" 1936 № 27).

На жаль прыходзіцца згадзіцца з тав. Багуном, бо тыя прыклады, якія ён прыводзіць у сваёй рэцэнзіі, яскрава пацвярджаюць яго думку. Яшчэ горшую і таксама абгрунтаваную ацэнку атрымаў пераклад кнігі вершаў А. Гідаша „Венгрыя спраўляе ўрачыстасць". А колькі такіх перакладаў прайшло зусім без увагі з боку друку? Нічога не пісалі, напрыклад, аб перакладзе выдатнага рамана Горкага „Маці", выданым у 1935 г. (Пераклад пад рэдакцыяй М. Лынькова, імя перакладчыка не адзначана), а аб ім ёсць што сказаць. Адзін таварыш прагледзеў пераклад рамана „Маці" і прышоў да яшчэ горшых вывадаў. Вось некаторыя прыклады, якія прыводзіць гэты таварыш. Самы просты сказ у Горкага: „Стоять с закрытыми глазами ей было *невыносимо страшно*. Словы „невыносимо страшно" перакладзены: „у яе не было трывання". У другім мейсцы ў М. Горкага сказана: „Эту песню пели тише других, но она звучала сильней всех и обнимала людзей, как воздух мартовского дня *грядущей* весны". А ў перакладзе: „Гэту песню спявалі цішэй, але яна гучэла мацней, чым усе і абымала людзей, як паветра сакавікоўскага дня—першага дня вясны" (42 старонка). Перакладчык выкінуў словы „грядущая" (для якога ёсць вельмі добра адпаведнае ў беларускай мове слова „надыходзячая") і выхаласціў баявы змест са слоў Горкага, бо бясспрэчна „грядущая весна" сімвалізавала ў Горкага надыходзячую рэвалюцыю, перакладчык-жа звёў да простага абывательскага разумення вясны. Словам *збянтэжыцца, збянтэжыць, збянтэжаны,* перакладчык замяняе наступныя словы рускага тэксту: *растерянно, огорошило, подавленно, смятенная, удивленная, смущенная.* Такіх прыкладаў шмат, амаль на кожнай старонцы. Перакладам рамана „Маці" Гор-

кага павінна зацікавіцца крытыка і прысвяціць аналізу і ацэнцы гэтага нізкаякаснага перакладу спецыяльную грунтоўную рэцэнзію.

Увогуле вялікую ролю адыгрывае ў справе стварэння добраякаснага мастацкага перакладу, як і ў справе стварэння мастацкага твору наогул, літаратурная крытыка, крытыка мастацкага перакладу. Да гэтых пор пераклад мастацкага твора быў у нас за малым выключэннем па-за крытыкай. Пісьменнікі ў сваім асяроддзі гавораць аб недахопах асобных перакладаў, аб удалых перакладах, але да чытача гэта не даходзіла. Вось, напрыклад, тав. Клімковіч на першай усесаюзнай нарадзе перакладчыкаў, як прыклад зрыву ў галіне перакладу, прыводзіць пераклад „Паднятай цаліны". Але чытачы і на сёння не ведаюць у чым гэтыя зрывы, бо тав. Клімковіч толькі прывёў, як прыклад, але не растлумачыў у чым справа („Литературная газета" № 1 за 1936 г.). Пакуль мы не створым сапраўднай большэвіцкай крытыкі мастацкага перакладу, не перакінем маста паміж майстэрняй пісьменніка-перакладчыка і масавым чытачом, справа мастацкага перакладу не перастане быць саматужнай. Таму стварэнне крытыкі мастацкага перакладу з'яўляецца адной з адказнейшых чарговых задач Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

Мастацкі пераклад—вялікая творчая работа. Нам неабходна дабіцца таго, каб савецкі чытач ведаў і любіў сваіх лепшых перакладчыкаў так, як ведае і любіць сваіх лепшых пісьменнікаў і паэтаў, ведаў так, як мы ведаем, напрыклад, выдатнага перакладчыка мінулага Жукоўскага. Трэба знішчыць такое становішча, калі Выдавецтва, якое са згоды перакладчыка, або без яе, мае прывычку не ўказваць на кнізе яе перакладчыка. Нельга тлумачыць гэтыя выпадкі недаглядам Выдавецтва, бо такіх выпадкаў занадта многа. Хіба ведае, напрыклад, хто з чытачоў, кім перакладзен твор Ф. Панферава „Цвёрдым поступам" (1935 г.) або А. Серафімовіча „Жалезны паток" (1935 г.), „Маці" М. Горкага (1935 г.), трэцяя кніга рамана „Тыса гарыць" Бел Ілеш і шмат інш. Гэта сыстэма замоўчвання перакладчыка прыводзіць да таго, што, па-першае, чытач не ведае сваіх пісьменнікаў-перакладчыкаў, а, па-другое, вядзе да зніжэння якасці перакладаў, грае на руку нядобрасумленным перакладчыкам. Вось, напрыклад, у 1933 г. быў выдан ананімны пераклад кнігі вершаў Анатолія Гідаша „Венгрыя спраўляе ўрачыстасць". Пераклад быў правільна раскрытыкаван у газ. „Літаратура і мастацтва". Пераклад скажае змест вершаў А. Гідаша. Не гледзячы на такія ўрокі, Выдавецтва яшчэ і на сёння выдае ананімныя пераклады. (Эрэнбург „Дзень другі"—1936 г.). А калі на кнізе і ўказан перакладчык, дык звычайна занадта ўжо скромна, на другім баку загалоўнай старонкі (Ф. Гладкоў „Энергія", Н. Гарніч „Бацька Бажэнка", А. Фадзееў „Апошні з Удэге" і шмат інш). Пара ўжо Выдавецтву знайсці для перакладчыка больш пачэснае месца на старонках кнігі.

Але бываюць у практыцы Выдавецтва яшчэ горшыя выпадкі, калі яно наогул не кажа, што кніга перакладная. Так, кніга англійскай пісьменніцы Войніч „Авадзень", выданая на белмове ў 1934 г., па думцы Выдавецтва відаць напісана на беларускай

мове, бо нідзе не адзначана, што кніга перакладная. Тое самое з кнігамі Г. Флобера „Ля сцен Карфагена“, з кнігай „П‘есы“ М. Горкага (1934 г.), з „Гамлетам“ В. Шэкспіра (1935 г.).

***

Вялікае значэнне пры выданні перакладной літаратуры (як і арыгінальнай) мае падача чытачу літаратурнага матэрыялу, культурная яго арганізацыя. Сюды належыць размяшчэнне матэрыялу, акцэнтыраванне на самым галоўным, асноўным у кнізе, падача тэксту ў зразумелай чытачу форме (пытанне прадмоў, уводных артыкулаў, даведачнага апарата кнігі і т. д.). Словам, падача ма саваму чытачу твора ў такім выглядзе, каб твор чытаўся лёгк і быў правільна зразумет чытачом.

Разглядаючы перакладную мастацкую прадукцыю БССР з гэ тага пункту гледжання, прыходзіцца жадаць значна большага У асноўным наша Выдавецтва прытрымліваецца выдання арыгінала не ўлічваючы спецыфікі свайго чытача. Так, калі ў арыгінале скажам, ёсць прадмова, ДВБ таксама змяшчае яе, а вось калі я ў арыгінале няма, то як правіла і на беларускай мове яе не будзе хоць беларускі чытач зусім незнаём ні з пісьменнікам, ні з творам Возьмем, напрыклад, раман нямецкага пісьменніка Віллі Брэдэл „Розенгофская вуліца“. У арыгінале да яго змешчана прадмова Курта Клебера: перакладчык сумленна перакладае і яе. Тое самае ў кнізе Г. Мархвіца „Штурм Эссэна“ і інш. У кнізе-ж Э. Глезера „Мір“ чамусьці няма ніякай прадмовы, не гледзячы на тое, што беларускаму чытачу аўтар зусім яшчэ не вядомы. Відаць прад мовы няма толькі таму, што яе няма ў арыгінале.

Чаму-б не расказаць чытаму аб тым, хто такі Глезер, не ахарактарызаваць гістарычных падзей, якія не заўсёды правільна паказваюцца вядомым нямецкім рэволыцыйным пісьменнікам Эрн стам Глезерам. Не дрэнна было-б ведаць чытачу, што аўтар гэтай кнігі—гарачы прыхільнік савецкай краіны, што, будучы ўдзель нікам міжнароднай канферэнцыі рэволюцыйных пісьменнікаў, ён катэгарычна заявіў: „Шмат хто гаварыў: „Рукі прэч ад СССР“. Сёння я ўжо не паўтараю гэтых слоў. Я гавару інакш: „Усе рук за Савецкі саюз“. Такія весткі аб аўтары прыцягнулі-б увагу чытача да яго твора і дапамаглі-б глыбей разабрацца ў ім.

Або возьмем выданую юндзестектарам ДВБ у 1935 г. кнігу Сервантэса „Дон-Кіхот“. Кніга выдана ў БССР упершыню, пер шым выданнем і таму павінна быць разлічана не толькі на школь ніка, але і на масавага чытача. Яна сапраўды выдана масавым тыражом—15 185 экз. Даваць масаваму чытачу, часта пачынаючаму толькі знаёміцца з мастацкай літаратурай, кнігу, напісаную калі 4-х стагоддзяў таму назад, без адзінага ўступнага слова—значыць проста дэзарганізаваць чытача. У кнізе нават пад партрэтам аўтара не пастаўлены даты жыцця Сервантэса. У шматлікіх рускіх выданнях „Дон-Кіхота“ прадмовы ёсць і адпаведныя даведкі (выд. Academia“, „Молодая гвардия“ і інш.), а на беларускай мове мы маем першае выданне і, не гледзячы на гэта, яно выдаецца без

усякай прадмовы. Без уводных артыкулаў выданы творы І. С. Тургенева „Рудзін" і „Дваранскае гняздо", „Тыль Уленшпігель" бельгійскага пісьменніка де-Костэра і інш.

Знаёміць чытача з аўтарам варта было-б не толькі ў выпадках, калі выдаюцца пераклады класічнай спадчыны і замежных рэвалюцыйных пісьменнікаў. Можна і неабходна знаёміць чытача з жыццём і дзейнасцю савецкіх пісьменнікаў. Калі, напрыклад, выдавалася кніга В. М. Бахмец'ева „Людзі і рэчы", Выдавецтва магло коратка расказаць чытачу аб тым, што Уладзімір Бахмец'еў—стары большэвік, былы рабочы, што ён прайшоў цяжкі і слаўны шлях падпольнай работы і быў удзельнікам апісанай у апявяданнях барацьбы.

Каштоўнейшая работа была праароблена беларускімі паэтамі па перакладах твораў рускіх савецкіх паэтаў. У перакладах удзельнічалі нашы лепшыя мастакі слова. А вось да канца работы не давялі. Задача „Анталогіі рускай савецкай паэзіі"—азнаёміць беларускага чытача на яго роднай мове з лепшымі ўзорамі савецкай паэзіі і з яе прадстаўнікамі. Для афармлення такога выдання мэтазгодна змясціць перад раздзелам твораў кожнага паэта кароткія даведкі аб жыцці і дзейнасці паэта. Такім чынам пабудавана „Антология Белорусской советской литературы", выданая ў Маскве 1934 г.), якая сваімі прадмовай і даведкамі аб пісьменніках БССР дапамагае азнаёміць рускага чытача з лепшымі імёнамі беларускай савецкай літаратуры. Значна выйграла-б ад такой пабудовы і кніга „Анталогія рускай савецкай паэзіі".

Недастаткова сур'ёзна паўстаўлена яшчэ ў нас справа з даведачным апаратам кнігі. Як правіла, творы класічнай спадчыны выдаюцца масавымі тыражамі, нават без тлумачэння незразумелых чытачу слоў, падзей, імён, што сустракаюцца ў тэксце. Так, напрыклад, выданы творы І. С. Тургенева „Рудзін" і „Дваранскае гняздо", а ў творах Тургенева сустракаецца шмат не зусім зразумелых для сучаснага чытача слоў (напрыклад: „інсургент" „казачок" і інш.), а таксама невядомых шырокаму колу чытачоў гістарычных імён і падзей (напр. імёны Арастафана, Беттіны фон Арнім, Ла-Рошфуко Франсуа, інш.).

Нават самае тэхнічнае афармленне кнігі часта бывае непісьменным, што не толькі не дапамагае, але перашкаджае лёгкай арыентыроўцы чытача ў кнізе. У 3-м томе п'ес М. Горкага, напрыклад, няма элементарнейшай рэчы—зместу. У канцы 1935 г. выданы 5 і 6 томы „Збора твораў" Горкага, якія пераплецены ў адзін том, а на загалоўнай старонцы стаіць толькі 5-ты: даведвайся там, што тут два тамы, а не адзін.

Рэдка калі па загалоўнай старонцы знойдзеш усе весткі, патрэбныя чытачу. Выдавецтва звычайна не адзначае тут ні перакладчыка, ні жанра твора, ні перавыдання. Бярэш кнігу ў рукі і не ведаеш, ці гэта першае выданне, ці трэцяе. Амаль ніколі не робіцца адзнака аб тым, з якога выдання арыгінала зроблен пераклад.

Некалькі слоў аб знадворным афармленні перакладной мастацкай кнігі, аб яе мастацкім афармленні. Увогуле мастацкае афар-

мленне кнігі ў нас яшчэ надзвычайна беднае. Амаль не сустракаюцца ілюстраваныя выданні мастацкіх перакладаў, калі не лічыць некалькіх кніг з ілюстрацыямі, выданых Юндзетсектарам БДВ („Дон-Кіхот“ Сервантэса, „Айвенго“ Вальтэр Скотта і інш.). Рэдка сустрэнеш у нашых выданнях і партрэт аўтара, нават калі выдаюцца класікі. Немалое значэнне для кнігі мае яе знадворны выгляд: вокладка, пераплёт. Пераглядаючы перакладную мастацкую кнігу на беларускай мове, застаецца ўражанне бледнасці, шэрасці яе мастацкага афармлення. Пераклады афармляюцца ў нас яшчэ менш уважліва, чым арыгінальныя кнігі. Пераплятаюць у нас кнігу занадта бедна, часам груба і непрыгожа. Вазьміце, напрыклад, „Паднятую цаліну“ М. Шолахава, выданую ў 1934 г. Яе грубая белая папка з надпісам, зробленым дзіцяча-прымітыўным шрыфтам, перапаясаная бессэнсоўнай, асіметрычнай і непрыгожай плямай зялёнага колеру— не можа прыцягваць да сябе ўвагу чытача. Нельга тлумачыць грубы, непрыгожы пераплёт кнігі тым, што яна выдана танным выданнем (каштуе 3 руб.). Гэта відаць хаця-б з таго, што другое выданне „Паднятай цаліны“ (1935 г.), якое каштуе 2 руб. 30 кап., афармлена значна лепш.

Бледна, непрыгожа афармлены і „Энергія“ Ф. Гладкова, „Дзень другі“ І. Эрэнбурга і іншыя выдатныя творы савецкай літаратуры. Кніга Панферава „Цвёрдым поступам“ мае даволі прыгожую супервокладку, але пад гэтай недаўгавечнай паперкай—голая папка, ават без назвы твора на ёй. Супервокладка не павінна падмяняць вокладку, а можа толькі яе дапаўняць.

Ёсць, праўда, нядрэнныя пераплёты (напрыклад „Збор твораў“ М. Горкага, другая кніга „Цусімы“ Новікава Прыбоя і інш.). Але гэта ў асноўным цяснёныя каленкоравыя пераплёты. А вось, каб звычайная папка, або тонкая вокладка была прыгожай, свежай, арыгінальнай—гэтага не наглядаецца. Наогул, вокладкі без усякага твару, аднастайныя, без творчай думкі мастака. Ілюстрацыйных вокладак, вокладак з малюнкам амаль зусім няма. Цікава параўнаць у гэтым сэнсе нашы выданні з выданнямі УССР. Там значна большую ролю, чым у нас, адыгрывае ў афармленні кнігі мастак. У афармленні перакладной мастацкай кнігі там адчуваецца жывая ініцыятыва, жаданне зрабіць кнігу жывой, чытабельнай. Такой інцыятывы як раз не хапае ў афармленні нашых беларускіх выданняў.

* * *

Якія-ж вывады можна зрабіць са сказанага вышэй? Беларуская перакладная літаратура вырасла. Дарэвалюцыйнай спадчыны ў гэтай справе мы не мелі. Усё, што зроблена, зроблена ў гады рэвалюцыі, асабліва за апошнія гады і зроблена нямала. За апошнія чатыры гады (1932—1935) у нас прароблема вялікая работа па набліжэнню лепшых узораў літаратуры народаў СССР да працоўных Беларусі. Перакладная мастацкая кніга моцна заваявала пазіцыі ў нашых выдавецтвах, ёсць бясспрэчныя дасягненні і ў падборы аб‘ектаў перакладаў. У асноўным перакладаецца сапраўды лепшае, што дае саюзная літаратура. Ёсць некаторыя дасягненні

і ў падборы і вырошчванні кадраў перакладчыкаў. За пераклады бяруцца пісьменнікі-майстры сваёй справы. Зусім правільным з'яўляецца такое становішча, калі вядучае месца займае ў нашых перакладах старэйшая перадавая літаратура народаў Совецкага саюза—руская совецкая літаратура. Асабліва трэба падкрэсліць, што за апошнія гады лепшае з рускай літаратуры, хоць не заўсёды своечасова, перакладзена на беларускую мову і тым самым стала здабыткам шырокіх працоўных мас Беларусі.

Але, падкрэсліваючы выключнае значэнне перакладаў лепшых узораў рускай совецкай літаратуры, трэба сказаць, што перакладаў з літаратур другіх народаў СССР яўна недастаткова. Па гэтай лініі ў нас ёсць пэўныя зрывы. Асабліва нязначная колькасць перакладаў з яўрэйскай мовы, мовы ўсходніх народаў СССР і ў першую чаргу мовы народаў Закаўказскай Федарацыі, літаратура якіх стаіць у першых радах літаратуры народаў Совецкага саюза.

Таксама слабым участкам перакладнога фронту з'яўляецца ў нас пераклад паэзіі. Выданне „Анталогіі рускай совецкай паэзіі" ні ў якім разе не запаўняе брэшы на гэтым вучастку, як не запаўняюць яе і бяспланавыя, ад выпадка к выпадку, пераклады асобных твораў розных паэтаў, якія з'яўляецца ў перыядычным друку.

Безумоўна слабым вучасткам з'яўляецца работа па азнаямленню беларускага чытача з класічнай спадчынай. У гэтай галіне зроблены толькі першыя няўпэўненыя крокі; шырокае разгортванне гэтай работы з'яўляецца задачай нашага сёння.

Ва ўвесь рост стаіць перад намі пытанне якасці перакладаў. Нават выпадкова ўзнятыя пераклады сведчаць, што тут у нас занадта многа безадказнасці, лёгкадумнага падыходу і проста халтуры—з'явішча, якое трэба неадкладна знішчыць. З барацьбой за якасць перакладу цесна звязана пытанне крытыкі перакладаў. Тут у нас за малым выключэннем амаль што пустое месца. Няма ні крытыкі якасці перакладаў, ні крытыкі перакладных твораў па сутнасці.

І, нарэшце, таксама важнай з'яўляецца праблема культуры выдання перакладной кнігі (ды і не толькі перакладной). Тут трэба проста сказаць, што Выдавецтва адстае ад узросшых запатрабаванняў чытача.

Канчаючы свой агляд, нам не трэба вызначаць задачы перакладной работы, іх надзвычай добра вызначыў тав. Гікало ў сваёй прамове на пленуме праўлення ССП СССР, указваючы, што „Пленум паставіў задачу расшырыць работу па перакладах, звярнуць асаблівую ўвагу на якасць перакладаў, на прыцягненне да гэтай работы лепшых майстроў паэзіі, прозы".

Пашыраючы работу па перакладах, грунтоўна вывучаючы літаратуры братніх рэспублік сіламі лепшых пісьменнікаў—празаікаў, паэтаў, драматургаў—мы, разам з усімі нацыянальнымі літаратурамі СССР створым адзіную, магутную, соцыялістычную літаратуру, якая будзе даступна ўсім народам нашай вялікай радзімы.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## „РУЧАІНЫ“ А. Жаўрука

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, сектар мастацкай літаратуры, Менск, 1936 г., цана 2 руб.

Перад намі першы зборнік паэта. Таму яшчэ з большай цікавасцю трэба прыглядзецца да творчасці Жаўрука, вызначыць яго здольнасці, выявіць недахопы. Трэба гаварыць праўду адкрыта і шчыра, бо першыя зборнікі ў большасці выпадкаў бываюць нясмелымі спробамі паэтаў, якія яшчэ не маюць свайго ўласнага голасу. Маладыя паэты часта не адчуваюць яшчэ той велізарнай адказнасці перад сваім чытачом і няўважліва адносяцца да апрацоўкі асобных дэталяў мастацкага твора, да чыстаты і народнасці той мовы, на якой яны пішуць.

Алесь Жаўрук піша не першы год. Ужо ў 1928 г. сям-там даводзілася сустракацца з прозвішчам Жаўрука. Праўда, кніжка „Ручаіны“ кажа пра сякі-такі творчы рост Жаўрука. Але гэты рост вельмі марудны і няяскравы. На ўсёй творчасці Алеся Жаўрука ляжаць сляды правінцыялізма. Няма той высокай культуры верша, авеянага гарачым натхненнем паэта, цікавых свежых вобразаў. Некаторыя вершы стаяць не вышэй вершаў паэтаў, якія пачынаюць свае сілы ў раённай газеце.

Тэматыка вершаў Жаўрука рознастайная: пра сяброўства, пра метро, пра Палессе, пра грамадзянскую вайну і інш. Аднак кожная з гэтых тэм шырока не прачута, не распрацавана аўтарам.

Найлепшым вершам у кнізе „Ручаіны“ з'яўляецца верш „Чорнаморскі запеў“. Аўтар праяўляе свае паэтычныя здольнасці хоць-бы ў такіх радках:

Зноў узмах Чорнамор'я ў твар нам
І наш курс на Батумскі рэйд,
Дзе грамады стаяць велізарныя
параходаў з далёкіх марэй.

Аўтар расказвае пра савецкіх матросаў, прасоленых чорнаморскім ветрам, пра іх вясёлыя песні і расказвае з пэўным веданнем матэрыялу:

І наўсцяж адвячоркамі зыркімі,
Нам, салёным ад штормаў і вахт,
Палка братацца з бесказыркамі,
Ды агнёвыя песні співаць.

Больш тэхнічна апрацаваны і прачуты верш „Дняпро“. Адтар успамінае той час, калі ў Дняпры

Адыходзячы ў баі
З арцзінарцамі Будзённы
*Добрых* коней напаіў.

Канчаючы верш зазыўнымі радкамі аўтар кажа, што:

Супроць хмараў дымна-шэрых,
За радзіму, за вясну,
Зноўку станем мы у шэраг
*Старыною страсануць*. (*?!*).

Цікавым вершам у кнізе з'яўляецца таксама верш „Рэнглот“. Відаць, што прачуты матэрыял зусім інакш гучыць у зборніку, у гэтым вершы менш прымітываў, больш цікавых радкоў.

Высока сонца на поўдні стаіць,
Арцельшчыцы крочаць у цень адпачыць,
Вытокі крыніц перасохлі да дна,
Як пальма,
пад сонцам стаіш ты адна.

Але няўдалая канцоўка псуе нядрэннае ўражанне ад прачытанага:

*Таварыш, сябры мы сягоння бадай:
Абодвум нам сёння з каханнем бяда...*

Яшчэ некалькі вершаў у зборніку заслугоўваюць увагі, як напрыклад, верш „Пра сяброўства“, „Метро“.

Аднак у гэтай кароткай анатацыі мы найбольш спынімся на недахопах усёй творчасці паэта.

Цяжка знайсці кніжку, напісаную больш неахайнай мовай, як кніжка „Ручаіны“. Аўтар часта для рыфмы ўжывае рускія словы, часта калечыць слова, што яно гучыць не па-беларуску, не па-руску: „грунт уставаў з прадвечным *воем*“, „і ўставалі дзіўной *ноўю*“, „ты стрыманым *гутарам* у ноч *шаласціш*“, „каб потым ужо болей *спачын не транжырыць*“, „і слаліся *вэльмы ў раёнах* лагчын“, і т. д.

Малады аўтар Жаўрук не адчувае паэтычнай адказнасці за кожны вобраз, за

кожнае параўнанне. Ён яшчэ не мае паэтычнага разумення, разумення, якое адрознівае мастацкі вобраз ад штучна створанай бутафорыі. Гэта значыць, што ў аўтара адсутнічае паэтычная культура. Прывяду мноства няўдалых „новатвораў“ маладога паэта, каб папярэдзіць яго ў далейшым ад такога шкоднага правінцыяльнага вершаплёцтва: „і *палаў камісар*“, „*разводзе станіц*“, „слесар *выкіне* (у сэнсе выхапіць) шашку“ „у пасольскіх ложах кусаюць губы *разумныя аташэ*“, і ў думах спачатку *ўсё ізноў карадзіць*“, „як хмелем, як брагаю *голаў ядуць*“, „лепіць *веян*, слепіць *веян*“, веян ужыта ў сэнсе мяцеліца), „хто скаў, *што кроў—не лава*“, „А нас *без калон, ез птушыных сямей*, бадай *не прыдуаць* інакш“, „і пахі бензіну і палыноў злююцца *ў тонкі букет*“, „лапша і на эдкасць *чаі*“, „і вось праз хвіліну *выатных спадніц* палошча квяцісты віхор“, *доўгая смага* ў вачах“, „гаспадыня скваак нам *насмажа* і *даставіць* з клеці алака“, „*масці светлае хлапец*“, „і *па пылю* і *па крэкту* зразумела—гэта дзед“, пакуль пярсцёнкі ўюцца і *казычуць* кваркі нюх“, „хто ў пракосах першы—грэі...“ „Праз лясоў і *трапаў верхал я стэму пазнаю*“, „Зноў *гудзяць* і *сапуць* акары“, „і як нават па дарогах ўноч *кураць агані*“, „раненаму *аддзялкому* ляшку лёгкую дасі“, „*адлыну* вады і алей“.

Прыведзеных прыкладаў даволі, каб казаць, што першы блін вышаў комам. ўтар несур'ёзна аднёсся да заўваг рээктара, не выправіў шматлікіх неахайнацей у сваёй рабоце, а Дзяржаўнае вывавецтва выпусціла брак на кніжны рынак.

Ёсць проста бяссэнсныя радкі і строфы, кія іншы раз перадаюць адваротны сэнс. У вершы „Брыгадзір“ на стар. 37 ёсць такая страфа:

„І вось, падміргнуўшы музыкам:
„жывей!“
Ён упару выводзіць сабе
Ударніцу і весялуху
на ўвесь
Калінінскі сельскі совет.
І тут, як усюды, ён ставіць рэкорд,
Ударнік—ні даць, ні узяць...

Такіх, з дазволу сказаць, мастацкіх пэрлаў вельмі шмат у кніжцы. Спрабуе таксама аўтар свае сілы і ў фармалістычным штукарстве, у жангліраванні радкамі:

І жаніх у карагоды,
Перакозаныя боты
Як пушынкі панясе...

Шмат ёсць і граматычных і сінтаксічных памылак і проста непісьменна напісаных строф:

Я канчаю.
Хай замяці дзесці
Зноў *галосіць* у загібах прысад.

Мы ведаем, што тав. Жаўрук з'яўляецца студэнтам універсітэта і такія памылкі дапускаць у кнігах проста сорамна.

Дарэчы сказаць, што і карэктура ў Выдавецтве стаіць не на належнай вышыні. Першы аўтарскі зборнік павінен быць добра прачытан пісьменнымі людзьмі. Знакі прыпынку ў зборніку „Ручаіны“ расстаўлены, як „бог на душу паложыць“. Мабыць па новаму правапісу Выдавецтва выкінула і знішчыла наогул літару мяккі знак. Чым другім тлумачыць, што ў зборніку слова „аддзелькам“ напісана без мяккага знака—„аддзелком“.

Крытык Левін у газеце „ЛІМ“ змясціў рэцэнзію на зборнік „Ручаіны“. Абмежаваўшыся агульнымі сказамі, даўно збітай фразеалогіяй, ён адзначае, што „Ручаіны“ вышэй стаяць за „аднакніжнікаў“, якія існуюць у беларускай паэзіі. Гэта значыць, па Левіну, „Ручаіны“ вышэй у мастацкім сэнсе за кніжку *Алеся Зарыцкага*, *Зямы Півабарава*, *Агняцвет*, *Шушкевіча* і інш. І яшчэ ён піша: „Большасць вершаў у кнізе „Ручаіны“ гавораць пра тое, што Алесь Жаўрук мае мастацкі густ...“

Што гэта сур'ёзная крытыка, ці захвальванне маладога паэта, якое толькі прынясе вялікую шкоду яму і яго сябрам?

Тав. Жаўрук яшчэ не мае свайго паэтычнага голасу. Рытмізацыя і вобразная сістэма творчасці яго прыгадвае нам нядрэнных настаўнікаў паэтаў, як А. Прокоф'еў і Э. Багрыцкі. Аднак, аўтар не разумее таго, што гэтыя паэты найбольш папулярны і любімы ў чытача за высокую культуру, за страснасць, за народную прастату, якая яскравей за ўсё адчуваецца ў паэме Эдуарда Багрыцкага „Дума пра Апанаса“.

Не адмаўляючы ў творчых перспектывах Алеся Жаўрука, трэба яму па-таварыску сказаць, што кніга „Ручаіны“ яшчэ вучнёўская работа, у якой так шмат памылак, што нельга лічыць яе здавальняючай. Вучоба ў лепшых паэтаў, узняцце культуры мовы дапамогуць Жаўрку стаць сапраўдным паэтам.

*Мікола Хведаровіч.*

# ХРОНІКА

**Дваццаціголдзе літаратурнай дзейнасці Сакена Сейфуліна.** 13-га ліпеня ў сталіцы Казахстана Альма-Ата адбыліся юбілейныя ўрачыстасці з прычыны дваццаціголдзя літаратурнай дзейнасці пісьменніка—большэвіка, ордэнаносца Сакена Сейфуліна.

Ва ўрачыстым вечары, арганізаваным саюзам совецкіх пісьменнікаў, прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх грамадскіх арганізацый сталіцы Казахстана. З вялікім дакладам пра творчы шлях юбіляра выступіў казахскі пісьменнік Сабіт Муканаў.

Юбіляр атрымаў прывітанні ад крайкома ВКП(б) і Соўнаркома Казахстана, шматлікія прывітанні ад пісьменнікаў. братніх рэспублік, ад абкомаў і іншых партыйных і грамадскіх арганізацый. ЦВК Казахскай рэспублікі вынес пастанову аб наданні імя Сакена Сейфуліна Семіпалацінскаму настаўніцкаму інстытуту, некальнім школам, вуліцам Акмолінску і Канчэтаве, а таксама станцыі Карагандзінскай Балхашскай чыгункі.

ЦВК рэспублікі ўзнагародзіў юбіляра легкавой машынай.

**Юбілей Ялмара Віртанен.** У верасні месяцы бягучага году ў Карэліі будзе праведзена святкаванне 30-ці гадовага юбілея літаратурнай дзейнасці вядомага карэльскага паэта Ялмара Віртанен. Створана ўрадавая камісія.

Выдавецтва „Кір'я" выдае юбілейны збор твораў Ялмара Віртанен на фінскай і рускай мовах.

**Падрыхтоўка да юбілея Шота Руставелі.** У 1937 годзе споўніцца 750 год з дня нараджэння вялікага грузінскага паэта Шота Руставелі. Уся грамадскасць Грузіі дзейна рыхтуецца да гэтай знамянальнай даты. Падрыхтоўкай да юбілея кіруе ўрадавы камітэт на чале са старшынёй Соўнаркома Грузіі тав. Г. А. Мгалоблішвілі.

Для папулярызацыі творчасці Руставелі сярод народаў Саюза камітэт запрасіў лепшых перакладчыкаў — пісьменнікаў. Паэт Мікола Бажан перакладае вершы Руставелі на украінскую мову.

**Новы украінскі літаратурна-мастацкі крытычны і грамадска-палітычны часопіс**—„Литературный журнал" пачне выходзіць у Харкаве з жніўня месяца. Часопіс рэдагуюць Ів. Кірыленка (адказны рэдактар), Ол. Копыленко, Ів. Кулык, Юрый Смоліч і Юрый Яноўскі.

Часопіс штомесячны. Падпісная плата на год 18 руб., на 6 мес.—9 руб., на 3 месяцы—4 руб. 50 кап. Адрас рэдакцыі: Харкаў, Чэрнышэўская вул., № 63/А—рэд. „Литературный журнал".

* Дзяржаўнае выдавецтва Узбекістана пачало выпускаць раман-газету. У першых нумарах надрукаваны: „Сялянская доля" Ходадзе і „Страшны Тэгеран" Казімі. У чарговых выпусках будуць змешчаны „Хуррам-бек" Джурабаева і „Сеід Алімхан ужо не вернецца" Е. Плетнёва.

* Паэт Айбек пераклаў на ўзбекскую мову „Дэмана" Лермантава. Паэма будзе надрукавана ў часопісу „Гулістан" і выйдзе асобнай кніжкай. Над перакладамі лірычных вершаў Пушкіна працуюць паэты Усман Насыр, Темір Фаттах, Дavailable.

* Узбекістанскі інстытут літаратуры і мовы праводзіць вялікую працу па збіранню сучаснага фальклору. Запісаны народныя песні: „Жыві, Сталін", „Сталін", „Вялікі друг Ленін", „Песня пра Кастрычнік", шмат частушак і песень пра хлапок і Чырвоную армію.

* Аднатомнік выбраных артыкулаў Н. А. Дабралюбава выпускае „Гослітіздат". У кнігу ўключаны наступныя артыкулы крытыка: „Што такое абломаўшчына", „Прамень святла ў цёмным царстве", „Калі-ж прыдзе сапраўдны дзень", „Руская сатыра ў век Екацерыны", „Пра ступень удзелу народнасці ў развіцці рускай літературы", „А. В. Кальцоў", „Вершы Івана Нікіціна" і інш. Памер зборніка—70 друкаваных аркушаў.

* Зборнік артыкулаў А. В. Луначарскага пра Горкага выдае „Гослітіздат". У кніжцы сабрана больш дзесяці артыку-

лаў Луначарскага, якія прысвечаны разгляду асобных мастацкіх твораў вялікага пісьменніка („Дачнікі“, „Клім Самгін“ і інш.) і творчасці Горкага ў цэлым.

* Саюз савецкіх пісьменнікаў прыняў рашэнне аб выданні літаратурна-мастацкага зборніка „Паэты—ордэнаносцы“. У зборнік увойдуць выбраныя творы лепшых нацыянальных паэтаў: Гасема Лахуці, Сулеймана Стальскага, Самед Вургуна, Галакціона Табідзе, Наіры Зар'яна, Паоло Яшвілі, Аліо Машашвілі, Хоца Намсаева, Сакен Сейфуліна і Жыршы Джамбула.

Апрача паэтычнага матэрыялу ў зборніку будуць змешчаны нарысы пра жыццё і творчасць паэтаў ордэнаносцаў.

* Вышаў з друку ў выдавецтве „Гослитиздат“ новы раман вядомай амерыканскай пісьменніцы Пэрл Бак „Маці“. У рамане „Маці“ дадзен яркі вобраз сялянкі-маці, якая страціла дзяцей—сына—комуніста, якога казняць, і дачку, якая памірае ад галадання.

* „Параход ідзе ў Яффу і назад“—раман С. Гехта. Аўтар апісвае сучаснае становішчы яўрэяў у Палестыне—капіталістычны прыгнёт, палітычнае бяспраўе працоўных, іх імкненне ў Савецкі Саюз. Разам з гэтым паказана будаўніцтва савецкага Біраблджана.

Кнігу выпусціў Гослитиздат.

* Выстаўка украінскага народнага мастацтва адчынілася ў Маскве ў цэнтральным парку культуры і адпачынку імя Горкага. Выстаўка арганізавана Усесаюзным камітэтам па справах мастацтваў пры СНК СССР і украінскім упраўленнем па справах мастацтваў пры СНК УССР.

На выстаўку паступіла 5 тысяч экспанатаў мастацкай прадукцыі майстраў 200 вёсак Украіны. У ліку гэтых экспанатаў—рознастайныя маляўнічыя дываны, тканіны, вышыўкі, кераміка, разьба па дрэву, вырабы з лазы і саломы.

* У Маскве вышаў з друку першы нумар штомесячнага нямецкага часопіса „Дас ворт“ („Слова“). Часопіс выходзіць пад рэдакцыяй Бертольда Брэхта, Ліона Фейхтвангера і Віллі Брэдэля.

У першым нумары змешчаны апавяданні Оскара—Марыя графа, Арнольда Цвейга, Ганса Мархвіца, урывак з няскончанага яшчэ рамана Бодо Узе, вершы Б. Брэхта і інш., артыкулы Сцефана Цвейга, Людвіга Маркузэ, Альфрэда Курэллы і інш. Часопіс адгукнуўся на смерць Горкага, змясціўшы партрэт пісьменніка, кароткі некролаг Ліона Фейхтвангера і біяграфію Горкага.

**За мяжою**

— Амерыканскае выдавецтва „Путмэн“ выпусціла серыю кніг пад агульнай назваю „Новая савецкая бібліятэка“. Туды ўвайшлі кнігі савецкіх аўтараў па пытаннях замежнага гандлю, снабжэння і тэатра ў СССР.

— У „Саюзе абароны нямецкіх пісьменнікаў“ у Парыжы адбыўся вялікі вечар, прысвечаны Эрнсту Тэльману.

— У Парыжы, у выдавецтве Карэфур выйшаў раман Андрэ Мальро „Годы презрения“, перакладзены на нямецкую мову Альфрэдам Курэлла.

— „Три толстяка“ Ю. Олешы хутка выйдуць з друку ў выдавецтве „Эдысіон Сосіал Інтэрнасіональ“ у Парыжы.

— У выдавецтве „Пітмэн“ выйшла анталогія англійскай паэзіі за 40 год.

— У 20 нумары часопіса „Дзі Нейес Вэльтбюнэ“ змешчан артыкул Генрыха Манна пад загалоўкам „Не бойцеся“, прысвечаны народнаму фронту.




АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

## ЗМЕСТ

